— Спяваць любіце? — усміхаецца рыбак.— Мо і ў ансамблі якім?

— Не. Прыгадалася адно...

Што прыгадалася, я не расказваю, бо не раскажаш так, як яно хутка і ярка з'явілася ў памяці. Амаль праз паўвека, з тых дзён, калі я толькі-толькі ўваходзіў у юнацтва.

Гэты самы Нёман, але не сонечным жнівеньскім ранкам, а насцярожана і ўрачыста белым, марозным досвіткам. Рака пад лёдам, на лёдзе тоўста снегу, дарога добра ўезджана. Коні дружна бягуць адзін за адным — улегцы весела, дый грэюцца бегма. Я мякка сяджу на мяху з сенам, знізу няхоладна, кажух, шапка, боты надзейныя. А да таго ж і маладосць, што пачынаецца, патаемная радасць ці гордасць заўчасна сталага работніка, гаспадара, ну і паэта глыбока ў душы, якому заўсёды ўсё нова ды незвычайна. І белае рэчышча, што віляе паміж кустамі, не зусім схаванымі пад снегам, і дрэвы, што знізу, ад снегу, цёмна лезуць ажно пад неба над табой. І першы знак новага дня — агнявая палоска зары над далёкім грэбенем лесу, зары нясмелай яшчэ, якая ці то ўжо бачыцца табе, ці то ўспамінаецца з пазаўчарашняй паездкі. Такой самай, у пушчу па дровы. З адчуваннем таксама хвалюючым, насцярожаным. Так і здаецца: вось, вось яно прыйдзе — штосьці даўно чаканае, добрае! Нават і капыты так выстукваюць: вось, вось, вось!..

Коні — як былі лёгка ўзняліся на рысь, так і апляхлі, спакваля перайшлі на ступý,— спачатку першы ці першая (чый там сённячы конь ці кабыла чыя?), а потым і ўсе, увесь маўклівы парожні абоз. Хай падыдуць. Яшчэ не позна, хоць і не блізка яшчэ.

І тут за мною, ззаду і збоку, мякка і хутка пачулася рыпенне снегу пад хадакамі. Дзядзька Міхаль, сусед, які ехаў следам, дагнаў мае сані і гупнуў-сеў перада мною ў нагах. Чалавек ён маўклівы, калі не пануры, і цягавіты, поўная хата дзяцей — маўчы ды думай, як іх на ногі падняць. А тут яму закарцела чагосьці, як блазну да блазна,— прыбег. Не закурыць, не па-

курыць, пацягнуць разоў колькі, бо мы абодва не курым. Пагаварыць пра што пільнае? Не, ён сядзіць і маўчыць.

Маўчаў нядоўга. А памаўчаўшы не гаварыць пачаў, а раптам, як і я цяпер, пры выпадковым сустрэчным, заспяваў. Глуха, прыцішана, можна сказаць, безгалоса. І не песня была гэта, а толькі ўрывачак яе, адзін узлёт — з тым самым белым ветразем на Волзе.

Што за дзіва, чаму?

Вельмі проста — калі яно проста,— учора дзядзька Міхаль заходзіў да нас увечары, і я, разняўшы навушнікі дэтэктарнага радыёпрыёмнічка на двух, пачаставаў яго песняй. Ажно з Масквы, цераз граніцу...

— Соня, здаецца, гэтую не спявае,— гаворыць рыбак.

— Не, гэта даўняе. Была такая Вольга Кавалёва. Збірала і выконвала рускія народныя песні. І сама нават трохі песні пісала. І гэтую, што я пачаў, яна напісала сама.

Пра белы ветразь на Волзе я ўспомніў яшчэ і таму, што днямі, у радыёперадачы, ён прыйшоў да мяне вельмі патрэбна паглыбленым у народнасць расказам пра тую слаўную спявачку, што была спачатку, задоўга да Кастрычніка, маленькай рускай Ольгушкай, якая з печы, тварыкам на хату, зачаравана слухала, як спяваў, працуючы каля акна, яе дзядзька Якаў, вясковы ўмелец-кушнер. Дзяўчынка слухала і, нібы ў прадчуванні свайго вялікага лёсу, заплакала ад любасці да людзей — упершыню, ад усёй чысціні дзіцячага сэрца. Так яна потым успамінала.

— І я люблю, калі Соня не моднае нешта, а па-ўкраінску што ці па-малдаўску. Слухалі?

— Ну,— адказваю я.

— Пра што там, калі па-малдаўску, я не ведаю. Але ж вельмі яно неяк весела. Як ад якое радасці. З эстрады тое сыдзе ў залу, тупае лёгенька па праходзе, і шнур той вядзе за сабою, паміж людзей. Мікрафон у руцэ, а ўсё роўна — рукі раз-пораз узняўшы. У ладкі плешча, ды ўжо не песню, а толькі адзін прыпеў. Чулі? «А-я-я-я! А-я-я-я!..» Так не паўторыш, не. Го-

лыя рукі тонкія, і з твару благая, а вочы свецяцца, гарацць. І так смяецца, усміхаецца, што і самому... І людзі ўсе, што ў зале той, усе за ёю ў лад тое «а-я-я-я!» — так апладзіруюць. Аж хочацца самому заспяваць, каб мог. Як гэта добра, калі чалавек вясёлы! Вы гэта чулі?

Ён не пытае, а перапытвае. І так па-свойску, па-вясковаму ўсміхаецца. І я яшчэ раз гавару, што чуў, што весела было і мне.

Не дадаю адно, што добра не толькі тады, калі чалавек, які можа спяваць, вясёлы. Добра, калі ён мужны, калі ты ведаеш, што такое далося яму не так сабе, а праз пакуты. Мне здаецца, што гэта нам зразумела абодвум і так.

Мы маўчым і глядзім.

І я чакаю — даўнім, юнацкім чаканнем, — што за ракою, на стозе і на пакошы, за нас і нашай радасцю вось-вось запляскаюць-заклякочуць у яснае неба буслы.

*1982*



## Пад зямлёй

Гэта адно — упершыню захапляцца ці зноў і зноў, праз гады, тыдні, дні любавацца зялёнымі, шэрымі, белавяршыннымі горамі, бачачы іх *толькі звонку*, здалёк ці зблізку, а то і глыбока ўнізе, з сонечнага самалёта.

І гэта другое — бачыць іх, горы, пасля таго, як ты пабываў у іх... так, *у іх усярэдзіне*.

Такое было ў мяне ў Новаафонскай пячоры.

Як я слухаў раней пра гэта, не раз і не два, як мог звязваць такое з манастыром, з пячорамі пустэльнікаў, а не з падзямеллем, скажам, старой Вялічкі? Тое, польскае, з дзівоснай саляной капліцай, зробленай двума братамі-шахцёрамі, дзе і скульптуры, і люстры, і саляныя азёры, дзе дыхаецца так прасторна, на ўсе грудзі,— тое ўспаміналася мне пад зямлёй, аднак жа грузінскае, новаафонскае не параўнаць па размаху, па нерукатворнасці ўсёй падземнай красы. З яе высознымі, да ста метраў, скляпеннямі, таямнічым бяздоннем возера, далёка ўнізе пад мастамі, казачнай застыгласцю кальцытавага вадаспаду, сталактытавых і сталагмітавых векавых утварэнняў, фантастычнага прыроднага майстэрства — незнарокавага, геніяльнага *між іншым*...

Ну, і лёгка ўзмоцнены мікрафонам голас экскурсаводкі з грузінскім акцэнтам, і грузінская музыка, песня, сваячка горнага рэха, песня і музыка, што так прыемна гаворыць пра веліч малога (колькасна) народа...

Зрэшты, і немец Бах таксама добра гучыць пад зямлёй, у гарах, у іх глыбіні, яшчэ раз гаворачы пра несмяротнасць сапраўднага.

*1978*



# Шклянка малінавага соку

Магіла пераначавала пустой, а назаўтра, калі прыйшлі туды з трунoю, на дне магілы ўбачылі жывога вожыка. Хоць і зіма яшчэ была, толькі пачатак сакавіка.

Яго дасталі, бо «шкада, жывое».

Я сам не бачыў гэтага, толькі пачуў пасля, калі ўсе дарослыя вярнуліся з могілак на памінкі. У нашу хату, бо гэта хавалі нашага бацьку.

Не бачыў — бачу...

*

Падарожжа вакол Еўропы — гэта ж так многа! Бачу з адлегласці, чытаючы ўспаміны пра Паўстоўскага. А ў мяне ж у тым самым пяцьдзесят шостым годзе была яшчэ і Югаславія, і Польшча, на той раз Беласточчына і Варшава.

А ўчора, калі глядзелі па тэлевізары «У свеце жывёлаў», дзе былі жабы і апалонікі, успамінаў, як мы ў маленстве заўважалі вялікае ў малым, як многа бачылі нават у такіх балотцах, як наша Ракоўшчына, якое цяпер, пасля меліярацыі, даўно ўжо няма.

*

Было нам па дзесяць гадоў, калі Абрам, мой школьны сябрук, на перамене зірнуўшы ў акно, першы ўбачыў, што па золкай асенняй

вуліцы мястэчка ціха ехала нейкае сумнае, мокрае вяселле. І ён, яўрэйскі хлапчук, раптам весела, смачна, так нечакана ледзь не закрычаў: «Без стуку, без груку, памчалі, як суку!» І вось як доўга гэта помніцца — з-за тое нечаканасці і ад самой пагаворкі, якую я тады пачуў упершыню.

*

Выпадковае, самавуцкае збіранне ведаў. Не толькі з кніг, якія б яны ні траплялiся, а нават з адрыўнога календара.

З яго мне помняцца словы Дастаеўскага пра тое, як пазнаваць чалавека па смеху: «Добра смяецца — добры чалавек». Праз мноства гадоў я іх з прыемнасцю сустрэў у «Падлетку».

Помню і словы Салтыкова-Шчадрына пра дружбу, з ёмкай, учэпістай фразай на старадаўні лад: «*Нашед* друга, держись его». Гэта яшчэ не сустрэлася мне ў яго кнігах.

Нават з «фанцікаў» у з'едзеных некім шакаладках «Atlas» была, так сказаць, духоўная ежа. На адной з такіх пругкіх, глянцавых укладачак я ўпершыню ў жыцці прачытаў пра значэнне Льва Талстога, па-польску, на адвароце яго маленькага барадатага партрэта.

«Вялікі рускі пісьменнік і рэлігійны філосаф. У творах сваіх выявіў разуменне чалавечай душы і цудоўны паказ прыроды».

*

Старая, затрапаная гадавая падшыўка дзіцячага часопіса «Маяк». Там — успаміны былога вучня Талстога, Васі Марозава, пра паездку са Львом Мікалаевічам у Башкірыю, на кумыс. Там — раздзелы друкаванай з працягам вясёлай французскай аповесці пра дзівацтвы добрага «дядюшки Гурдебека». Адтуль, з нейкага верша, запомніў я толькі словы «перекати-поле», што ўразілі сваёй паэтычнай незвычайнасцю.

Як прыемна цяпер — свядома, узброенаму

пэўным вопытам — дакранацца памяццю да тых выпадковасцей, знаходзіць сувязь з вялікім!..

Так мне прыемна было значна пазней даведацца, што «Іграка» Дастаеўскага, якога я ўпершыню і, відаць, ранавата чытаў на польскай мове, пераклаў не хто-небудзь іншы, а Уладзіслаў Бранеўскі, адну з любімых кніжак школьнага маленства — «Сэрца» Амічыса — на польскую мову з італьянскай пераклала Марыя Канапніцкая, а на рускую сястра Леніна Ганна Ільінічна.

Так мне сёння было прыемна прачытаць добрыя словы пра той часопіс «Маяк», які рэдагаваў пісьменнік Гарбуноў-Пасадаў, даўно вядомы мне па перапісцы з Талстым і Чэхавым, чалавек ім блізкі, асабліва Льву Мікалаевічу.

*

У беднай хаце, на святочна засланым стале — гліняная міска малака з тварагом. Для госця. Ён пакуль што сядзіць у хаце адзін, бо гаспадар выйшаў на двор, а гаспадыня вось-вось увойдзе з кухні.

Раней за бацькоў у хату з двара ўвайшла дзяўчынка. З мноства, як госцю нядаўна здалося, іхніх дзяцей — адна дзяўчынка, трохі старэйшая, гадоў дзесяць-адзінаццаць. Прыгожанькая, апранутая неяк па-даросламу хораша: спаднічка, кофтачка, хусцінка «пад бараду». І разумная, як бываюць разумнымі дзеці, што гадуюцца пры разумных бацьках ці дзядах. Увайшоўшы, яна ўбачыла тую міску і не толькі, не проста здзівілася, падышоўшы, а ўзяла лыжку, сербанула з місы і, не сказаўшы, падумаўшы толькі з усмешкай: «Смачна!» — палажыла лыжку на стол.

Тут і беднасць, якая балюча расчульвае, і нявіннасць прыгожая, і, як нехта сказаў бы, проста «нявыхаванасць». І ўсё гэта са значэннем, і прыемна помніцца мне, госцю, вось ужо без года пяцьдзесят гадоў, з маіх, часамі няблізкіх паходаў — да яшчэ аднаго кнігалюба.

*

1920—1939 гады — які гастарычна кароткі перыяд! Так думаецца цяпер, так думалі ў свой час дарослыя. І толькі тыя, што тады пачыналі жыццё, што назіралі, вывучалі, любілі яго ў дробязях, маглі лічыць, што ў 1922—1927 гадах, калі мне было пяць — дзесяць гадоў, першая сусветная вайна, рэвалюцыя, грамадзянская вайна былі не «зусім нядаўна», як лічылі дарослыя, а *вельмі, вельмі даўно.*

Гісторыкі здзіўляюцца, як дынамічна развіваліся палітычныя падзеі паміж першай і другой сусветнымі войнамі. А мы — спачатку ў шчасці маленства, а потым першай, *дапрызыўной* маладосці — часцей за ўсё і не думалі пра тое, нават не падазравалі, што і захоплена гуляючы ў «чыжыка», і пазней, на дальніх подступах да таямніцаў кахання, сарамліва перабіраючы пальчыкі першай любімай,— што мы знаходзімся на планетна-вялізнай пукатасці парахавой бочкі...

*

Зноў вось, ужо не ўпершыню ўспомніў маму,— як яна цяжка, упарта ішла за санямі, усё далей і далей ззаду, калі мяне везлі на станцыю, у войска... Падлік свой успомніў,— што мне ўжо столькі цяпер, колькі ёй было ў тое халоднае, панурае прадвесне. Хоць я ўсё яшчэ як быццам і не лічу сябе старым.

*

Гліпішчы.

У першых маіх, у загорскіх, што зараслі травой, мірна, казачна пагрызвалі траўку свінні ды падсвінакі, якіх мы пасвілі. А ў навейшых, не зялёных, з якіх бралі гліну, адна цётка зламала нагу. Капала, падкопвалася, пакуль на ногі ёй не абрынулася зверху многа гліны. Гэта страшна было і само па сабе, і таму яшчэ, што мужык гэтай бабы, дастаючы яе з-пад гліны, яшчэ і патузваў тую нагу, каб

цётцы больш балела. Бо ён, казалі, хацеў пакінуць яе, пайсці да другое, у іншую вёску, што пасля і зрабіў, што было тады незвычайнай рэдкасцю.

А глінішчы, мірныя глінішчы ў бліжэйшым мястэчку, а тады і ў далейшым, большым, а пасля і ў далёкіх мястэчках ды гарадках розных куткоў Беларусі, дзе ў вайну стаялі фашысцкія гарнізоны ды гарнізончыкі, глінішчы тыя сталі... нават не скажаш «брацкімі магіламі». Бо там былі звалены ў страшэнным зганьбаванні голыя, акрываўленыя, адразу дабітыя, а то і не зусім дабітыя людзі. Трупы не толькі братоў, як прынята спрадвеку называць пакладзеных у адну магілу пабітых, парваных на часткі салдат, але ж і астанкі сясцёр, бабуляў, матак, дзяцей...

«На сметнік гісторыі»,— як гаварылі гітлераўцы, за што іх, далёка не ўсіх, потым паклікалі да адказнасці.

А ў ззелянелых, шчодра ззелянелых над крывёю глінішчах павырасталі помнікі.

*

«Што ваш таварыш разбалбатаўся? Ешце вось ды ідзіце хутчэй, пакуль хто чужы не нагадзіўся!..»

Так гаварыла цётка ў першай для нас, уцекачоў-палонных, беларускай хаце. Гаварыла Патапу, адклікаўшы яго, пакуль я радасна, як сваім, расказваў мужчынам пра нашы ўцёкі. Хата была над возерам, навокал лес. Мужчыны штосьці сталярылі, удвух ці ўтрох, не памятаю. Патап падышоў да мяне, сказаў па-свойму пануравата: «Пайшлі», мы завіхнуліся з хлебам ды малаком, падзякавалі і пайшлі.

Успомніўшы гэта зноў, я даўгавата глядзеў карту Польшчы, шукаў тое, апошняе для нас, чыгуначнай станцыі ці паўстанка Шчэпкі, адкуль мы рушылі пехатой, і не знайшоў яе. Недзе паміж Сувалкамі і Аўгустовам ішлі мы, кіраваліся на Гродна...

У чэрвені шэсцьдзесят восьмага года адзін з маіх польскіх сяброў правозіў мяне недзе

прыблізна там. Помняцца лебедзі на лясных шматлікіх азёрах і макі ў прыдарожным няспелым жыце.

І цётка разумная помніцца.

*

Позняй ноччу ішоў па пясчанай вуліцы чужое вёскі і неяк дзіўна, хораша ўявіў, гледзячы на поўны месяц, што наша Зямля — здалёк, у космасе — праменіць яшчэ і песнямі.

Успомнілася, як па гэтай самай вуліцы, гадоў некалькі таму назад, ішоў з даўно былымі дзяўчатамі, маімі старэнькімі ўдовымі сёстрамі і таксама старэнькай братавай удавой, госцяй з далёкага горада, і спяваў з імі песню іх маладосці — «Чудный месяц плывет над рекою...».

*

Шклянка малінавага соку, якая з самага маленства была, можна сказаць, традыцыйным пачастункам, абы я завітаў да сястры, што і далёка па тым часе («за семнаццаць вёрст!») замужам і ледзь не як маці старэйшая за мяне.

І пазней ужо, яна мяне, юнака, частавала таксама: «Выпі хоць гэта, калі ўжо гарэлкі не п'еш».

Праязджаючы па чужых вёсках, калі я на светлых вокнах, за фіранкамі, у розтуле карункаў, бачыў вазоны кветак і слоікі з ягадамі, што не менш, чым кветкі, хораша рдзелі ў сонцы, заўсёды ўспаміналася, што недзе ж стаіць яна — маліна і для мяне.

Яшчэ больш соладка ўспамінаецца сёння.

*1983*



# Гіпноз

Каржакавата-тоўсценькі, сыта-загарэлы пад выцвілай ад сонца кепачкай, ён сядзіць на лаўцы каля зялёнага плоціка. На асфальце, побач з яго кірзачамі, стаіць пустое вядро, прымурзана-чырвонае ўсярэдзіне. Парэчкі толькі што прададзены недалёчка адгэтуль, на доўгім стале пад павеццю, дзе прадаецца сёе-тое з агарода, з саду, з лесу. Схіліла з паўдня, нягорача. Людзей тут, на пасялковай аўтобуснай станцыі, нямнога, і яго, і майго аўтобусаў яшчэ няма. Ёсць час пагаварыць, дый хочацца, бо бачыліся мы нячаста.

— Здароўя пытаеш. Якога ты хочаш, браце, у маіх гадах здароўя? Семдзесят шосты. Калі дзе трохі скокам, дык потым і бокам. Але ж не возьмеш, ліха яму, з капліцы старую пратэсу ды не пойдзеш, сам па сабе жывы галосячы. Трымаюся, пакуль трымаецца. Да доктара, можна сказаць, і зусім не хаджу. От, павітаемся на вуліцы. А да Чмута не пойдзеш — памёр. Які, кажаш, Чмут? Я і сам, браце, мог бы быць такім чмутам, як ён. Мой дзядзька быў у Амерыцы, у Канадзе. Яшчэ пры цары паехаў, лепшага хлеба шукаць. А пры Польшчы быў прыслаў мне кнігу пра гіпноз. Па-руску напячатана. Я яшчэ ў войску тады не служыў, толькі-толькі на кавалера браўся. Усю зіму тую кнігу чытаў. І сам пачаў практыкавацца. Тры пальцы во так наставлю, ці так сабе, ці ў твар каму-небудзь, вочы натарапачу — гляджу, як ён міргае. А ўжо

далей мне і самому смешна — засмяюся! І сарваў сеанс. Не ў кожнага яно і палучаецца.

А Чмут наш без кнігі, а нейкім таксама гіпнозам лячыў. Сам, мажа, класаў са два і прайшоў, але разумных слоў нахапаецца і гаворыць, браце, так, што людзі і вераць, асобенна бабы. Часаслоў чытаў у царкве. Я кажу: «Ты ж тых цітлаў не ведаеш, як жа ты іх чытаеш?» — «Па памяці». Памяць у яго была. І ўсюды ён лез. «На вайне,— казаў, — і афіцэры мяне баяліся. Як гэта можна,— выступіў я раз у Германіі, ужо Берлін было ўзяўшы,— як гэта можна, каб нашы доблесныя воіны, не толькі радавыя славяне, але і камандны састаў, лібзалі вуста фашысцкім медхенам ды фравам? Што гэта за разурат!..» Во, браце, як.

А то прыходзіць раз да яго адна маладзіца. За дваццаць пяць, падлічыўшы, вёрст. Во куды погалас дайшоў! І гэта ж ужо не даўней, не пры панах, і не ў акупацыю, а гадоў нешта з дзесяць таму назад. Наша баба, калхозна-саўхозная. Просіць, каб даў ёй чаго такога, каб свякроў памерла. Чмут спачатку ўзяў яе на гіпноз, у вочы ёй наталопіўся, ці не правакацыя якая. А потым гэта бярэ канапель, шчопці зярнятак са свайго ўсялякага прыпасу. Расцёр тыя каноплі, вады імі у бутэлечцы закрасіў і кажа: «Тры разы на дзень папырскай старой на пасцель — праз тры дні памрэ. Але глядзі, каб у дарозе ані разочку не азірнулася!» А дзе ж ты, браце, бачыў, каб гэта баба за дваццаць пяць вёрст ні разу не азірнулася? Ці машына якая ззаду, ці сабака, ліха яму, ці проста так, таму што няможна. Прыходзіць яна потым зноў. Лякарства — усё, а свякроў жыве. Чмут уталопіўся зноў ды як гаркне сваім гіпнозам: «Што, азіралася?!» Баба — у дрыжыкі. «Дзядзечка, толькі разочак адзін. Дайце лякарства, дзядзечка, што ні скажаце — не пашкадую».— «Маё срэдствія,— кажа ён,— за другім разам не дзействуя. Ідзі». Так яна і патэпала.

А то яшчэ раз было...

Слухаць чужое, а думаць сваё — гэта можна. А запісаць такое адразу, падвойным цягам, нельга. А думаў я так... ці, лепш — успомнілася мне, слухаючы, такое.

Малога мяне маці паслала ў суседнюю вёску да бабы, што памагае. Нашай карове стала нядобра. А мама сама пайсці не магла. І брат старэйшы некуды паехаў. Ці, можа, і трэба было, каб пайшоў не сталы хто, а малы, так сказаць, з поўным даверам. Гэта ўжо сёння я так думаю. А помніцца яно прыемна, з пажылым цеплаватым сумам,— тое маё хлапечае адчуванне важнасці такога даручэння. Што гэта дрэнна нашай Кухарцы, і што гэта мама паслала мяне. А яшчэ ж і навіна́, нечаканасць такая — не на пашу іду, як штораніцы, не па іржышчы, не па траве, а па гладкай сцежцы ўзбоччам гасцінца, у іншую вёску, у людзі!..

Была ў мяне з Кухаркаю віна... Праўда, і кара ды пакаянне адразу ж былі. Першага красавіка трэба было ашукаць каго-небудзь, з самай раніцы, а дома была адна мама. Яна паліла ў печы, а я ўбег з двара ды з парога, як найбольш спалохана: «Кухарка наша паваліліся каля хлява, раве!..» Мама — на двор. Кухарка стаіць сабе, жвайку жуе, на першае сонейка жмурыцца. Мама яшчэ на хаду расперазала фартух, давай мяне ў хаце махрамі шалёстаць. Крычаў я, што гэта звычай такі і што болей не буду, але сваё атрымаў. Махры не толькі пякліся, асабліва калі па вушах, па руках, але і няўмольна сведчылі, што ты яшчэ ўсё малы і дурны, хоць і перайшоў ужо ў пяты клас і кніжкі ўсякія дарослыя чытаеш.

Кухарка, калі яна добра наесца, калі яе так напасеш, што і клубоў не відно, ужо здалёк, да брамы падыходзячы, стане і зараве. Маму кліча з даёнкай. А мама, калі яна дома і чуе, адгукаецца: «Іду ўжо, іду!..» Сырадой быў, вядома, смачны і сам па сабе. Калі ж яго не з конаўкі, а ў міску наліць, накрышыць туды чорствага хлеба або палажыць тварагу, дык гэта ўжо будзе — ну!.. Біць масла ў бойцы-стаўбуне — работа была нудная і найчасцей мая. Толькі смя-

тана, што выступае з бойкі, добра ліжацца з пальца. Спачатку густая, потым усё радчэйшая і, нарэшце, з крупінкамі масла. І смачна, і перамога — збілася! Добрая луста хлеба са свежым кіславаценька-мяккім на смак, зверху пасоленым маслам, які-небудзь Рабінзон або Чычыкаў — дачытваць іх жуючы,— плата на месцы і такая шчодрая!..

І вось Кухарцы нашай нядобра...

Прыйшоў я да тое бабы, пра хату яе дапытаўшыся, а баба стаіць каля печы. Я павітаўся і расказаў, як мне было загадана, што да чаго. У печы гарыць, а баба, старая ўжо, босая, ногі чарнейшыя, чым у мяне, аберуч абаперлася на гаршчэшнік, рожкамі ўніз, і глядзіць мне ў самыя вочы. І пакуль гаварыў, і калі ўжо кончыў. Відаць, таксама гіпноз. Глядзела, глядзела, а потым правай рукой пацягнула-зачэрпала з носа і ляпнула перад сабой, на няроўны, нямецены ток. Ледзь не пад ногі мне — цэлым курыным зліўкам.

— Добра,— сказала пасля такое кропкі.— Я солі дам. Паможа.

Ці памагло або як памагло — не памятаю. Бо толькі тым ляпам мой паход у памяці і канчаецца.

І другое.

Тады я ўжо быў дзецюком, калі да старэйшага брата зноў прычапілася рожа і мне прыйшлося везці яго да шаптухі, у іншую вёску.

Там ужо баба была не старая, даволі гладкая. Вёскі нашы амаль суседнія, можна сказаць, што ведалі ўсе пра ўсіх калі не ўсё, дык вельмі многа. На мужыку сваім яна ездзіла, казалі, ўсеўшы адразу пасля вяселля. У вочы яму, як быццам і не злуючы: «Усё ж сяло, усенечкія людзі ведаюць, што ты дурны!..» А то і пры некім: «Усё ж сяло пра яго...» А ў чалавека толькі і граху, што рахманы, маўчун. І работнік на ўсё, пры пані сваёй — і на бабскае. Натура ў бабы — не жыве, а толькі прыглядаецца, тапырыцца, чакаючы нападу немаведама ад каго, ад чаго, абараняецца, забягаючы без прычыны ды без патрэбы наперад.

Але гіпноз у яе быў лісліва-ласкавенькі. Шаптала, загаворвала яна не талопячыся, а з заплюшчанымі вачыма. І так, як заяц можа баць з раскрытымі, яна з заплюшчанымі бачыла ўсё. Не толькі тое, як ты ўсміхаешся, але і што ты думаеш, і што ты будзеш думаць заўтра.

Спачатку яна пашаптала над хворым, тады над кавалкам кужалю, які я прывёз, пасыпала кужаль жытняй мукой, знізу абвязала братаў чырвоны, распухлы твар тым палатном, зноў расчулена ды ўрачыста пашаптала, заплюшчыўшы вочы, і з той самай лісліва-хітранькай усмешкай, з якой сустрэла нас, не вытрымала, сказала мне на «вы»:

— Што ж вы прыехалі да мяне? Вы ж у гэта не верыце.

— А я не прыехаў, я брата прывёз.

Ці толькі так я сказаў, ці яшчэ што — добра не помніцца. Бо ў памяці найлепш жыве галоўнае, як я, малодшы, дома захутваў на сем год старэйшага ў доўгі кажух, як памагаў яму, амаль зусім бездапаможнаму, сесці, прылегчы ў санях-вазку, як спяшаўся па белай, ціхай дарозе, як рады быў, што дрэвы тады стаялі ў нейкай святочна-чысценькай шэрані...

Адно было вельмі даўно, другое таксама даўно.

А зусім нядаўна, не ў колішняй вёсцы, а ў сённяшнім горадзе, з «гіпнозам» трапілася і такое.

Добры хлопец, замучаны яшчэ студэнцкай язвай, перабраўшы ўсялякі ратунак, апытаў недзе «дзіва-жанчыну», што таксама памагае. Прыляцела яна ажно з поўдня, ледзь не адтуль, дзе з'явілася легендарная Зора, што лечыць як быццам толькі па вельмі высокаму класу. Гэтая Зора, другая, нічога за лячэнне не бярэ. Нават можа пакрыўдзіцца, калі памкнешся плаціць. Так папярэдзіў добры хлопец, спачатку па тэлефоне, а потым і пры сустрэчы.

Па дабраце сваёй ён запрасіў не толькі мяне. Калі я прыйшоў да яго, там ужо людзі былі. Хто знаёмы, з кім ён мяне цішком пазнаёміў, а

каму я толькі кіўнуў, павітаўшыся, як у царкве якой, святочна-ўрачыста. У бакавым пакоі, за дзвярыма, лячэнне ўжо ішло.

Неўзабаве і я дачакаўся чаргі.

Жанчына тая была ўжо крыху ў гадах, аднак узяць гіпнозам, чаго добрага, яшчэ магла б. Чарнявая, паўнаватая, як гаворыцца, «аб сабе», з адкрытым дабрадушным тварам і чорнымі, вялікімі вачыма. Здалося, што цыганка, а потым яна пра сябе тое-сёе сказала. І што «зусім не цыганка», і што лячэнне яе — па дзеду, які многім дапамог, і што вучонаму брату не падабаецца яе новы занятак. А ў яе гэта — радасць, калі чалавеку паможа.

— І вам памагу. Пройдзе ўсё. Нават тут жа, адразу адчуеце, як палягчэе.

Гаварылася гэта ва ўтульным пакойчыку, з паліцаю кніг, пісьмовым сталом і вялікім светлым акном, за якім далёка ўнізе і яшчэ далей у тры бакі распасціралася стракатая панарама гарадской ускраіны.

Жанчына пачала лячыць. Я быў ласкава пасаджаны на крэсле, мне было сказана пра нічога не думаць. Яна стала перада мной, лёгкімі, плаўнымі жэстамі малых далоней з рухавымі пальцамі без манікюра зводдаль сілуэціла мяне ўсяго ад галавы да ног, ад ног да галавы, то адну хворую нагу, то зноў усяго, і шаптала, шаптала... Гледзячы сваімі чорнымі, вялікімі зусім упэўнена і вельмі ж неяк прастадушна ды прыязна.

Ад гэтай прыязнасці, да таго ж, як запэўніў мой малады сябар, поўнасцю шчырай, бескарыслівай, мне было... проста прыемна. І не шкада, што прыехаў сюды, згадзіўся на тэлефонную прапанову без веры, што гэта паможа, толькі з цікавасці і таму, што здалося няёмкім добраму хлопцу адмовіць.

Гэта — не ўсё, што я адчуў, успомніў за тыя хвіліны, калі я павінен быў пра нічога не думаць.

Згадаўся жнівень сорак чацвёртага, камандзіроўка ў Мінск, наогул першая ў маім жыцці службовая камандзіроўка. Прыехаў я са свайго

гарадка не адзін, а з таварышам, я — часовы рэдактар, ён — сакратар раённай газеты. Час быў, пахадзілі па горадзе, зайшлі ў цырульню, што прытулілася ў нейкім бараку каля цагляных руінаў. Таварыш сеў першы і здзівіў мяне сваёю просьбай да маладой жанчыны: «Перш за ўсё, дарагая, памыем галаву». Ён быў старэйшы, гарадскі, бывалы, з акружэнцаў, а мне, вясковаму, галаву мылі толькі ў маленстве, маці, а то ўсё сам. Таварыша потым галілі, рабілі яму масаж. А я тым часам рыхтаваўся ў думках да такое ж поўнае раскошы. Гэта цяпер паняцце «камандзіроўка» звязана з другім паняццем — аўтобус, цягнік, самалёт. А тады мы доўга чáпалі пешкі ў той бок, дзе сталіца, пакуль з нас не злітаваўся нейкі выпадковы грузавік. Спачатку поту было на спёцы, потым пылу ў кузаве, і памыцца вельмі хацелася. Да таго ж яшчэ я быў малады, клопат жаночых рук, спрытных, пакуль яна мыла ды паласкала маю чупрыну, і пяшчотных, калі рабіла масаж, успрымаўся з затоеным хваляваннем.

Цяпер, у сябравым пакойчыку, рукі «дзіва-жанчыны» не дакраналіся да мяне, аднак яны і здалёк хвалявалі, наводзілі на ўспаміны. Не толькі інтымныя — больш, адпаведна ўзросту, бывала-мудрыя, ці што.

Згадалася маленькая, асобная палата ў далёкім чарнаморскім санаторыі, скручаны радыкулітам... зноў жа друг, даўні, надзейны, нашмат старэйшы за мяне.

Два месяцы перад гэтым ён аўдавеў, цяжка, замкнута перажываў сваю адзіноту, і мы, бліжэйшыя сябры, угаварылі яго паехаць са мной. Бо і яму палячыцца таксама трэба было, хоць ён пра гэта спачатку і гаварыць не даваўся. Восем год панскай турмы, уся вайна ў пяхоце, разведчыкам, жонка доўга хварэла, самому ўжо зусім пад семдзесят, а ён: «Клін клінам трэба выбіваць». Пакупаўся халодным ранкам (хай сабе поўдзень, але ж канец кастрычніка), і абложыў яго востры радыкуліт.

Санаторныя медсёстры — таксама ў белым, як і бальнічныя, аднак на курорце людзі менш



6

лечацца, больш адпачываюць, да таго ж яшчэ не заўсёды па ўзросту молада. І сёстры гэтыя не вельмі ўмеюць і не надта любяць даглядаць таго, каму раптам заняможацца па-сапраўднаму. Мой друг быў чалавек вясёлы, любіў прыязна жартаваць, знаёміцца, пра гэта ўжо ведаў і медперсанал. А як скруціла яго, дык толькі сёй-той са знаёмых заходзіў, асабліва калі непагодлівы дзень. Сёстры мяняліся, аднак іх клопат пра хворага быў аднолькава лёгка-казённы, яны ўсё больш з паперкамі ды ледзь не з пазяханнем каля тэлефона. Разоў колькі заходзіў доктар, таксама па-дзяжурнаму канстатаваў наяўнае, пра сёе-тое пытаўся, сяк-так абнадзейваў. А чалавек ляжаў ды курчыўся ў старым спартыўным касцюме, ноччу адзін у сваёй адзіночцы, а перад усімі, хто заходзіў, паказваючы свой аптымізм, штодня ўсё з меншым падабенствам.

Неяк уранні, калі я, як звычайна, пастукаўся да яго, з палаты пачулася жаночае: «Няможна. Трохі пачакайце». Чакаць прыйшлося даўгавата. Пасля адтуль выйшлі дзве ў белым. Адна, з пасудзінай і ахапкам бялізны, шмыганула па калідоры, другая спынілася перада мною. Павіталася з цёплым святлом спакою на прыемным абліччы, усёй паставай здалася мне чысценька белай.

— Вы з трыццаць пятай? Друг ваш цяжкі, але памаленьку ўсё будзе добра.

Пасля гэтых чыстых слоў пайшлі «нячыстыя», што зусім не здаліся такімі:

— Страўнік трэба было ачысціць. Столькі дзён...— Яна з дакорам пакруціла галавой.— Памыць яго трэба было, пасцель змяніць. Заходзьце.

З сябрам цуду, вядома, адразу не адбылося. Перада мною ён звычайна не лічыў патрэбным усміхацца, калі горка. А тут усміхнуўся сяк-так — чысты, у чыстай пасцелі — і скупа, але без натугі сказаў:

— Во чалавек... Прысядзь.

Можа, так яно і не вельмі тактоўна было, але праз тыдзень, калі мы ўжо збіраліся ад'язджаць, сябар, яшчэ ўсё лежачы, намогся, а я не

змог не паслухаць, і — ад яго — прапанаваў ёй грошай... У вестыбюлі, сам-насам. Сказаць, што жанчына надта здзівілася, не скажу: відаць, такое бывала ўжо неаднойчы. Сказала, праўда, «навошта гэта?», а я сказаў, што ён вельмі прасіў не пакрыўдзіць яго, прыняць. «Што ж...» Яна ўзяла тыя ружовыя купюрынкі, палажыла ў кішэню халата, і мы пастаялі, пагаварылі.

Я не памыліўся — яна тут новая, не толькі ў гэтым корпусе, а наогул у санаторыі. Дагэтуль працавала ў анкалагічнай бальніцы, за дваццаць год наглядзелася ўсяго. Муж на адказнай рабоце, сын ужо кандыдат. А пра сябе: «Ну, як сказаць? Проста сваю работу я люблю»..

На развітанне я працягнуў руку. Яна падала сваю — малую, цёплую і чыстую пасля ўсяго «нячыстага» і цяжкага, што ёй так часта, многа даводзілася і яшчэ давядзецца рабіць. Пацалаваўшы гэтую руку, я, каб схаваць шчаслівую збянтэжанасць, зманіў:

— І гэта па ягонай просьбе.

...Штосьці падобнае, трошкі падобнае я адчуваў і цяпер, седзячы перад «дзіва-жанчынай».

Калі яна перастала шаптаць ды чараваць рукамі і пыталася: «Што, адчуваеце палёгку?» — я, затаіўшы ўсмешку як найглыбей, гаварыў: «Ага, адчуваю». Так паўтаралася разоў са тры. А потым мы з гэтай светлай дзівачкай ціха, прыязна рассталіся. Я і падзякаваў, сказаўшы, што гэта — за дабрату.

Нешта такое ж сказалася пасля і добраму хлопцу, гаспадару.

Я выйшаў у прыхожую, а з другога пакоя ў той, дзе засталася жанчына, быў запрошаны наступны. Яшчэ адзін паважаны таварыш, якога, дарэчы, раней не было. Наш агульны з гаспадаром знаёмы, ужо не толькі літаратар, але і вучоны, доктар ажно філасофскіх навук. З выгляду — дай бог кожнаму, але ж таксама з нейкай бядой ды з усмешкай, заўсёды ў яго поўнай веры ў бясхмарную бясконцасць, а цяпер — нібы крыху вінаватай, ці што, а больш дык такой, што і ён, разумеецца, трапіў сюды толькі з чыста прафесійнай цікаўнасці...

Успамінаю ўсё гэта, а маналог на лаўцы каля зялёнага плоціка яшчэ ўсё ідзе. І тэма тая самая — пра Чмута.

— ...Сустрэў я раз яго,— расказвае таварыш весела,— гадоў са тры таму назад, дык ён гэта, браце, ледзьве ўжо хвост валачэ. «А дзе ж гіпноз? — пытаюся.— Што ж ты сам сябе не палечыш?..» Толькі рукою махнуў. Толькі пратэсу, ліха яму, бяры ды ідзі... Стой, браце, гэта ўжо мой аўтобус!

Маналог абарваўся. Расказчык амаль усхапіўся, узяў вядро, яшчэ ўсё моцна пацісну ў маю руку, спешна падаўся да аўтобуса. Хоць ён толькі што спыніўся і як быццам адразу дваімі дзвярмі ўздыхнуў, адчыніўся з духаты ўсярэдзіне — на свежасць на дварэ. Пасажыры выходзяць, хто назусім, а хто праветрыцца ды размяцца. Новых сабралася няшмат. Нам яшчэ можна было б і пастаяць, бо і аўтобус жа пастаіць. Аднак таварыш ведае, што і пра месца трэба загадзя... Сеў ды махае мне рукой. І на развітанне, і каб я ўжо ішоў сабе, на лавачку, чакаць свайго.

Ну што ж, бывай! Мо і сустрэнемся яшчэ. Без пратэсаў, на самагіпнозе, не стогнучы.

*1983*



## Званок

На сустрэчы з выдатным артыстам яму задалі і такое пытанне:

«Ці адчуваеце вы цяжар сваёй вядомасці?»

Артыст усміхнуўся, нават узяўся рукой за галаву, нібы з жаданнем заклапочана чухнуцца, тады яшчэ шырэй усміхнуўся і расказаў пра адзін тэлефонны званок.

Званок быў, вядома, не першы і не апошні, аднак вельмі позні. Ні днём, ні ноччу спакою няма!.. Артыст празаічна вылез з-пад коўдры і, штосьці адпаведнае мармычучы, падышоў да тэлефона.

«Міжгорад? Хто? Ну, Міша, ну і што?.. А, гэта ты, Сяргей! Ну, што там у цябе?»

Тут наш славуты госць зусім натуральна выявіў на твары тую самую начную радасць. Аказваецца, у яго нічога не прасілі, нікуды не выклікалі, не запрашалі, ніяк не хвалілі! Той Сяргей, апынуўшыся ў далёкай камандзіроўцы, добра-такі там засумаваў, і вось яму захацелася проста пачуць жывы сяброўскі голас.

Як гэта добра — проста сяброўскі голас!

Вядомасць — яна ў кожнага свая, хто колькі зарабіў. Розных званкоў таксама бывае больш ці менш, як у каго. Але каб агоркнуць часамі — хапае іх кожнаму.

Адзін званок, даволі позні, не так мяне ўзлаваў, як спачатку вельмі здзівіў.

Сябар з вайны, слаўны хлапчына, з якім мы сустракаемся вельмі рэдка, а пішам адзін аднаму толькі пад Новы год, паштовачку, раптам звоніць па міжгародні́м, з далёкага райцэнтра, ноччу... Здароў! Здароў!.. Нешта ж павінна быць вельмі пільнае: ці ў Мінск, «да добрага доктара», трэба самому або камусьці з блізкіх, ці паступаць вучыцца нехта збіраецца, ці перавесці каго з адной работы на іншую, ці стаць якой сваячцы на чаргу з кватэрай... Пакуль што — нічога падобнага. Пытаецца, як жыву. Расказвае, як жыве. Даволі весела, зусім няспешна.

«Во размахнуўся,— думаю.— Рублёў на пяць напрастарэкуе. А то і да дзесяткі ўжо дабіраецца...»

А ў яго тым часам і яшчэ пытанне:

— А як табе, браце, падабаецца міжнароднае становішча? Га? От дзе паршыўцы!..

І гэтак далей. Ледзь не з поўнай свабодай.

Глядзі, што вось-вось і да ўнутранага пяройдзе. Цуд, дый годзе. А потым, нарэшце, разгадка. І радасць. Бо звоніць ён — проста так сабе.

— І я ўжо, браце, на пенсіі. Не будаўнік. Дома сядзець не захацелася, бо што ты выседзіш. Адна таска заесць. Вартаўніком цяпер у нашай канторы дзяржбанка. Дзяжуру сёння. Сяджу сабе і думаю: дай пазваню. Тэлефон на стале. Па справачнай мне нумар твой далі. Ахвота словам перакінуцца.

Ахвота, браце, а як жа. Дзякуй, што пазваніў! Хоць раз за трыццаць дзевяць год. І яшчэ калі пазвані. Бо тэлефон ужо ёсць, ды яшчэ ж і казённы. Усё ж такі ты на заслужаным адпачынку.

*1983*



## Шапка

У чалавека вялікая галава. Вечныя клопаты з тым, што называюць галаўным уборам. Улетку можна і без нічога, а то ж зіма ўжо, вецер, снег і мароз, і чалавеку холадна ў берэце. Зноў сунуўся ён у адзін, у другі магазін — нічога не падыходзіць. Не вытрываў — пайшоў да самога дырэктара універмага.

Стаіць, нібы дакладвае, бо той, з-за свайго вялікага пісьмовага стала, прысесці не запрасіў. Выслухаў і спытаўся:

— Кім работаеце?

У чалавека ледзь-ледзь праз горла пралезла:

— Пісьменнік.

Дырэктар падумаў і вырашыў:

— Вышэй кроліка не зможам. Ды і кролікаў пака няма.

У вачах чалавека пачалі загарацца слёзы.

— Каб вы ведалі, як мне прыемна з вамі гаварыць,— сказаў ён і пайшоў.

Для справядлівасці дадамо: дырэктар потым пісьменніку пазваніў. Што ёсць «кролік», што можна зайсці. Ды той ужо штосьці тым часам дастаў,— падзякаваў і не зайшоў.

І яшчэ адзін эпілог. Калі мы з сябрам наведалі ў бальніцы аднаго з нашых найбольш паважаных старэйшын і засталі там аднаго з адказных за ўзровень літаратуры, я расказаў пра гэтае сваё здарэнне з шапкай. Усе мы смяяліся. Толькі адзін чамусьці неяк стрымана, як не паверыўшы...

*1983*



## Парыпванне

Першы пасляваенны пленум беларускіх пісьменнікаў. У самым канцы незабыўнага сорак пятага года. З удзелам гасцей з Масквы, Ленінграда, з суседніх братніх рэспублік. Хто ўжо ў цывільным, а хто і ў ваенным яшчэ, ужо без пагонаў, а то і з пагонамі. І толькі адзін у

скураным паліце: ён быў на нейкай пасадзе. Маўклівы і лысы.

Гасцей было многа, а наш саюз нешматлікі, і праводзіць гасцей абавязалі таксама і маладых. Мне з сябрам прыйшоўся якраз той скураны. А мы — яшчэ ўсё ў лясных неданосках. Прывезлі госця на вакзал, прывялі да вагона. Ён моўчкі, мы тым больш. А на пероне нам нечакана трапіўся адзін з работнікаў апарата Саюза пісьменнікаў, анекдатычна тоўсты і дасціпны гаспадарнік, які з далёкай эвакуацыі вярнуўся таксама ў скураным балахоне, зношана-шалушлівым, зашмальцавана-бліскучым на жываце.

А ўсё ж наш паважаны госць паціснуў руку толькі яму, і ў вагон падаўся такім манерам, як быццам нас з сябрам і зусім там не было...

Ён і цяпер жыве, і няхай яму, як спрадвеку гаворыцца, пан бог веку прадоўжыць. Бо і піша таварыш, калі верыць рэцэнзіям, добра.

Яно вядома, што лепш мне ўзняцца над гэтым даўнім выпадкам, ужо неаднойчы ўспомніўшы ды пасмяяўшыся, узняцца і чытаць яго кнігі, па-сталаму падумаўшы, што і сам ты, чаго добрага, быў калі-небудзь, а то і не раз, такім ці так або інакш падобным, чаго сам не заўважаеш. Добра было б пасмяяцца з гэтага разам з ім самім, бо адчуванне смешнага ў яго, здаецца, ёсць. Я заўважыў гэта на адным паважаным застоллі ў ягоным горадзе, дзе нам, праз трыццаць пяць гадоў, давялося зноў пазнаёміцца.

Не пасмяяліся. І чытаць яго прозу мне яшчэ ўсё, хочаш не хочаш, перашкаджае парыпванне тое скуранкі.

*1983*



## Сілуэтна

Дружнай кампаніяй, на дзвюх машынах едзем па летняй Літве. Прывал над Нёманам. Ён тут шырэйшы, чым у нас, нават пад Гроднам,— разлёгся воддаль, ніжэй ад шашы, паблісквае, нібы зусім не быстры, не плыве.

На самым беразе — адзінокая хата, можна падумаць, што рыбакова. На фоне вадзяной прасторы яна сілуэціцца вельмі выразна. Потым з той хаты выйшлі трое: гаспадар, гаспадыня і госць — пасля пачастунку. Здагадацца пра гэта няцяжка, бо развітваюцца яны з абдымкамі — і раз, і два, і яшчэ раз. Адно гаворкі амаль зусім не чутно. Нарэшце гаспадар з гаспадыняй вяртаюцца ў хату, а госць — сілуэтам на самым урэзе зялёнага берага — ідзе ў свой бок. Ды раптам чалавек гэты спыняецца, стаіць і думае: «А чаго я, уласна кажучы, узяў ды пайшоў? Можна ж у добрых людзей і яшчэ пасядзець!..» Пра гэта мы таксама толькі здагадваемся. А чалавек вяртаецца ў хату.

І тут неўзабаве адбываецца рэзка нечаканае. З хаты на госці, можна сказаць, выязджае, ды не памалу, сама гаспадыня. Сілуэтна-нямая карціна агучваецца. Што крычаць — не разбярэшся, проста чуцён, на братняй мове, бабскі высока абураны крык са значна ніжэйшым мужчынскім уторам...

Выгнала, адагнала, вярнулася ў хату. Магчыма, і замкнулася, усё далейшае выгаворваючы свайму.

А нядаўні сардэчны госць, так зганьбаваны ў другім акце надрэчнай ідыліі, стаіць на фоне

ўсё той жа сонечнай вады і ўжо не толькі понасу богу, але і нам, праезджым, выказвае сваё абурэнне. Што гэта іменна так, а не інакш, мы мяркуем па тым, што ён не толькі павернуты тварам да нас, але раз-поразу і руку ўздымае то ў неба, то да нас, нібы з арэны ў найвышэйшыя рады трыбунаў. Крычыць ён прыблізна такое: «Што ж ты, дурная баба, ганьбіш мяне? Вунь жа сюды глядзяць курортнікі!..» Слова «курортнікай» мы, як-ніяк, разумеем. Да таго ж яшчэ чалавек, яўна з разлікам на немясцовых, раптам свой маналог падмацоўвае агульнасаюзным, асабліва выразна спелым сярод незразумелых слоў выслоўем.

Не першы раз за дзевятнаццаць год успомнілася гэта зноў. Нават і з загаловачкам, прытчава-павучальным, як для кароткага тэлеспектакля:

Усяму свая мера.

*1983*



## Можа і бліснe?

Бацька вельмі хацеў, каб дачка вывучылася хоць на фельчарку, калі ўжо на дактарку не ўдалося, а яна паслухалася старшыні, стала на ферме цялятніцай. І нічога — працуе, замуж выйшла за добрага хлопца, жывуць — «няма чаго грашыць». Бацька, можна сказаць, зусім ужо

не злуецца. Нават аднойчы, калі той старшыня спыніўся перад яго дваром, пачаў запрашаць:

— Асмяялі вы мяне тады, Данілавіч, дык ужо ж і гонар зрабіце — выпіце ў маёй хаце.

І той, хоць не вельмі, як тут гавораць, «лятóнцы да чаркі», зайшоў.

Другая дзеўка ўцякла адгэтуль у іншы раён. Там выйшла замуж і неўзабаве папрасілася назад у свой калгас.

Старшыня сядзіць за сталом, яна на крэсле перад ім, брыгадзір і я — на канапе, збоку. Ён, гаспадар, спакойны і ветлівы, і па натуры такой, і па свядомасці, ці, можа, трохі і перада мною, «карэспандэнтам». А маладзічка ніштаватая, бойкая, зубы, калі засмяецца, беленька роўныя, усе свае.

— Шукаць чагосьці ездзіла,— усміхаецца старшыня.— Уцякла.

— Чаго шукала, Данілавіч, тое знайшла. І вам жа я трактарыста прывезла!..

Калі яна задаволена выйшла, ён сказаў:

— Вясёлая. І трохі злосная, заядлая. Па маме. Ды злосць і ў рабоце патрэбна. Ну, а ў цябе, Напорка, што?

Гэта — да брыгадзіра.

— Трэба вам, Данілавіч,— загуў той у адказ,— пагаварыць ■ Маханьком. Можа, у яго, туняяда, совесць якая заблішчыць!

Старшыня, зноў з усмешкай:

— А што ты думаеш, можа і бліснe? Хай зойдзе.

*1983*



# Манархі і Кудлач

На іншыя кантыненты мне дагэтуль не пашанцавала, а з афрыканскага і азіяцкага двух манархаў меў гонар бачыць.

Абісінскага негуса — выпадкова. У Ленінградзе. З сябрам, які праводзіў мяне, мы ехалі на таксі ў аэрапорт, спяшаліся, аднак нас затрымалі. Пакінуўшы таксі на бакавой вуліцы, мы — хочаш не хочаш — далучыліся да тых, што павінны былі вітаць высокага госця.

Ці гэта праспект быў залішне шырокі, ці людзей прыйшло малавата, але — помніцца — аблямоўка асфальта выглядала з абодвух бакоў даволі вузкай, нават вузенькай.

Тым не менш, яго вялікасць, няРослы, чорненькі барадачок, стаяў у чорнай адкрытай машыне з усёй адпаведнай важнасцю, руку трымаючы пад казырок вайсковай шапкі з чырвоным аколышам.

Пакуль я бачыў яго анфас, пасля, адпаведна руху машыны, у профіль, паспела згадацца даўняе, з трыццаць пятага года. Як гэтае слова, «негус», упершыню тады пачутае, спалучалася з іншымі, таксама экзатычнымі: Эрытрэя, Адыграт, Адыс-Абеба і, як вянец усяму, Абісінія. Бедная Абісінія, першая ахвяра фашызму, першы намёк пра набліжэнне сусветнай бяды. Аднак і гэтая краіна, і сама вайна, як вайна для ўсіх, здаваліся тады вельмі і вельмі далёкімі ад нас...

Калі машына з негусам мінула нас, яго нярослая вялікасць ззаду ўбачылася мне... толькі

шапкай. Вялікай шапкай з нейчай галавы, як у меншага брата, якому яе прыйшлося даношваць. Яна трымалася на вушах. Так і змалеў ён, імператар, на вачах, зацёрся ў перспектыве — толькі вушы і завялікая шапка...

Іранскага шаха бачыў я дома, у Мінску. І, як ні дзіўна, аніяк не магу прыгадаць ні праезда гэтай вялікасці, ні выгляду яго, хоць і стаяў я вельмі зручна, на самым краёчку панелі. Усё для мяне абарвалася ў памяці на адным непрадбачаным, незвычайным здарэнні.

Праспект наш, відаць, не вузейшы за той, ленінградскі. Шырокай паласой ён віднеўся далёка ў абодва канцы,— туды, адкуль мы чакалі высокага госця, і туды, дзе ён знікне, куды яго гасцінна павязуць. Мусіць, таму, што мы ўсётакі правінцыя, і манархі з іншых краін нас абмінаюць, на тую сустрэчу народу сабралася процьма. Панелі былі забіты людзьмі, балконы, вокны, нават дахі — у людзях, усюды яны, як быццам іх і сапраўды чакае нейкая радасць.

Яна прыйшла. Раней за высокага госця.

Яшчэ брынела нячутна, у многіх сотнях душ, струной нацягнутая напружанасць чакання. Шырокі і даўжэзны, чысценькі ў летнім сонцы асфальт гатовы быў вось-вось прыняць і гладзенька панесці многія колы ўрачыстага картэжа... Але адтуль, адкуль чакаўся госць, паказаўся і стаў набліжацца да месца, дзе я стаяў, здаравенны рыжы кудлач, аблавухі, крывавата разлапісты, наланцужны гаўкала, прасцецкі рабачай. Адкуль узяўся? Дзе, з чаго сарваўся?.. З бакоў і зверху, ззаду і спераду яго падганяў тысячагалосы крык, смех і свіст,— уся напружанасць чакання вылілася на яго. І не было куды падзецца. Бедны дварняга лупіў наперад, як сіла мага, а натоўп, умомант стаўшы адным, агромністым, бяздумным блазнам, галёкаў і рагатаў!..

Ды тут якраз недзе далёка там, адкуль Кудлач той вырваўся, паказаўся пачатак урачыстага картэжа. А перад Кудлачом, адрэзаўшы гро-

мам бліскучай медзі дарогу далей, грымнуў маршам ваенны аркестр... Сабака рэзка тармазнуў, як перад прорвай, ушчэнт спалохана-разгублена-нявінна сеў і моўчкі, мудра апрастаўся. На самым чыстым-урачыстым месцы.

І толькі гэта мне апалітычна помніцца праз гром і рогат.

*1984*



## Абы на здароўе

Былы партыйны работнік, таварыш салідны і прыемны, інвалід вайны. Разумна, весела расказваў у вагоне, як ён калісьці прысутнічаў на адным пасяджэнні прэзідыума Акадэміі навук. Слухалася сельскагаспадарчае пытанне. Таму, што самога прэзідэнта не было, пасяджэнне вёў віцэ-прэзідэнт, Якуб Колас. Свінагадоўля разглядалася і здалёк і зблізку, і вырашана было, нарэшце, што каб падняць яе, неабходна мець больш заатэхнікаў.

Тады слова ўзяў віцэ-прэзідэнт.

— Калі я быў, таварышы, малы,— сказаў ён,— дык бацька часам браў мяне на кірмаш, у Стоўбцы або ў Нясвіж. Купляў ён там парася, а мама выкормлівала з яго вепрука — пудоў на дзесяць — пятнаццаць. Спачатку на зеллі, потым на вобмешцы. Умела яна іх карміць. Свінням, таварышы, трэба не многа заатэхнікаў, а добры харч.

*

Стары ўдавец ажаніўся, а малога суседняга хлопчыка мужчыны паслалі спытацца: «Дзеду, няўжо вы яшчэ можаце?» Завучыў тыя словы, патэпаў. Дзед не прагнаў малога, не паўшчуваў. «Пайдзі ты, хлопчык,— сказаў ён,— ды перадай тым дзядзькам, якія цябе паслалі, што справа не толькі ў гэтым. Так і скажы: справа не толькі ў гэтым.»

Таму малому цяпер семдзесят сёмы. Настаўнік на пенсіі. Успамінае і добра, разумна смяецца.

*

Цяпер кажуць арганіка, але старэйшыя людзі называюць яе, тую арганіку, проста, як і зямлю, адным спрадвечным ды прывычным словам.

Снедаючы ў гарадскога брата, на шмат старэйшая за яго сястра, вясковая бабка, кажа:

— Картопля ў цябе добрая. Швагерка, мусіць, зноў прывезла. Яно і відно, што не на ўдабрэннях, а на г... расла.

Брат, інтэлігент, усміхаецца, але ж яму ўжо і прыкравата. Братавуха стрымана маўчыць. А дочкі-студэнткі, што і любяць цётку па-свойму, ажно заходзяцца ад смеху. Цётка недаўмявае:

— От калі! Што ж я такога сказала?

Як і ў такім вось, у іншым выпадку:

Мастацтвазнавец выступае ў сельскім клубе з лекцыяй пра народнае ўмельства. Гаворыць доўга, падрабязна, нудна... Нарэшце бабка адна не вытрымала. Спакойна, але ж уголас, хоць і прыцішана спыталася, як у самой сябе:

— І хто ж гэта ў гэтае яго г... дражджэй укінуў?

*

Малады грузчык, што вучыцца завочна ў тэхнікуме, пытаецца ў пажылога шафёра лесавоза, дзе б гэта знайсці лягчэйшую работу.

— А во,— зусім сур'ёзна кажа той, спраўны, вясёлы рабацяга,— у нас будуюць каля вёскі птушкаферму. На сто дваццаць тысяч лехгорнаў. Ужо набіраюць рабочых,— на курашчупаў.

*

Старая хваліцца:

— Дзеці мае, дзякуй богу, добра жывуць: самі не робяць, толькі другіх правяраюць.

*

Калісьці дарогі былі спрадвечныя, па дарогах хадзілася ды ездзілася з толкам. Была і тады эканомія часу, але ж была і гаспадарская ашчаднасць, беражлівасць зямлі-карміцелькі.

Не тое, што цяпер, калі «зямлі ў нас хопіць», калі мы развучыліся яе шанаваць. З вёскі на брыгадны двор развеерваецца спачатку пяць — дзесяць — пятнаццаць сцежак, а потым, на пракладзеным, спакваля і калёсных дарог.

«Урбанізацыя» — вёска масава перабіраецца ў горад і туды прыносіць сваю «свабоду руху». Газон не газон — шчодрае зрэзванне вуглоў, два крокі, а то і паўкрока ўбок не зробіць. Можна падумаць, што так ужо на работу спяшаюцца...

У Даўгаўпілсе бачыў калісьці на месцы, дзе нехта прыезджы адну сцяжыну на газоне быў пачаў, такую шыльдачку: «Праход толькі для сланоў». І слон намалёваны, усё ж такі слон — не свіння.

Госць мой, якога я туды прывёз, убачыў гэтую шыльдачку, нават наткнуўся на яе, хочучы сігануць цераз газон, і не сігануў, а весела ды з сорамам засмяяўся, нават зняць яго там, перад шыльдаю, папрасіў, каб завезці на свой Урал.

*

Камандзіровачная спартсменка ў рэстаране. Нізкая, шырокая, з налітымі сілай ляжкамі і задам. Барцыца ці самбістка нейкая. Сядзе за стол паснедаць і — адразу злосная. Адзін раз накрычала на афіцыянтку («Я спяшаюся!..»), а другі раз нават на кухню пайшла — сварыцца. Важнасць, самаўпэўненасць, напор. І... нічога жаноцкага.

І навошта гэта, пра што такое асабліва сведчыць яе, няхай сабе нават і першае, месца?

*

Вельмі складаная апаратура, якую я таксама не магу назваць, і дзядзька, што ў канцы вайны быў падлеткам і гора хапануў удосталь,—

вельмі цяжка, калі не безнадзейна хворы. На кансіліуме згадзіўся на нялёгкую, рызыкоўную аперацыю (ныркі, артэрыі) і — з поўным правам амаль смяротніка — гарласта, з лаянкай, расказвае, як яму на той «нейкай» апаратуры яшчэ ў Віцебску рабілі абследаванне.

— Як сунула мне той укол, чую, што дзвесце грам. Дык і стаў мой жывот поўны камення. А яна — яшчэ трыста грам! Прывінцілі мяне за рукі, за ногі, і чую я, што з носа ў мяне сіні дым пайшоў, а ўвесь мой струмант, хлопчыкі, адарваўся і пляснуўся аб сцяну! Мацаю потым — няма! І пупа таксама няма! А грэлка нейкая так ціснe на жывот, што ўзяў ды скінуў. «Што вы здзелалі!» — крычыць яна. А я кажу: «Ты яшчэ вазьмі ды сама сядзь на мяне!..»

Усе мы, мужчыны, рагочам,— і менш і больш сур'ёзна хворыя.

*

Вахлакаваты, але ж і з гонарам трактарыст любіць паўспамінаць пра вайну, калі ён быў танкістам. І ўзнагароды ёсць, і раненні, і ў акружэнні быў, і наступаў. Трохі, аднак, перабірае з успамінамі, зашмат паўтораў, папахвае і пахвальбой. Сябры па саўгаснай рабоце — і маладыя, і старэйшыя, што і самі ў запечку не сядзелі — пачалі з яго зрэдку пакепліваць.

— Скажы, гэта цябе, людзі казалі, каля Навасёлак заклініла ў танку? Усе вашы наперад ірванулі, а ты дзён пяць ці нават сем не мог з таго танка вылезці. Пакуль ажно тэхнікі не прыехалі. Бабы цябе праз шчыліну аладкамі кармілі...

Таварыш ветэран зноў выбухае справядлівым, заслíненым гневам, а хлопцы смяюцца.

*

Рухавы мужчынка гадоў за сорак. Сюды, за вялікае возера, дзе пасецца калгасны статак,

прывозіць па маторцы даярак, забірае малако. Адзін з нямногіх, што ўцалелі ў яго вёсцы ад фашысцкага расстрэлу.

З родным дзядзькам, які яго *тады* выратаваў, часамі б'ецца на вёсцы, на пацеху суседзям, вядома ж, пад чаркай. Амаль зусім няма правага вуха. Думалася, што гэта — памятка *тых* страшных дзён, і думалася з пашанай. А потым аказалася, што гэта чалавек аднойчы фанабэрыўся, выпіўшы, як ён можа голымі рукамі ўзяць любога злоснага сабаку. Паказаў гэта на практыцы. І нейчы Мурза адгрыз яму добрую палавіну вуха. І гэта «сэ ля ві»?..

*

Гумар, калі зусім няма чаго рабіць, а чакаць, у гэтым выпадку аўтобуса, трэба. Вось горба смецця амаль каля самага Нёмана, а на ёй — атопак-чаравік.

— У раку яго, хай плыве,— кажа адзін, а другі:

— Ну, хоць свету пабачыць.

*

Па тэлевізары. Замежная спявачка прыехала з Масквы ў правінцыю — на гастролях у Мінску. Больш тэорыі, чым практыкі, больш грунтоўнасці ва ўступе і ва ўступчыках да кожнай песні, чым належнага пацверджання выкананнем. А інтэрв'ю вядзе наша, мінская журналістка. Высокім і прачулым стылем:

— На спеў нашай паважанай госці слухач рэагуе кожнай клетачкай сваёй істоты...

Раней сказалі б «усёй душой» ці «ўсім сэрцам», а сёння — энтээраўская падкаванасць.

А ў самое клетачак тых — ледзь у джынсы ўлезла.

*

Два лядашчыя сабакі, большы і меншы, рыжы і чорны, брахач і падбрэхіч, выскачылі з хутарскога двара і з ёкатам кінуліся да мяне.

Знаёмыя, нястрашныя, і я сказаў ім:

— І не брыдка, хлопцы, удвух на аднаго? А ты ж, рыжы, яшчэ і з вусамі.

І тут сталася нечаканае: яны адбегліся, паселі мордамі да Нёмана, што ўнізе, пад абрывам, а за ім лугі і лес на даляглядзе, зноў браханулі, але ўжо неяк інакш, і тут жа брэх гэты — з унутранай патрэбы ў жаласці, у нараканні — перайшоў у выццё з падвываннем, таўсцей і танчэй. Так і павылі дуэтам, невядома, чаго і навошта.

Пакуль я пастаяў, смеючыся, што вось шкада — няма з кім парагатаць.

*

Бранеўскі любіў выступаць са сваімі вершамі. Перад рабочымі, перад моладдзю. Аднойчы яго запрасілі ў школу. Прыйшоў, а там — малеча з пачатковых класаў.

«Што ж я ім буду чытаць? Няма ў мяне нічога для такіх...»

Аднак выхад знайшоўся.

— Дзеці, хто з вас умее хадзіць на руках?

Аказалася — ніхто. Тады ён, славуты паэт-рэвалюцыянер, пажылы чалавек з вельмі нялёгкім лёсам, палажыў свой партфель на стале і — прайшоўся на руках па класе перад партамі. На радасць аўдыторыі, на страх настаўніцы. А тады папрасіў яе адзначыць яму пуцёўку.

Гэта малым запомніцца назаўсёды. Многія, можа, праз гэта і вершы яго пачалі чытаць.

І мне прыемна, весела было пачуць пра такое. На жаль, калі ўжо Уладзіслава не было.

*

Цюцька такі далікатна-маленькі, што калі ён захацеў задраць ножку на кусцік з выключным размахам ды шыкам — перакуліўся.

Прыклад пра фанабэрыстых, але маленькіх.

*

Пачынаў ён, працуючы шафёрам грузавой машыны, а сёння, праз дваццаць гадоў, ужо

вядомы пісьменнік, які шчасліва прымасціўся ў сталіцы, каля самога размеркавальніка выгод і прывілеяў.

У групе літаратараў з розных рэспублік плыве па Амуры, па праву сваёй «вядомасці» ўжо з даволі важкай «супругай». У Мікалаеўску музейная работніца, сціплая, гарушчая жанчына, пасля агляду расказвае, на пытанне гасцей, што ў іх тут цяпер часова тугавата з мясам. Кілаграм на душу.

Супруга:

— На тыдзень?

— Не, на месяц.

Тады ўжо смех «вядомага»:

— Га, га, га! У нас сабака больш з'ядае на дзень!..

Раманы ў яго таўсцейшыя, чым у Талстога.

*

Мастак. Вітаючыся на вуліцы, ніколі не забываецца спачатку выняць рукі з кішэняў плашча ці паліта. Сазваніўся з вядомым пісьменнікам і прыйшоў замалёўваць яго твар для партрэта, «усё іншае» зрабіўшы дома. Працуе, гутарыць. Старэйшы таварыш пытае, як жывецца, творыцца, як жоначка, ці ёсць у іх дзеці. Ані зважаючы, што ў пакоі яны не адны, стаяць, глядзяць і дочкі гаспадара, падлеткі-школьніцы, мастак, з усёй свабодай сваёй культурнасці адказвае: «Яшчэ няма, але як іх рабіць мы ўжо ведаем...» Партрэт атрымаўся такі, што пры сустрэчы з мастаком пісьменнік, тым часам ужо і стары, успамінае тыя фотаздымкі, дзе і конь, і шабля ў задзёртай руцэ — усё чужое, агульнае, толькі што дзірка пад шапкай, а ў дзірцы твой твар. Мастак, вітаючыся, па-ранейшаму папярэдне вымае рукі з кішэняў, часамі нават усміхаецца.
А пісьменнік зноў папракае сябе ў душы за мяккацеласць, што не дазволіла яму тады, калі пазіраваў і пачуў ультрамодны адказ, проста вытурыць партрэціста за дзверы.

*

У крытыка можна было б спытацца:

— Чаму такая неадпаведнасць? У вашай кнізе пра Ікса аж пяцьдзесят старонак, а пра Ігрэка толькі семнаццаць?..

Ён мог бы адказаць:

— У першым выпадку трэба значна даўжэй даводзіць, што мой аб'ект даследавання — добры пісьменнік.

*

Няўжо гэта абавязкова — усаджваючы ў літаратурнае карыта і свой лыч, спачатку кашкануць ім суседа справа ці злева, а то і таго і другога? Хаця карыта гэтае аж надта доўгае, шырокае...

Падумалася так, калі чытаў яшчэ адно маладжавае інтэрв'ю з уступна-недарэчнымі і проста хамскімі «заўвагамі» пра тых, хто піша інакш, чым ён, ці не тое, што ён, прыгрэты першым, больш уяўным поспехам.

*

Новае моднае слова ў некаторых крытыкаў: «духоўнасць». Адзін з іх, ці не найменш духоўны, у выступленні сваім з трыбуны столькі разоў прадалдоніў пра гэта, што хоць ты яму духоўную семінарыю адкрывай. З большым акладам.

Дубаваты, самаўпэўнены, ён робіць гадавы агляд літаратуры, часта паўтараючы: «Гэтага я не прымаю. Гэта я прымаю...» Так часта паўтарае, што аж спытаць хочацца: «Слухай, хлопец, а хто ж ты такі? І што, калі іменна ты не прымаеш?..»

*

Наша любімае «ў цэлым». Можна і так: у цэлым накрыўся дзіравым плашчом.

*

Выпускніца вясковай вячэрняй школы вучыцца на філфаку,— там, куды знатнаму сваяку лягчэй было яе ўладзіць. Дзеўка бойкая, што ўжо і чарку ведае, і кавалераў. На першым курсе экзамен па рускай літаратуры. Выцягнула білет: «Поэма М. Ю. Лермонтова «Демон». Ціхі жах... Ды тут ёй раптам пашанцавала: адной студэнтцы стала дрэнна, і гэтая, з білетам, кінулася ёй па ваду. На калідоры гарачым шэптам спыталася:

— Які гэта, дзевачкі, дэман? Той, што Мазепа?

— Ды не! Гэта той, што лятаў!

Няўжо і яны ўваходзяць у тыя мільёны з вышэйшай асветай, якімі мы даволі часта казыраем?

*

Спявала ў хоры, лічыла сябе красуняй, ужо не спявае, але прыгожай лічыць сябе і цяпер, ужо растаўсцелая безнадзейна. На юбілеі мужа вырашыла ўсіх гасцей-мужчын узнагародзіць сваім пацалункам. Увесь стол абышла. Хочаш не хочаш, але ж госць — трымайся...

*

Пажылы народны артыст не захацеў больш выступаць па радыё пасля таго, калі ў адной перадачы, дзе яны выступалі разам з маладзейшым, толькі заслужаным, яму, народнаму, заплацілі «за гаварэнне» тыя самыя дзесяць рублёў, што заслужанаму за імітацыю сабачага брэху.

*

Сціпласць некаторых паэтэс: «А потым пра гэта *напісаўся* верш». Узяў ды сам напісаўся, нейкая сіла вышэйшая цераз яе.

*

Апоўдні, папрацаваўшы, лёг пачытаць. Устаў ён сёння вельмі рана, і сон марыў, марыў яго, пакуль не змарыў. Чалавек то чытаў, то драмаў, то зноў чытаў, чапляючыся за тыя самыя абзацы, перачытваючы ўжо чытанае і не зусім разумеючы яго. Калі ж, нарэшце, падрамаў і прачнуўся, дачытаў той артыкул, вярнуўшыся амаль да пачатку яго, і стала смешна, бо жыва ўявілася, што гэта ён лез, караскаўся на высокі, шчыльны плот і ўсё абсоўваўся па штакецінах, а ўсё лез...

*

«Я вось цябе так хвалю, а галава не закружыцца?»

«Яна ўжо кружыцца ў мяне патроху ў іншы бок — назад...»

*

Пакінутая мужам, відаць, каб і гэтым заспакоіць неяк сваю крыўду, жанчына весела расказвае пра дробязную акуратнасць «гэтага чалавека»:

— Няма таго, каб узяць ды проста гузік прышыць, калі гэта трэба, або ўжо мне сказаць. Дык не, ён спачатку ў сваім блакноціку акуратна запіша: «Прышыць гузік!..»

Сяды-тады гэта мне ўспамінаецца ў дачыненні да самога сябе. Замест таго каб проста браць таго быка за рогі, я доўга, здалёк прыцэльваюся, прымяркоўваюся да тэмы, запісваю, перазапісваю... І сяды-тады ўспамінаю той запіс пра гузік.

*1980—1983*



# Нястомнасць

«Схіляю галаву перад сваёю вуліцай»,— гаворыць стары чалавек, былы падпольшчык.

У гады акупацыі ён, у гэты бок вырваўшыся з акружэння,— маскоўскі апалчэнец, а перад гэтым даволі высокі адказны работнік,— дзеля легальнага існавання працаваў шаўцом, якім раней ніколі не быў. У бацькоўскім драўляным доміку, на ўскраіннай драўлянай мінскай вуліцы. Латку якую там прышываў, набойку набіваў, а як што больш, дык сувязная адносіла да сапраўднага шаўца, таксама свайго чалавека.

І людзі-суседзі не выдалі — амаль за тры гады. Можна і пакланіцца.

Расказвае таварыш і смяецца, што і сёння яшчэ, праз трыццаць шэсць год пасля вызвалення, калі яго часамі спыніць на пераездзе цягнік, ён, па прывычцы падпольшчыка, пачынае лічыць вагоны. Пасажырскія, таварныя, платформы... Нібы яшчэ ўсё трэба яму перадаваць звесткі пра варожы рух на гэтым чыгуначным вузле.

Юрыст на пенсіі, ён многа піша ва ўсе інстанцыі, да найвышэйшых уключна, сігналіць, стары камуніст, пра непаладкі і пагрозы нашаму ладу. Не ананімкі — адкрыта і смела. Яму найчасцей не адказваюць, а то адказваюць з ветлівым вывертам і ўдзячнасцю, а ён усё піша. І кажа, што як толькі спыніць сваё змаганне — адразу памрэ. Бо ўжо і восьмы дзесятак капчаецца.

Сухаваты ад свае гарачыні, ён раней, як ад-

вакат, напорыста і нястомна змагаўся за тых, каго лічыў несправядліва або залішне сурова пакаранымі. І цяпер яшчэ да яго звяртаюцца, просячы дапамогі, парады.

Неяк ён расказаў мне пра яшчэ адну сваю перамогу.

Хлопцу ў сорак чацвёртым годзе было шаснаццаць. Маці, баючыся, каб і яго не вывезлі ў Нямеччыну, «на работы», за два месяцы да вызвалення Беларусі ўладзіла сына працаваць у радыёкамітэце, нейкім там вучнем пры тэхніцы. Пасля яго судзілі за... супрацоўніцтва з ворагам. Колькі там маці не даводзіла, колькі добрыя людзі не сведчылі, што і за ім столькі тое віны, што і яна дапамагала падпольшчыкам. Пасля турмы сына не рэабілітавалі, проста выпусцілі дачасна. А потым, у канцы пяцідзесятых, ужо інжынера, чалавека сямейнага, раптам знялі з работы — усё з-за таго самага.

Стары адвакат узяўся за гэтую справу. Дамогся справядлівасці,— чалавека рэабілітавалі, вярнулі на працу.

— Адказ прыйшоў на яго імя, але на мой адрас,— расказваў ён мне пасля.— Так робіцца: каб я, абаронца, перадаў яму. Панёс я ім гэтую залатую паперку. Якраз было восьмае сакавіка, як з падарункам пайшоў у сям'ю. І ён расплакаўся, хацеў мне руку пацалаваць. І я з ім таксама расплакаўся. З усімі імі. Так вось, мой дарагі...

Ён гаварыў гэта, зноў выціраючы слёзы. Першыя для мяне — за тры з палавінай дзесяцігоддзі нашага знаёмства.

*1983*



# Адкрытка

Маладзейшаму вераб'ю вельмі блага. Ён цяпер далёка. У ціхай глыбінцы, пад роднай апекай, што чалавеку вельмі патрэбна ў жалобе і дэпрэсіі.

І вось якраз цяпер мне хочацца нагадаць яму адно наша агульнае, што было ўжо, як і шмат чаго, даўно або вельмі даўно, што не-не ды зноў усплывае ў памяці нейкай палёгкай.

Нічога асаблівага, толькі нібыта светлы сігнал, які, зноў атрымаўшы яго, можна перадаць другому нават не ў пісьме, а ў адкрытай паштовачцы. Вось так:

Ты памятаеш, як мы з табой, на цэлых пятнаццаць год маладзейшыя, ішлі па вясновай вуліцы далёкага, утульнага гарадка, ішлі ўдвух да нашага трэцяга, што жыве ды працуе тут, на сваім месцы. Пра штосьці мы гаварылі, ужо не памятаю, пра што,— можа, вясёлае, можа, талковае, а то і так сабе,— от, ішлі, гаварылі. А потым заўважылі страшнае. Каля старога мастка, у завадзі невялікай рачулкі моўчкі тапіўся хлопчык. Так, так,— ён не крычаў, відаць, яшчэ не верачы, што гэта — канец, што трэба клікаць на дапамогу. Мы яго выцягнулі, кінуўшыся туды, і — мокры, перапалоханы, белагаловы — ён патрусіў па абочыне вуліцы ў патрэбны яму бок, паспеўшы нам ці самому сабе, а то адразу і сабе, і нам сказаць праз губную-зубную дрыготку:

— Па-бяг-гу д-да цёткі В-ван-ды!..

Мы тады паразважалі на хаду, што, можа, да цёткі малому проста бліжэй, а можа, яна бу-

дзе менш крычаць, чым крычалі б адразу дома... Яму відней.

А нам — успамін на двух.

Я ўжо бачу, як ты, мой горкі, трохі ўсміхаешся.

*1983*



# Якуб Міско

## 1

Яшчэ так нядаўна было два тэлефонных нумары, рабочы і хатні, па якіх то ўранні, то ўвечары можна было пазваніць, пачуць у трубцы нязменна ветліва-дзелавое: «Слухаю вас», а як пазнáе — вясёлае: «Здароў, браток, здароў!..» Ён быў заўсёды блізка, на сваім месцы, да вечара перадапошняга дня. Бадзёры, прыязны, дасціпны.

Яго таварышы па журналісцкай працы ўспамінаюць, што дзверы Якубавага кабінета часцей за ўсё былі адчынены на калідор. Туды хацелася зайсці, пагаварыць па справе ці так сабе, там было проста, утульна і весела.

Душа старэйшага таварыша таксама была адкрыта для кожнага, у яе не трэба было стукацца, прасіцца на прыём. Забывалася пра тое, што яму за шэсцьдзесят, потым за семдзесят,— ён быў заўсёды малады, цікаўны да жыцця, закаханы ў яго па-юнацку.

Хоць і нялёгкім, а то часамі і вельмі нялёгкім было яго жыццё. Спачатку, з дзён зялёнага юнацтва, заходнебеларускае камуністычнае падполле, катаванні ў дэфензіве, больш за восем гадоў за кратамі — у славутых Лукішках, Уронках, гродзенскай турме. Пасля, з першых дзён Вялікай Айчыннай, баявы шлях салдата, які ён пачаў радавым разведчыкам, а да Берліна дайшоў гвардыі маёрам з пяццю высокімі ордэнамі.

Былі і іншыя цяжкасці ды нягоды...

У адным з блакнотаў, знойдзеных пасля ў яго рэдакцыйным стале, ёсць запіс-верш для самога сябе, які пачынаецца так:

Я гляджу на сонца і яго не бачу,
слухаю я песню і яе не чую,
успамінаю радасць і ніяк не ўспомню,
да сяброў заходжу, а на сэрцы камень...

Тры гады вельмі цяжка хварэла жонка, яго сардэчны друг, мілая Аня, дзяўчына з тульскай рабочай сям'і, беларуская радыёжурналістка. Пасля яе смерці, застаўшыся толькі з пляменніцай, ён тры гады свядома насіў у сабе таксама невылечную хваробу, амаль штодня, у любую пагоду наведваў Аніну магілу на далёкіх ускраінных могілках, і толькі па гэтых наведваннях мы, людзі з яго найбліжэйшых, маглі меркаваць, якім глыбокім быў Якубаў смутак.

Яшчэ адзін запіс з таго блакнота, хутчэй за ўсё прачытанае ў кагосьці або ўспомненае з прачытанага раней, бо і запісана па-руску: «Жизнь можно прожить как угодно, но умереть ты должен как джентльмен». Не будзем аспрэчваць, адкінем гэтае, яўна не Якубава, «как угодно», а наконт джэнтльмена засведчым, што іменна так ён, наш да канца вясёлы, працавіты, прыязны, молада зацікаўлены друг пайшоў з жыцця, сам-насам з апошнімі пакутамі, ударыўшы па душах родных і сяброў гэтай нечаканасцю.

Многія памятаюць, а пачуўшы пра яго адыход яшчэ раз успомнілі вераснёўскі нумар часопіса «Маладосць» за мінулы васьмідзесяты год, дзе была надрукавана аповесць Якуба Мі-

ско «Было яно калісьці...». Аўтару яе тады адны званілі, другія гаварылі пры сустрэчы, трэція пісалі, кожны па-свойму паведамляючы пра добрае ўражанне ад гэтага, нескладанага па форме і ёмкага па зместу твора. Пра вялікае значэнне такіх дакументальна-аўтабіяграфічных кніг неаднойчы гаварыў Леў Талстой; помніцца мудра простае: «Прожил жизнь — расскажи». Якуб пражыў змястоўнае, складанае жыццё і пра пачатак яго шчыра расказаў у сваёй аповесці, якая ад шчырасці атрымалася таленавітай, патрэбнай.

Такое здараецца і з больш адоранымі, больш вопытнымі ў літаратурным майстэрстве,— удача прыходзіць тады, калі чалавек нападзе на сваё, толькі сваё. Усё ад той жа сціпласці, што не давала яму ходу ў кар'еры, Якуб і пра сябе, пра кроўна перажытае не адразу асмеліўся пісаць непасрэдна, адкрыта, а спрабаваў схавацца за прыдуманага героя. Гэта не ўдавалася, першы варыянт аповесці я, як адзіны чытач яе ў тым выглядзе, па нашай з ім узаемнай звычцы сурова пакрытыкаваў, і праз нейкі час яна з'явілася ў новым варыянце, вылузаная з шалухі непатрэбнай умоўнасці,— уяўны Марцін стаў рэальным Якубам, і рэч ажыла.

Думаючы пра асобнае выданне, аўтар старанна, удумліва дапрацаваў яе. У часопіснай публікацыі дзеянне аповесці канчалася векапомным вераснем трыццаць дзевятага. Асмелены, падмацаваны станоўчымі водгукамі, Якуб напісаў і другую частку твора, ваенную. Другая частка, у аснову якое паложаны значна раней апублікаваныя ў перыёдыцы нататкі «Па ваенных дарогах», на жаль, напісана больш скупа, фрагментарна. Гэта знаходзіць сваё апраўданне і ў тым, што, цяжка хварэючы, ён залішне спяшаўся. На шчасце, часткова захаваліся Якубавы ваенныя пісьмы да Ані, тады яшчэ нарачонай, і да Валянціна Таўлая, сябра рэвалюцыйнай маладосці. Пісьмы гэтыя — жывыя, непасрэдныя сведчанні перажытага — хораша дапаўняюць Якубаў расказ пра яго франтавыя гады і, апроч таго, цікава расказваюць пра пер-

шыя мірныя месяцы ў Германіі, дзе ён заставаўся як афіцэр акупацыйных войскаў.

Не магу не сказаць, чаму франтавыя пісьмы захаваліся толькі часткова. Аня хавала іх усе, відаць, і перачытвала. Не маючы дзяцей, гэтыя слаўныя людзі былі надзіва прывязаны адно да аднаго. Калі ў іх бывала разлука, на месяц які, а то і на тыдзень, яны пісалі адно аднаму літаральна штодня. Часамі такое здавалася мне залішне сентыментальным, цяпер, здалёк гляджу на гэта з большай павагай. Прадчуваючы свой недалёкі канец, Аня папрасіла пляменніцу палажыць ёй пад апошнюю падушку, у дамавіну, дзядзькавы пісьмы, толькі каб ён не заўважыў. Тая так і зрабіла. Добра яшчэ, што не ўсе іх узяла з запаветнай шкатулкі, а толькі жменю, як быццам прадчуваючы, што так будзе лепш.

Пасля дэмабілізацыі з арміі было ў Якуба больш за трыццаць гадоў журналісцкай службы, спачатку ў Баранавічах, потым у Мінску. Журналістам, дарэчы, быў ён і перад вайной,— пасля вызвалення працаваў у лідскай раённай газеце, а яшчэ раней, на пачатку трыццатых гадоў, актыўна супрацоўнічаў у віленскім легальным («Беларуская газета») і падпольным камуністычным друку. Усюды, і ў Лідзе, і ў Вільні разам з Таўлаем. Пасля вайны, на кожнай з пасад, якія ён займаў у розных перыядычных выданнях, Міско адпавядаў як найлепшым чынам. Трэба сказаць, аднак, што з яго інтэлектуальным узроўнем, вопытам, веданнем некалькіх моў, крыштальнай добрасумленнасцю і адданасцю справе, ён выкарыстоўваўся заніжана, мог бы адказваць за значна вышэйшае. «Залішняя» сціпласць, адсутнасць кар'ерысцкай жылкі — гэта не ўсё, што было прычынай такой заніжанасці. Былі яшчэ нізкія шэпты і недарэчныя абвінавачанні звышпільных зайздроснікаў, уяўныя віны яго бацькі і двух братоў, якім толькі праз доўгія гады было вернута імя людзей сумленных... А ўсё такое трэба ж было моўчкі перажываць, над усім такім уздымацца!..

Пра Міско-журналіста нядрэнна гаворыць яго публіцыстыка — нарысы, артыкулы на грамадска-палітычныя і літаратурныя тэмы, рэцэнзіі, некаторыя гумарэскі. Найлепш яму пісалася пра тое, што звязана з былой Заходняй Беларуссю, з яе горкай нядоляй, з барацьбой працоўных за сацыяльнае і нацыянальнае вызваленне. У яго змястоўнай, высакакультурнай, няхай сабе сям-там і сухавата-строгай публіцыстыцы амаль усюды натуральна і неабходна прысутнічае сам аўтар, актыўны ўдзельнік многіх галоўных падзей таго часу, са сваім глыбінным веданнем прадмета, са сваёй ідэйнай перакананасцю, грунтоўна праверанай у суровых выпрабаваннях. І гэта прыдае яго артыкулам, нарысам і накідам да партрэтаў своеасаблівую сілу і так патрэбную чалавечую цеплыню.

У адным з неваенных Якубавых пісьмаў да Ані я спыніўся на фразе «маё маўклівае сэрца». Словы гэтыя ўразілі, іх я і вынес у назву падрыхтаванай мною кнігі яго літаратурнай спадчыны. Яны добра гавораць пра адну з найбольш характэрных рысаў у абаяльным чалавечым вобліку Якуба Герасімавіча — пра яго непадкупную сціпласць і разумную стрыманасць, ад пачатку і да канца. Кожны, хто ведаў яго, і я ў тым ліку, мог бы штосьці сказаць пра гэтыя высакародныя рысы. Пра што, дарэчы, сведчыць і многае з напісанага ім. Тут я хачу прывесці толькі адно жывое сведчанне.

Міністр асветы нашай рэспублікі М. Г. Мінкевіч, таксама былы заходнебеларускі падпольшчык і адзін з Якубавых сяброў па гродзенскай турме, успамінаў нядаўна, пасля апошняга развітання з Якубам, славуты судовы працэс «Малой грамады» ў сакавіку трыццаць шостага года, у Вільні. Тады Міхась Мінкевіч і Шура Таўлай,— брат Валянціна, пасля ваенны лётчык, што загінуў у канцы сорак другога,— былі вучнямі ўжо адзінай у тыя дні беларускай гімназіі, шаснаццаці- і семнаццацігадовымі юнакамі, удзельнікамі камсамольскага падполля. Ім удалося прабрацца на той працэс, з месцаў для публікі слухаць іназіраць.

У першай частцы аповесці «Было яно калісьці...» Якуб расказвае пра той працэс, прыводзіць сказы з апошняга слова сваіх таварышаў, Валянціна Таўлая і Піліпа Пестрака. Таўлай сказаў: «Вы судзіце не нас, а праўду, якую мы неслі народу, але праўда не баіцца артыкулаў кодэкса». Пестрак закончыў сваё выступленне вядомым, крылатым: «Чым ноч цямней, тым ясней зоры».

— А я памятаю,— расказваў Міхась Гаўрылавіч, — як мужна тады, на працэсе, трымаўся і Якуб. Падсудных з Лукішак у суд на працягу шасці дзён прыганялі ў кайданах, і толькі ўжо ў залу суда ўводзілі без іх. Помніцца, як рашуча пратэставаў супраць ланцугоў і Якуб, узняўшы свае, нацёртыя кайданамі, рукі. І як ён гаварыў: «Любоў да свайго прыгнечанага народа, да роднай мовы мы ўсмакталі з малаком нашых матак, любоў гэтая з намі назаўсёды, і вы, панове, судзіце нас за яе — за любоў па свяшчэннаму праву жыцця!..»

Сам ён не запісаў ні гэтых слоў, ні іншага пра сябе, што палічыў нясціпласцю. Сэрца яго, заўсёды адкрытае для людзей, і сапраўды было маўклівым пра сябе.

...Першага чэрвеня сёлета мы адзначалі Якубава сямідзесяцігоддзе. За хатнім, шчодра рассунутым сталом сабраліся сваякі і сябры па былой барацьбе, па працы ў роднай культуры, проста сябры, людзі розных прафесій. З нашым Якубам, навокал яго было цёпла, вольна, весела, ён умеў аб'ядноўваць людзей, вучыць бескарыслівай дружбе.

А дваццаць шостага кастрычніка, на трэці дзень пасля яго апошняга бальнічнага вечара, прыйшло жалобнае развітанне. Побач з магілай яго і нашай Анечкі. Дзень быў пануры, а потым, адвячоркам, засвяціла сонца. Па-міскоўску стрыманы, ціхі Іван Герасімавіч, рабочы з іхніх слонімскіх Чамяроў, і ён з былых падпольшчыкаў ды вязняў, схіліўшыся над Якубавым тварам, ледзь чутна сказаў:

— Дзякуй табе, што ты быў маім братам.

Многа людзей, што ведалі Якуба, і я, што

за трыццаць пяць гадоў і ў шчасці, і ў нягодзе не раз адчуваў яго дужае плячо і вернае, хоць і маўклівае сэрца, маглі б сказаць услед за Іванам і кажам у думках:

— Дзякуй табе, што ты быў маім другам!

## 2

Нас пазнаёміў Таўлай, які да таго нямала нарасказваў мне пра аднаго са сваіх найбліжэйшых.

Не скажу, што прыстойны, малайцаваты адпускнік-маёр з яшчэ незнаёмай усмешкай адразу тады, улетку сорак шостага, здаўся мне блізкім. Усё трымалася на тым, хто быў паміж намі,— на Валянціне.

Праўда, было адно, што адразу мяне купіла. У выдавецтве ўжо ляжаў і здавалася, што недаравальна доўга ляжаў рукапіс маёй першай кнігі. Адрэдагаваны самім Кандратам Крапівой, з яго прадмовай, ухвалены галоўным рэдактарам выдавецтва, а ўсё роўна ляжаў, не рабіўся так пакутліва, так хвалююча чаканай, у марах вынашанай кнігай. Таўлаеў друг, у працяг іхняй з Валянцінам гутаркі без мяне, сказаў, што каб яму далі мой падрыхтаваны рукапіс узяць з сабой, дык ён праз пару месяцаў прыслаў бы яго ў выглядзе выдатна выдадзенай кнігі. Адтуль, з Германіі, дзе ён даволі блізка стаяў да гэткіх спраў. Карэктуру ён, вядома, прачытаў бы сам. Мне было дваццаць дзевяць. Таўлаю на тры больш, Міску яшчэ на тры,— ва ўсіх прыпозненая маладосць. А ўсё ж мы, як сёння бачыцца, даволі-такі наіўна загарэліся гэтым намерам, і я пайшоў да дырэктара выдавецтва, што было тады для мяне не надта простым. Выслухаўшы мяне, таварыш дырэктар дастойна сваёй пасадзе сказаў, што як-небудзь абыдземся без дрэздэнскіх ды лейпцыгскіх друкарняў, самі выдадзім, яшчэ лепш...

Няхай сабе і не лепш, аднак праз паўгода кніга мая нарэшце выйшла. Якуб яшчэ ўсё служыў у Германіі, Валянцін трэці месяц ляжаў у бальніцы, я часта наведваў яго, і быў сярод тых

дзён адзін, калі я прыйшоў да яго са сваёй вялікай радасцю. Не буду прыдумваць гэтага дня, чамусьці не памятаю яго; цяпер, калі пішу гэта, на думку ўзышло іншае: той справядлівы боль, які Валянцін па сваёй мудрай дабраце схаваў у хворым сэрцы, прыкрыўшы той боль маёю радасцю, верыцца — шчырай. Першая кніга яго вершаў, у пераважнай большасці турэмных, яшчэ ўсё «рэдагавалася». Востра, справядліва пакрытыкаваўшы ў друку аднаго з тых, хто мог гэтую кнігу выдаць своечасова, а мог і адцягнуць выхад яе на колькі яго душачцы жадалася, Таўлай быў асуджаны на чаканне. Не дачакаўся...

Калі яго не стала, мы з Якубам, які неўзабаве дэмабілізаваўся, кожны па-свойму, але падобна адчувалі яго адсутнасць, і нас пацягнула аднаго да аднаго цераз гэты балючы, а потым сумны пралом.

Гавару я гэта, вядома, ад сябе і пра сябе, але ж і Якуб неаднойчы даваў то менш, то больш выразныя доказы, што наша набліжэнне патрэбна і яму. Праяўлялася гэта і ў друку. Складаючы яго кнігу, я адчуваў зразумелае ваганне — даваць ці не даваць тое, што ён некалькі разоў пісаў пра мяне: і хацелася даць, і няёмка было. Спыніўся на кампрамісе: даў толькі адзін «юбілейны» артыкул, як здалося, больш стрыманы. Іншае засталося ў газетных выразках. А сёе-тое проста помніцца.

Пішу гэта ў студзені восемдзесят чацвёртага. Ідзе ўжо трэці год нашай разлукі, а мне яшчэ ўсё бывае балюча, калі выпадкова ці наўмысна сустрэнуся з яго фотаздымкам, асобным ці групавым, дзе і я...

Кнігу яго сустрэлі добра, і ў друку ёсць пра гэта, і ў пісьмах, атрыманых мною, і ў вусных ацэнках. Аповесць выдадзена і ў рускім перакладзе. Помнік, след у жыцці... Актыўны прыхільнік роднай літаратуры, Якубаў сябар, падобны да яго вясёлай, сціплай высакароднасцю, Вячаслаў Ляшковіч, дырэктар мінскага абласнога краязнаўчага музея, знайшоў на адным з узлескаў маляўнічай Маладзечаншчы-

ны магутна-прыгожы, спрадвечны валун — яшчэ адзін помнік нашаму незабыўнаму.

А ён усё ўсміхаецца — на здымках, у памяці...

Сваім уменнем ці, лепш, унутранай патрэбай добрых, вясёлых кантактаў з людзьмі ён быў падобны да майго брата Міхася. Той мог часамі і так: падысці ў кампаніі да кагосьці малазнаёмага, а то і не знаёмага зусім, паздароўкацца з чалавекам, з выгляду нейкім панурым, сумным або нясмелым, і спытацца: «Ты што, браток, унурыўся? Век жа воўкам не пражывеш. Ты весялей не можаш?..» Нейкім чынам і да свавольства, ледзь не да блазенскага хуліганства даходзіла — у жаданні падысці да кагосьці аж лішне важнага, да вяльможы ці да свяцейшасці, цапнуць яго за найбольш нечаканае месца і сказаць: «Здароў!», адным такім разрадам спусціўшы надзьмутасць да яе чалавечай, голенькай ды босенькай нявіннасці.

Да такога ні ў аднаго, ні ў другога з іх, вядома ж, не даходзіла: от, весела ўяўлялася.

Успамінаюцца вясёлыя выпадкі ў нашым сужыцці, Якубаў смех, да самай старасці — нехта сказаў бы — «блазенскі».

Светла помніцца наша першае сумеснае падарожжа, з Баранавіч, дзе яны з Аняй нейкі час жылі пасля яго дэмабілізацыі, на Слонімшчыну, у яго з Валянцінам родныя мясціны. Там Якуб пазнаёміў мяне са сваёй старэнькай, але нястомнай, мудра-вясёлай мамай, з братам Іванам, які таксама нядаўна вярнуўся, з сябрамі па ўсім раёне, у многіх вёсках, дзе мы пабывалі, у асноўным пехатой. Мы гутарылі, многа і адразу шчыра, і ў вагоне, і ходзячы, і на спачыне, часта смяяліся, убачыўшы штосьці вясёлае або прыгадаўшы. Тады я і падумаў упершыню, што гэта ён ад маці, жыццё якое было вельмі нялёгкім, узяў і панёс, як чароўны агеньчык, і смех, і песні, і захапленне ўсім прыгожым, чалавечным.

Калі Якуб і Аня перабраліся на працу ў Мінск, наша сяброўства стала сямейным, сустрэчы часцейшымі, сумесныя паездкі таксама. Ся-

ды-тады мы ў сааўтарстве выступалі з Якубам у друку.

У верасні пяцьдзесят чацвёртага мы тыдні два працавалі разам у Маскве, на толькі што адкрытай сельскагаспадарчай выстаўцы, ён як штатны газетчык, а я добраахвотным спецкарэспандэнтам. Добраахвотнасць патрабуе агаворкі. Мяне тады жорстка раскрытыкавалі за часопісны варыянт адной аповесці, і Якубу захацелася праветрыць, супакоіць аўтара, пра што, вядома, адкрыта не гаварылася. Работы было шмат, ён умеў і любіў працаваць, а я ўжо не адставаў ад яго. Аднак амаль штодня, а то і штодня мы знаходзілі хвілінку, каб зазірнуць у павільён тэхнічных культур. Там на сцяне, вянчаючы адпаведную экспазіцыю, вісеў вялізны фотапартрэт Героя працы па маку. Сын сонечнай рэспублікі з неверагодна шырокай, звышрэкордна ўпасвенай «ражкай», ён усміхаўся шчасцю свайму так прастадушна-радасна, што, гледзячы на яго, і самому хацелася рагатаць. Калі ж каму-небудзь слова «ражка» здасца абразлівым, дык можна засланіцца і народам. Гэта адзін наш малады, талковы старшыня калгаса сказаў, спыніўшыся перад тым партрэтам: «Во, і на маку можна якую ражку наесці!..» Якуб назваў таго героя макацёрам, разумеючы тут не толькі пасудзіну, у якой труць мак, але і таго, хто трэ, і любіць, чаго добрага, не-не дый аблізаць уквэцанае ў «опіум», салодкае качалка. Набегаемся, стомімся ад сустрэч, хоць не заўсёды цікавых, але патрэбных, ад інтэрв'ю высокіх і яшчэ вышэйшых, ад спешнай рэпарцёрскай пісаніны, а тады ўжо, нарэшце, зірнём адзін на аднаго і. нібы ўздыхнуўшы з палёгкай, хтосьці скажа: «Да макацёра!» — як лозунг на аздараўленне. І той вітаў нас сваёй непераможнай па абаяльнасці, шыракаротай усмешкай.

У застоллі Якуб, заўсёды культурна стрыманы ў спажыванні «і гушчы, і рэдкасці», быў молада, хмельна вясёлы. Любіў спяваць. Помніцца адна з папулярных у пачатку пяцідзесятых гадоў песень на словы Ісакоўскага: «Лучше нету того цвету». У лёгкай, прыемнай мелодыі —

як найбольш адпаведныя словы, якіх, здаецца, ні замяніць, ні месцамі пераставіць.

...Вся душа моя пылает,
вся душа моя поет,—

дружна вядзе кампанія, а наш Якуб, замест «душы», якая «поет», на хаду хапае радок з наступнага куплета і выводзіць:

Вся душа моя пылает,
хоть иголки собирай!..

І песню абрывае рогат, у найстарэйшага — наймаладзейшы.

Што ж, маладосць, і ў сорак яшчэ маладосць, якая з-за турмаў ды з-за вайны так апазнілася. Ды справа не толькі ў гэтым.

Гадоў праз дваццаць пасля таго «маку» ды тых «іголак», калі мы ўтрох з Алесем Адамовічам адпачывалі (і працавалі трохі) у Друскеніках, Якуб быў на сёмым дзесятку. Нястомны хадун і лыжнік, любіў ён і кампанію. За адным з намі сталом сядзела ціхая, інтэлігентная маладзічка, якою мы дружна, неназойліва апекаваліся. За іншымі сталамі сядзелі, таксама ўперамежку, жанчыны, мужчыны рознага ўзросту і розных прафесій, тут нібы адмовіўшыся ад іх, на час аб'яднаўшыся ў свабодзе памаладзелага адпачынку. Неяк марозным ранкам мы схадзілі на рынак і там, між іншым, Якуб купіў слоічак хрэну. З гэтым слоічкам у абед, пачаставаўшы свой стол, ён пайшоў па бліжэйшых, як быццам нікога там не падзяляючы на суседзяў і суседачак. Толькі як быццам, бо да першай накіраваўся за трэці стол. Адтуль мы часта чулі вясёлы голас і смех, бачылі і галоўную весялуху, румяную, блакітнавокую ды бойкую русявачку. З гэтага пачалося знаёмства, якое спакваля і лёгка, хораша перайшло ў сяброўства. Калі яна, Галя, ад'язджала, мы ўжо праводзілі яе на вакзал, потым аднойчы, у Мінску, зноў жа ўтрох, сустракаліся ў кафэ, тады ўдвух з Якубам былі ў яе дома, у прыемнай, дружнай сям'і, з двума сыночкамі, з любімым мужам, з нейкай сваяц-

кай утульнасцю. У гэтай дружбе мы з Адамовічам былі не галоўнымі, любаваліся ёю, ведаючы, як яна патрэбна Якубу, калі не па-дзедаўску, дык па-бацькоўску. Бачу, як яна, наша слаўная беларуская Галя, плакала, калі Якуб Герасімавіч памёр. Цяпер мы з ёю час ад часу перазвоньваемся, і ўсе размовы нашы не бываюць без яго.

Праз восем год пасля чыстых, атуленых снегам Друскенікаў, улетку, праездам з Масквы ў Прагу, у мяне гасцявалі чэхі, пара блізкіх людзей. Трэба сказаць: не ў мяне, а ў нас, у гэтае «нас» уключаючы не толькі маю сям'ю, але і Якуба, без якога нам за святочным сталом заўсёды кагосьці блізкага не хапала. Тым больш што тады ўжо ён быў трэці год адзінокі, без Ані. Назаўтра, пасля гасцявання ў нас, Марцэла і Вацлаў настоялі на сустрэчы ў іх, у рэстаране гасцініцы. Адной з адзнак яго, Якубавай, весялосці, жыццёвасці, да канца невычэрпнай, мне бачыцца той вальс, на які ён запрасіў нашу мілую, паважаную госцю, як ён тады, кавалер на восьмым дзесятку, вірыў ды фігурыў, крыху па-даўняму, па-чамяроўску ўзняўшы сваю і дамінy руку, як наша госця здзіўлена, амаль захоплена глядзела на яго, а мы, з-за стала, на іх у маладым, разгайданым натоўпе.

...Камбат забіты, а вышыня не ўзята. Пасланы быў капітан Міско, тады ўжо штабны афіцэр. За тую вышыню, узятую, у яго Чырвоны Сцяг, першы сярод пяці баявых ордэнаў. Ён не насіў іх, падмацаваўшы мноствам франтавых і працоўных медалёў, і не расказваў лішне, так сабе аднойчы адказаў на маё пытанне.

Стрыманага, карэктнага, я двойчы не бачыў яго, на жаль, у выбуху справядлівага абурэння. Аня расказвала, як яны ехалі загарадным аўтобусам і нейкі маладзы хамула, нічога не баючыся, нікога не паважаючы, брыдка лаяўся пры дзецях, пры жанчынах, і ніхто яму нічога не асмельваўся сказаць. Якуб падышоў да яго, папрасіў быць культурным, а той тады — на яго. Падумаеш, «ачкарык», ін-ці-лі-генцыя!.. Якуб падышоў да шафёра, папрасіў яго спыніцца і

адчыніць дзверы. Ашаламіў таго здаравілу, схапіўшы за каршэнь і, крутануўшы, за порткі ззаду, датарабаніў да дзвярэй і шугануў на асфальт... Другі выпадак, пра які ўжо ён расказваў мне сам, адбыўся на працы. Адзін падкапай з даваенным стажам сказаў на спакойнага, паважанага ў калектыве таварыша: «Падумаеш, ты ваяваў! Мы яшчэ паглядзім, дзе ты гэтыя свае ордэны ды медалькі браў!..» Тут у работу пайшло першае, што трапіла пад руку — рэдакцыйнае крэсла, якое франтавік схапіў і ўскінуў, каб апусціць. «Таварышы, дзякуй ім, не далі...» Капцюх той, вядома, напісаў у славутае «куды трэба». Якуб пайшоў на выклік з поўнай гатоўнасцю панесці пакаранне, але той, ад каго яно залежала, выслухаўшы яго, з усмешкай разумення, што асабліва дарэчы бывае на вуснах высокаадказнага чалавека, сказаў толькі: «А нервавацца ўсё-такі лішне не трэба...»

Былі таксама два зрывы ў глыбокі смутак адчаю, адзін з якіх я бачыў, калі памерла Анечка і ён, здавалася б, ужо так прызвычаены да гэтай немінучасці за тры гады невылечнай хваробы, сеў, дзе стаяў, у куток, і затузаўся ў глухіх мужчынскіх рыданнях. Пра іншы зрыў расказвала мне Аня, з просьбай не выдаць яе. Гэта калі ён атрымаў пасмяротную рэабілітацыю на бацьку і брата і таксама, упаўшы ніцма на падлогу, доўга плакаў...

3

Тое, з чаго пачалося маё слова пра сябра, першы раздзел, напісана было роўна праз месяц пасля Якубавай смерці; тым раздзелам, у першым яго варыянце, я адкрыў кнігу «Маё маўклівае сэрца». І раней, у розныя гады, я сёе-тое пісаў пра Якуба, скажам, у нарысах пра Адамовіча, Шырму, у некаторых артыкулах і лірычных нататках. І ўсё, што было сказана, здавалася і дагэтуль здаецца яшчэ і яшчэ не ўсім, што можна і трэба сказаць пра гэтага, няхай нягучнага, але ж сапраўднага чалавека. Аднаго з тых, хто і сам зрабіў нямала, а яшчэ больш —

дапамагаючы іншым, дабратворна і безымянна растварыўшыся ў справах і меншых, і большых, і самых вялікіх, агульнанародных.

Блізу праз год пасля яго адыходу, адзін над Нёманам, заглядзеўшыся на барвовы, магутны, цудоўны і сумнаваты захад жнівеньскага сонца, я прыгадаў Якуба,— адчуў адзіноту і ўдзячнасць яшчэ раз...

Летась у маі, ідучы зялёна, весела амаладзелым, зноў жа наднёманскім лугам утрох з мясцовым сябрам з партызанскіх дзён і з яго знаёмым, на шмат маладзейшым за нас, мы набрылі на лугавую азярыначку. Падоўжную і поўную, як вока, з вейкамі аеру. Яна была ўжо даволі густа расквечана жоўтымі гарлачыкамі і раскошна белымі «гускамі», як называюць у нас гарлачыкі белыя. Загаварылі пра тое, што «гускі» нанач стульваюцца пялёсткамі, каб уранні зноў распусціцца, а жоўтыя гарлачыкі так і жывуць адкрыта днём і ноччу. «Гэтым няма чаго асабліва хаваць»,— сказаў наш маладзейшы. Мы са старэйшым сябрам усміхнуліся. Аднак гэта было ў мяне не ўсё у параўнанні красы сціплейшай і больш раскошнай...

Мне прыгадалася, як два гады раней, каля гэтай жа азярыначкі, нібы затоенай на зялёнай прасторы, ішлі мы таксама ўтрох, але ў іншым складзе,— з Якубам і нашым агульным другам. Таксама пастаялі, палюбаваліся — і белымі, і жоўтымі. А потым найстарэйшы з нас, ужо сямідзесяцігадовы Якуб, нечакана, нага аб нагу, скінуў выступкі, вылузаўся са спартыўных портак і палез у ваду. Пачаў лавіць і зрываць тыя раскошна белыя, якім так дарэчы было б заставацца ў іхнім зацішным «доме».

Несамавіты свой букет панёс ён нашым жонкам, што засталіся каля хаты.

Вядома ж, «гусак» не трэба зрываць, яны букетам быць не любяць і не могуць. Так, здаецца, потым, у вёсцы, і гаварылася. Жанчыны нашы гаварылі. Хоць як быццам і не вельмі ўпэўнена. Гэтую «ісціну» я ўспамінаю і цяпер, але...

Але ж тут ёсць і ісціна без двукосся. Што ду-

ша чалавека гарнулася да дружбы, да яе цяпла, што яна ў яго хацела гэтага ўсё жыццё.

А да разлукі нашай заставалася чатыры месяцы.

*1981—1984*



# Два словы

У чэрвені трыццаць першага года я быў у вялікім падарожжы — ехаў аўтобусам у Навагрудак, ажно за трыццаць дзевяць кіламетраў, здаваць экзамены ў гімназію. У Карэлічах пажылы, салідны шафёр (якая гэта была тады рэдкая прафесія, якая фігура — шафёр!), перакусваючы на прыпынку, гаварыў камусьці з дзвярэй адчыненай кабіны:

— Бочек — объядение...

Ён еў «бочэк» — сёння мы кажам: карэйка — з сітніцай; я гэта бачыў, стоячы за тым, каму гаварылася. Смачна!..

Позняй дажджлівай восенню ў тым самым годзе шафёрскі вучань Міша, таксама фігура ў нашай зачуханай вёсцы, прынёс з Баранавіч страшную вестку. Па прыгавору «дара́зьнага», палявога суда пазаўчора там павесілі дзевяць падпольшчыкаў-камуністаў. Сярод іх — Шурку, таго пажылога, шаноўна-саліднага шафёра з чырвона-белага аўтобуса «Крэсавянка».

Шурку я памятаю толькі праз тое, што бачыў і чуў. Аднак — памятаю.

Нядаўна ў аўтобусе Мінск — Вільнюс мне яго жыва нагадаў таксама пажылы і маўкліва салідны, культурны шафёр-літовец. Нагадаў і незвычайны ў тым далёкім заходнебеларускім асяроддзі «бочек — объядение», і жудасную вестку пра павешанне, прынесеную ў вёску з горада. Нагадаў і словы яго, Шуркавай, маленькай дачкі: «І сонейка будзе свяціць, і месячык, а татуся майго не будзе...» Гаварылася гэта папольску,— і малая так гаварыла, і Міша так паўтараў, а ўсе мы слухалі і разумелі моўчкі. І суседзі, і маці Мішава, ціхая працавітая цётка Таццяна.

Яна вельмі доўга дамагалася пенсіі за мужа, забітага на «мікалаеўскай» вайне, а атрымаўшы яе ажно за ўсе чатырнаццаць гадоў адразу, паслала свайго сірату вучыцца ў Стоўбцах на шафёра.

Міша быў старэйшы за мяне на тры гады, але мы сябравалі і дома, і ў школе, і на пашы, пакуль ён не пайшоў у людзі, а з маёй гімназіі нічога не атрымалася. Празывалі Мішу Хвальком, з самага малку, і гэта праўда была,— ён і наручны гадзіннік усё правяраў, то да вачэй, то да вуха, і руку, танцуючы, так задзіраў, каб відаць быў гадзіннік. І пра вучобу сваю хваліўся нямала. Але тады, расказваючы, ён быў зусім не такі, як заўсёды, бо Шурку таго ён ведаў, пад кіраўніцтвам яго і вучыўся. Ён расказваў, а цётка Таццяна глядзела на хлопца свайго, слухала моўчкі і плакала...

Праз чвэртку веку пасля таго жахлівага вечара, светлым летнім адвячоркам Рафаіл Сяржант, мужны і светлы чалавек, расказваў мне ў нумары баранавіцкай гасцініцы аповесць свайго бурнага і цяжкага жыцця, што стала ў мяне нарысам «Партрэт старэйшага таварыша». Расказваў ён часцей за ўсё паасобнымі фрагментамі, як яно ўспаміналася яму, па пэўнай унутранай сувязі. А я запісваў тыя фрагменты, уважліва, а то і ўсхвалявана ідучы за плынню яго расказу. Польскія гарады называліся толькі як турмы, бо так ён іх бачыў, назвы іх значылі этапы яго пакутніцкага шляху.

— У Равічы сядзеў я з Паўлам Валошыным, членам ЦК статысячнай Грамады, паслом польскага сейма ад рэвалюцыйна-дэмакратычнага крыла беларускай нацыянальнай фракцыі...— Гэта не я цяпер, а ён, расказчык, так гаварыў, няспешна чаканячы сваю дакладнасць.— Любіў я гэтага чалавека, мы сябравалі. Класічны тып беларуса. Гаварылі пра Тарашкевіча. Тарашкевічаў бацька, шкадуючы сына, пытаўся: «Броня, як ты думаеш, народ наш ужо дарос да таго, каб за яго галаву аддаваць?» А сын яму: «За яго заўсёды можна было і трэба было аддаваць галаву».

Другі фрагмент, пасля хвілін маўчання:

— Кожнага падпольшчыка пілсудчыкі намагаліся зрабіць шпіёнам, шпегам, паставіць яго па-за законам. «Нема венкшэго ўрога, ніж шпег». «Сонд доразьны», сто адзінаццаты артыкул яшчэ царскага кодэкса з тысяча дзевяцьсот трэцяга года. На гміне, на тэлеграфных слупах вывешваліся адозвы: хто выдасць шпіёна — тысяча злотых. А гектар зямлі быў тады дзвесцетрыста-чатырыста злотых. Увосень трыццаць першага года тут, у Баранавічах, было павешана дзевяць чалавек — за шпіянаж. Кат Мацееўскі атрымліваў чатырыста злотых у месяц і па сто злотых ад галавы. У Польшчы было тады дванаццаць чыноўных разрадаў, у ката — дзевяты разрад. Белыя пальчаткі, новыя для кожнага. Занятак на цэлы дзень. І фраза, што была крылатай: «Справедлівóсьці стало сень зàдосць» — справядлівасць задаволена.

Пра гэтае павешанне было ў газеце ІКЦ, «Ілюстраваны кур'ер цодзенны», адной з самых санацыйных. Чытаў я пра павешанне ва Ўронках.

Зноў паўза і роздум на высокім ілбе чалавека, якому так многа давялося думаць за чатырнаццаць гадоў турмы, з якіх дзесяць у адзіночцы. А пасля паўзы — зноў, як з Валошыным і Тарашкевічам, грунтоўна ўзважанае слова пра блізкага чалавека:

— Сярод тых дзевяці быў Аляксандр Скач-

ко. Шафёр з аўтобуса «Крэсавянка», на трасе Стоўбцы — Навааградак.

Запісваў я гэта ўлетку пяцьдзесят восьмага,— з таго часу прайшла другая чвэртка стагоддзя. Запісы тыя, не ўсе выкарыстаныя ў маім нарысе, днямі я перачытваў: чытаюцца як штосьці новае, бо сёе-тое ўжо і забылася.

Аднак успамін пра шафёра, Мішаў расказ пра павешанне вярнуўся да мяне не ад запісаў,— ад незвычайнага польскага «бочек», які, у рускім акрэсленні, «объядение»...

*1983*



# Пераход

Вясковы ксёндз Магнушэўскі — добраахвотны настаўнік Багрыма, нашага Шаўчэнкі, задушанага ў зародку. Міцкевіч і Чачот,— у аднаго высокааўтарытэтныя выказванні пра беларускую мову, у другога шчырае збіранне нашых песень. Сыракомля, Манюшка і Дунін-Марцінкевіч, Багушэвіч і Ажэшка — іх творчая дружба.

Царскія «цэнзары» гаварылі, што беларуская мова, літаратура — варожая польская выдумка...

Кожны «заходнік» майго пакалення — старэйшы хто, аднагодак і маладзейшы — успамінае школьны вершык: «Кто ты естэсь? Поляк малы!» Пра гэта ўжо і пісалі, хто з нашых стаў літаратарам. Што ж, раней, калі сама Польшча

была пад трайным прыгнётам, вершык гэты быў своеасаблівым катэхізісам патрыятычнага выхавання польскіх дзяцей. Потым, механічна перанесены на чужую глебу, ён стаў для нас, непалякаў, адным з сімвалаў нацыянальнага прыгнёту.

Тады ўжо, стаўшы незалежнымі, некаторыя польскія ідэолагі, у сваю чаргу, пісалі, што нейкую там Беларусь, нейкую беларускую мову, літаратуру проста «прыдумалі бальшавікі»...

Што ўжо казаць пра такіх цемрашалаў, калі і ў людзей прагрэсіўных і сёння часамі не-не дый пакажацца шыла ці шыльца з мяшка.

Адна старая польская пісьменніца, з якою я перад вайной перапісваўся, якая прысылала мне ў вёску і ў войска добрыя кнігі, перакладчыца Бертрана Рассела і сама пацыфістка, змагарка за мір, калі я ў сямідзесятым годзе наведаў яе ў Варшаве, у гутарцы прагаварылася: «Кіеў? Ён жа наш, вядома, польскі». А на маё здзіўленне, спахапіўшыся, з усмешкай самаасуджэння дадала: «Што ж, кожны народ, нават самы найменшы, мае поўнае права авалодаць усім светам...»

Другі паляк, маладзейшы, яшчэ больш сучасны, даволі старанна перакладае «з усходнеславянскіх літаратур», не менш карпатліва займаючыся вышукваннем ва ўсім польскіх першакрыніц, польскага паходжання, дзе хоць крышку, хоць крышачку можна. Не толькі, скажам, у Купалы («з каталіцкай, значыцца, з польскай сям'і»), але і ў Коласа (няхай сабе з праваслаўных, але ж Міцкевіч, значыцца, са шляхты, з палякаў). Нядаўна ён зноў парадаваў нас сваёй вучонай глыбіннасцю: да перакладзенага ім верша даў грувасткую заўвагу пра паходжанне назвы «Туганавічы», ад слова «тугá». Спаслаўся на слоўнік, складзены ў канцы мінулага стагоддзя (калі, кім, дзе — усё дакладненька), які, вы бачыце, «падае, што *туга*—крэсовае акрэсленне *тэнскноты»*. Слова, значыцца, не беларускае, не ўкраінскае, чаго ён, кніжнік і перакладчык з даволі вялікім стажам, узброены сучаснымі дапаможнікамі, не можа не ведаць,

а слова на збуцвела-архіўны лад «крэсовае»... У зусім неглыбокім падтэксце — старая, пратухлая песня пра «польскосць тэй земі» — Беларусі і Украіны...

Тое агіднае, антылюдскае, што ідзе следам за вызваленнем таго ці іншага народа: яго прэтэнзіі да іншых, яго жаданне дзяўбаць іх зверху. Словы Дастаеўскага: «Нізкая душа, вырваўшыся з-пад прыгнёту, прыгнятае сама» — трэба аднесці да нізкасці ў кожным нацыяналізме. І ў Маркса яно: «Не можа быць свабодным народ, які прыгнятае іншыя народы».

Як адбываецца пераход ад прыгнечанага да прыгнятальніка — гэта я назіраў на прыкладзе даваеннай Польшчы, адчуваў той прыгнёт у нейкай меры і на сабе. «Сізіфава праца» Жаромскага стаяла ў школьнай кніжнай шафе, і такую ж нялюдскую асіміляцыю слабейшага мы бачылі штодня і ў школе і за сценамі яе.

Але ж гэта было ўжо даволі даўно!..

*1983*



## Нібыта рознае

Ідылія ў вагоне электрычкі.

Маладая пара вяртаецца з вёскі (мы разам адтуль дабіраліся да вакзала). Спачатку гулялі ў «дурня», на яе прыполе. А потым яна ўзяла купленую ў вакзальным буфеце гарадскую булачку, спачатку жавала яе так, пасля ён растуліў вялікую сумку, зняў покрыўку з трохлітровага слоіка з малаком, і шчаслівая маладзічка, як малая, адхлёбвала гулліва, з мілай, так зразумелай ім абаім, пястотай, хатняе, з маміна-цешчынай даёнкі малако і шчасліва ўсміхалася.

І гарадская ўжо, і яшчэ вясковая,— толькі як госця, на грунтоўным бацькоўскім падмацунку.

*

«Што гэтая ваша паэзія — адна пустата. Вось матэматыка — гэта навука, гэта апора, гэта жыццё!»

Прыблізна так, часта і аднастайна марочыў мне галаву зямляк, малодшы брат майго друга, пасляваенны студэнт матфака.

Неяк ён плаваў з двума сябрамі і дзяўчынай, якая яму «падабалася», па возеры, у адной лодцы, і дзяўчына ўтапілася. Развесяліліся надта, перавярнуліся і трэба ж — адна яна не даплыла да берага.

Калі яе неслі хаваць, ён не пасмеў быць там, дзе ўсе. Пачуўшы з акна інтэрната апошнюю

стараліся як мага асцярожней, шануючы мудрую сціпласць, аднак дарма стараліся, бо адказ быў адзін: «Пішыце пра Максіма». І ўсмешка, якая абяззбройвае шчырасцю, дабрадушная ўсмешка з глыбока схаванай моцнаю воляй.

І цяпер, у рабочым пакоі Гаўрылы Іванавіча, гаворка (*гамонка*, як прынята ў Гарэцкіх) час ад часу свабодна і натуральна вяртаецца да Максіма Іванавіча — старэйшага брата, дзядзькі і таты. Бо побач з гаспадаром кабінета — сын, паважаны Радзім Гаўрылавіч, таксама геолаг і акадэмік, таксама закаханы ў мастацкае слова, і госця з Ленінграда, пляменніца Галя, мілая, сціплая Галіна Максімаўна, шматгадовая і адзіная апякунка цяжка хворай маці, руплівая ахоўніца літаратурнай спадчыны бацькоў. Зусім немістычна, сваімі абаяльнымі вобразамі прысутнічаюць тут і Леаніла Усцінаўна, якое ўжо чатыры гады няма, і Лёня, Леанід Максімавіч, што загінуў на фронце, а потым, праз тры дзесяцігоддзі, светла, хвалююча і вельмі патрэбна вярнуўся да людзей на старонках часопісаў «Маладосць» і «Юность» — сваімі салдацкімі пісьмамі маці, сястры, дзядзьку Гурыку, Гаўрылу Іванавічу, да якога, як і да бацькі, вельмі хацеў быць падобным.

У пашане, з якой у гэтай сям'і гаворыцца пра Максіма Гарэцкага, заўсёды адчуваецца не проста сямейнае, а перш за ўсё любоў да роднай літаратуры, належнае разуменне яе і месца, якое ў ёй па поўнаму праву заняў і ён, іх родны, які стаў блізкім, сваім для ўсіх, каму дарага роднае слова.

Каля стала, на якім была напісана і яшчэ ўсё, дзякуй богу, пішацца не адна выдатная навуковая праца славутага савецкага геолага, мне прыемна было праверыць сваё меркаванне, што кніжка, якая так добра ўводзіла мяне ў свет сапраўднай літаратуры, што той наш даўні і, як само маленства, светлы «Родны край» і сапраўды складаўся не без удзелу Максіма Гарэцкага. А шмат чаго з замежных моў пераклала туды Леаніла Усцінаўна.

Прыемна было таксама і расказаць, як у той

паднявольнай цемры колішніх вёсак яшчэ раз быў пастаўлены «жалобны абразок», яшчэ раней, у ліхалецці дарэвалюцыйным, напісаны маладзенькім студэнтам-каморнікам, якому потым, на вялікі жаль, не прыйшлося сказаць свайму народу і цэламу свету ўсяго, што ён мог бы сказаць, і якога мы любім за тое, што ён сказаў.

*1980*



# Яшчэ Гарэцкі

Побач з залай, дзе мы святкуем [1], у холе наладжана невялікая, але вельмі цікавая фотавыстаўка — пра юбіляра і яго найбліжэйшых. Мяне там найбольш уразіў той здымак, дзе наш другі Максім, тады салдат «мікалаеўскай» вайны, паранены ва Ўсходняй Прусіі, ляжыць на шпітальным ложку. Твар такі просты, і падбародак, і губы, і нейкія вусікі, як у вясковага дзецюка, а вочы — паэта, мысліцеля. Яшчэ юнак, ён быў ужо аўтарам першага зборніка свежых, яркіх апавяданняў, у душы яго ўжо выспявала сусветнай значнасці аповесць «На імперыялістычнай вайне».

Пачаў Гарэцкі рана і адразу ўпэўнена. Гэтым ён хораша нагадвае нашага першага Максіма — Багдановіча. Абодва яны пачалі і рана,

[1] У мінскім Доме літаратара.

і адразу стала, і ў слове абодвух, у кожнага пасвойму, спалучалася высокая агульналюдская культура і глыбока беларуская народнасць.

З народнасцю Максіму Багдановічу было цяжэй. Здалёк, з іншага асяроддзя ён прабіваўся да яе, да скарбаў роднай мовы напорам сваёй апантанай душы, сваёй нястомнай, дапытлівай думкай. А Максім Гарэцкі, сказаўшы амаль пагонаму, увесь быў *у родным карэнні* змалку.

Сёння ўранні з думкай пра выступленне, я зноў перачытваў Гарэцкага. Апавяданні, такія шэдэўры, як «Рускі», «Чарнічка», «Пад'езд», мініяцюры «Палонны», «Лёкай камунара», «Максімава зязюля»... Праз гэтыя старонкі бачыў я перад сабой салдата на шпітальным ложку, рана ўзмужнелага і памудрэлага ў суровым выпрабаванні, ужо тады, у самым сваім пачатку пісьменніка з тых, каго хочацца перачытваць. Проза яго — не займальная чытаніна, яе немагчыма за адзін раз прачытаць да дна. Вяртаючыся да тых старонак час ад часу, зноў ды зноў удзячна хвалюешся ад здзіўлення, што вось жа зноў амаль зусім як новае!..

У нашай усесаюзнай крытыцы нямала ўжо нагаворана пра значнасць прозы дакументальнай, пра дабратворны, нават вырашальны ўплыў яе на прозу, так сказаць, чыста мастацкую. А ідэал, здаецца, якраз у шчаслівым спалучэнні гэтых двух пачаткаў, у спалучэнні, імя якому — проза праўдзіва-мастацкая.

Максім Гарэцкі — кажучы словамі Талстога пра Чэхава — мастак жыцця, мастак жыццёвай праўды. Адтуль яго розум і сэрца, адтуль ён відушчы, шчыры і просты, у гэтым сіла яго даўгавечнасці.

Ужо тым часам нямала ў нас і напісана пра Гарэцкага. Тут і манаграфія Дзмітрыя Бугаёва, і эсэ Міхася Стральцова, і выдатная праца Алеся Адамовіча «Браму скарбаў сваіх адчыняю...», тут і артыкулы іншых даследчыкаў, старэйшых і, што яшчэ прыемней, маладых, у пошуках якіх трапляюцца і паўторы, аднак ёсць і новае.

А перш за ўсё — вельмі добра, што неўзабаве будзе ў нас збор твораў Максіма Гарэцкага,

што гэта парадуе не толькі даўніх і сённяшніх прыхільнікаў яго таленту,— Гарэцкі прыйдзе да новага чытача, да новай змены чытацкіх пакаленняў, якія будуць яго ахвотна, зацікаўлена чытаць, якім ён будзе па-сяброўску адкрываць сваю высока адораную чалавечнасць, разлічаную на многіх і надоўга.

Новыя чытачы і новыя даследчыкі скажуць яшчэ — з большай далечыні, чым мы, але з няменшай сардэчнасцю — дзякуй роднай зямлі, што нарадзіла такога сына.

2

У адным з нядаўніх нумароў «Литературной газеты» паэт Геворг Эмін размову пра значэнне пісьменніцкага прафесіяналізму пачаў з такога прыкладу.

Уільям Сараян, выдатны амерыканскі пісьменнік армянскага паходжання, вяртаўся з Ерэвана ў ЗША праз Адэсу, морам. Да Адэсы суправаджаў яго адзін з ерэванскіх літаратараў. У тры гадзіны ночы, страшэнна стомленыя складаным пералётам, яны, нарэшце, апынуліся ў гасцінічным двухпакаёвым люксе. Спаць, толькі спаць!.. Ды вось таварыша, які суправаджаў высокага госця, праз сон пачаў непакоіць незразумелы, назойлівы стракат. Сяк-так расклеіўшы вочы, ён паглядзеў, уцяміў, што да чаго, і вельмі здзівіўся. Сямідзесяцігадовы госць, які стаміўся, вядома, больш за яго, сядзеў за пішучай машынкай. Ён, аказалася, запісваў уражанні перажытага дня, не адкладаючы гэтага на пасля, добра ведаючы, што тады яны, яго думкі, нават на свежую галаву, абавязкова страцяць штосьці істотнае.

На творчым шляху Максіма Гарэцкага люксаў было вельмі мала, можна сказаць — і зусім не было. Ва ўсіх, самых розных жыццёвых умовах, часцей за ўсё зусім неадпаведных для літаратурнай працы, Гарэцкі заставаўся, быў пісьменнікам-прафесіяналам. Ён заўсёды запісваў усё, што ўражала яго глыбокі розум і чулае сэрца, усім яго творам, і больш і менш закоп-

чаным, абавязкова папярэднічала вялікая падрыхтоўчая праца. Па гэтай падрыхтоўцы, па запісах непасрэдных уражанняў, думак, планаў, сумненняў, пошукаў, расчараванняў і зноў настойлівых пошукаў можна зайздросна меркаваць, як добра ведаў ён жыццё, як нястомна шукаў галоўнае ў мастацтве слова — праўду.

Збор твораў Максіма Гарэцкага, нарэшце, рыхтуецца. Ён выйдзе пакуль што няпоўным. Не будзе ў ім і той раскошы каментарыяў, розначытанняў, якую мы ўдзячна прымаем у зборах твораў, скажам, Талстога, Чэхава, Дастаеўскага... Як добра яны чытаюцца, тыя грунтоўныя каментарыі, жывыя старонкі гісторыі літаратуры, які гэта выдатны матэрыял для пажыццёвай самаадукацыі! Таварышы, якія працуюць над падрыхтоўкай да выдання спадчыны Гарэцкага, павінны памятаць, што і творчасць, і вобраз гэтага пісьменніка ўсе мы павінны, абавязаны захаваць і падаць чытачу ва ўсім гучанні яго шматграннай паўнацэннасці. Адно зробіцца сёння, другое заўтра, для больш поўнага выдання, аднак яно павінна рабіцца з усёй грамадзянскай адказнасцю перад нашай гісторыяй, перад нашым народам, перад светлай памяццю аднаго з нашых найзначнейшых пісьменнікаў.

З Максімам Гарэцкім добра на людзях, вось як і сёння, на гэтай акадэмічнай канферэнцыі, у сяброўскай атмасферы дзелавога свята. З ім добра таксама і на адзіноце, сам-насам з яго старонкамі — і друкаванымі, і рукапіснымі. Мы гэта ведаем, не раз ужо адчувалі і будзем яшчэ адчуваць. Кожны раз зноў жа, як гэта і бывае з класікай, па-новаму, са свежым, яшчэ раз удзячна захопленым пранікненнем у сутнасць сапраўднага паэтычнага слова.

*1983*



# Пятрас Цвірка

На адной сустрэчы ў Маскве Альфонсас Малдоніс прыязна запрасіў мяне прыняць удзел ва ўрачыстасцях, прысвечаных сямідзесяцігоддзю Цвіркі.

І вось, як толькі тады прагучала паміж намі гэтае імя, да мяне непадзельна і ярка вярнуліся два ўспаміны.

Першы.

Другога мая сорак сёмага года я зайшоў у наш Саюз пісьменнікаў і тагачасны яго старшыня, любімы і паважаны намі, літаратурнай моладдзю, Міхась Лынькоў,— ён быў адзін у сваім кабінеце,— сказаў мне ціха і горка, як гавораць пра самае блізкае:

— Памёр Пятро. Пятро Цвірка...

Гэта здарылася толькі праз чатыры дні пасля таго, калі мы, беларусы, былі глыбока ўражаны таксама заўчаснай смерцю нашага Валянціна Таўлая, паэта адоранага і чалавека цудоўнага, жыццё, барацьба, пакуты і творчасць якога былі, дарэчы кажучы, звязаны з Вільняй дваццатых — трыццатых гадоў, як і слаўны дэбют другога нашага паэта-рэвалюцыянера, Максіма Танка, Цвіркавага сябра.

І другі ўспамін.

Пачатак рамана «Зямля-карміцелька». Асмяяная, пакінутая, цяжарная «незаконным» дзіцем Моніка стрыжэ авечку. Батрачка ў маёнтку разам з іншымі батрачкамі. Стрыгуць, гамоняць і раптам, яшчэ здалёк пазнаюць, як да іх набліжаецца малады батрак Юрас, у незашпіленым,

расхрыстаным ад ветру шынялі адпушчанага дамоў салдата. Моніка сядзіць да салдата — чуючы пра яго — спіной, не азіраецца, не паднімае галавы, толькі ў воку авечкі, як у люстэрачку, бачыць адлюстраванне Юраса, які спыніўся над ёю. У адбітку гэтым яна шукае адказу на пытанне, ад якога так ужо натамілася яе сэрца: ці не змяніўся яе каханы, з чым ён, бацька іх будучага дзіцяці, вярнуўся да яе пасля глухой і пакутліва доўгай разлукі?..

Такіх як быццам дробязей, такіх яркіх дэталей у Цвіркі нямала. Можна сказаць, што ўся яго проза асыпана імі, як начное чыстае неба зоркамі.

Пятрас Цвірка — з тых пісьменнікаў, якіх можна не толькі чытаць, але і перачытваць.

Вярнуўшыся тады, пасля маскоўскай сустрэчы з Малдонісам, дахаты, я вырашыў праверыць тую драбніцу, што ажыла ў памяці праз тры дзесяцігоддзі, тую дэталь з авечым вокам-люстэрачкам, знайшоў яе ў кнізе і, «зачапіўшыся», так захапіўся, што перачытаў і «Зямлю-карміцельку», і ўсе апавяданні ў сціплым пасляваенным аднатомніку Цвіркі.

Не надта экзатычная, аднак жа родная краса літоўскай зямлі і неба, то чароўна блакітнага, то ў «цукровых» баранчыках. Абаяльнасць няхай сабе і нялёгкага, ды ўсё ж непаўторна шчаслівага маленства. Вострае адчуванне сацыяльнай несправядлівасці, чалавечная дабрата, шчымлівая жаласць да загнанай сялянскай каняжыны, да бяздомнага сабакі. Жывая, шматфарбная мова, краса якое даходзіць і праз пераклад. А якая сіла ўяўлення, здольнасць памастакоўску, з усёй пераканальнасцю пераўвасабляцца ў сваіх герояў!.. Цяпер так многа гаворыцца пра славутую акселерацыю, але ж ва ўсёй нашай шматнацыянальнай прозе вельмі няшмат знойдзецца прыкладаў, каб дваццаціпяцігадовы юнак мог з такой свежасцю, з такой жыццёвай праўдай паказаць чытачу перажыванні маладой жонкі і маці, як мы бачым гэта ў «Зямлі-карміцельцы» — са шматпакутнай, мілай Монікай. Такое пранікненне ў вобраз, у ду-

шу героя перш за ўсё гаворыць, вядома, пра сілу таленту. Аднак не толькі. Яшчэ адно трэба падкрэсліць. Цвірка ведаў жыццё, любіў людзей, і не абстрактнай любасцю сузіральніка, а больш за ўсё любіў ён людзей цяжкай працы, уніжаных і зганьбаваных несправядлівым грамадскім ладам. І гэтая яго відушчая любоў заражае сваёй шчырасцю і нас.

Значэнне літаратурных юбілеяў мне бачыцца, перш за ўсё, у тым, што ў такія дні мы нашых вялікіх, добрых і розных глядзім, так сказаць, буйным планам, чытаем і перачытваем іх, нанова перажываем даўно адчутую радасць і цішком саромеемся, што сяго-таго з іх твораў чамусьці доўга не ведалі.

Так было і ў мяне. Пасля другога прачытання аднатомніка, адзінага ў маёй асабістай бібліятэцы, я сабраўся, нарэшце, прачытаць і ўсё іншае ў выдатнага літоўскага сабрата, раней ці пазней перакладзенае на рускую мову. Знайшоў яго кнігі ў бібліятэках, багацейшых за маю, і некалькі дзён, нават тыдняў жыў Цвіркам, дзякуючы яму глыбей пазнаваў яго радзіму, яго энергічны, таленавіты народ і, у той жа час, мне добра думалася пра ўсё новыя ды новыя праявы чалавечай агульнасці, падобнасці у галоўным у прадстаўнікоў самых розных літаратур.

Калі ў навелістыцы Цвіркі праглядваецца дабратворны ўплыў Чэхава і Мапасана, дык раман «Майстар і сыны» прыемна нагадвае чымсьці «Кала Бруньёна», «Франк Крук» — у пэўнай меры Гогаля, а «Зямля-карміцелька» — «Фарпост» Баляслава Пруса і «Сына рыбака» Віліса Лацiса. А разам з тым Цвірка — пісьменнік арыгінальны, непаўторна літоўскі.

Люблю літоўскую прозу, паэзію, песні, кіно, графіку, наогул багатую і самабытную літоўскую культуру, мог бы назваць нямала імён, блізкіх і мне. Ды сёння, на гэтым урачыстым вечары, у душы ў кожнага з нас і на вуснах у многіх адно імя, адзін абаяльны, светлы вобраз пісьменніка і чалавека,— наш вечна малады, вечна ўсмешлівы Пятрас Цвірка.

*1979*



# Поціск рукі

Мы пазнаёміліся ў канцы сорак сёмага года, далёка ад яго строгай красуні Рыгі і майго, яшчэ не ўзнятага з руінаў, партызана Мінска,— у Таджыкістане, дзе мы былі гасцямі рэспубліканскага з'езда пісьменнікаў.

Ідзе ўжо трыццаць чацвёрты год нашага сяброўства, і вось я дарма намагаюся ўспомніць, калі ж яно пачалося. Пасля той першай сустрэчы было ў нас нямала сустрэч і ў Латвіі, і ў Беларусі, і ў іншых рэспубліках, а найчасцей у Маскве. Кожнай сустрэчы мы былі ўзаемна рады, у нас заўсёды было што сказаць адзін аднаму, чым падзяліцца ў гутарцы з кім-небудзь блізкім ці сам-насам. А вось калі яно пачалося — наша ўзаемная прыхільнасць, патрэба ў сустрэчах, кантакце на адлегласці — на такое пытанне адказаць нялёгка.

Юлій Ванаг з тых людзей, якія неяк адразу выклікаюць давер сваёю шчырасцю і прастатой, а пасля, з часам — сваім пастаянствам у пачуццях і прынцыпах, сваёй грунтоўнай, на ўсё жыццё разлічанай прыстойнасцю. Да таго яшчэ — яго зайздросная, таленавітая працавітасць, невычэрпная цікавасць да жыцця, любоў да прыроды, да людзей, да літаратуры, да народнага слова. Як жа гэта нямала!..

Нядаўна мы зноў сустрэліся ў Маскве, дзе — разам з нашым агульным украінскім сябрам, Васілём Казачэнкам — рады былі, адасобіўшыся ад пленумаўскай мітусні і нудоты, ціха, няспешна пагаманіць. Між іншым, таксама і пра

шчасце ды культуру дружбы, той дружбы, якую так прыемна называць старой. Новы друг — знаходка рэдкая, а стары — каштоўнасць, якая не падлягае сумненням, не адпойчы праверапая часам і абставінамі на трываласць.

Нам ёсць што ўспомніць з Юліем.

Я, напрыклад, даволі часта ўспамінаю то залатую восень яго янтарнай Латвіі, наша вясёлае, у латышска-беларускай групе літаратараў, падарожжа на ўсход і на захад ад Рыгі; то вечную красу тых самых мясцін, пяшчотна, чыста ахутаных першым снегам, дзе мы праязджалі з найбліжэйшымі; то па-дзіцячы радасна бясконцую сцяжынку на снезе пустыннага пляжа, па якой мы ішлі толькі ўдвух, уздоўж мора, што не па-летняму далёка адступілася ад сасноваабрывістага берага; то навальнічна-вясёлкавую песню аргана пад старадаўнімі зводамі Домскага сабора, дзе мы разам зачаравана маўчалі; то светлую ўтульнасць сябравага рабочага пакоя, дзе мы аглядалі яго скарбы — кнігі. І тыя, якія ён любіць перачытваць, і тыя, да стварэння якіх ён меў непасрэднае ці ўскоснае дачыненне. Зборнікі яго паэзіі і прозы, у арыгінале і ў перакладах, прыгожыя томікі Пушкіна на латышскай мове — збор твораў, што выйшаў пад рэдакцыяй Юлія Пятровіча, перакладзеныя ім — з арыгінала! — кнігі прозы Якуба Коласа, Івана Мележа, беларускія народныя казкі... Пішу гэта і зноў ажывае ў душы інтымнае адчуванне ўдзячнай радасці, з якою я ўпершыню прыкмеціў на той самай паліцы і свой раман, перакладзены даўнім і верным сябрам нашай літаратуры.

Шкада, што я не ведаю латышскай мовы, што я толькі з рускага перакладу перакладаў яго «Глушцову песню», невялікую, ёмістую аповесць, адзначаную талентам патрабавальнага пісьменніка і сапраўднай гаспадарлівасцю шматвопытнага паляўнічага. Чытаў я нядаўна, дакладней — перачытваў праставдушна, хрэстаматыйна мілыя апавяданні з жыцця маленькага Мікіня, нядрэнна выдадзеныя і ў нас, і прыемна было ад думкі, што гэта я параіў іх перакласці.

Успамінаецца Кіеў у раскошным росквіце вясны пяцьдзесят чацвёртага года, дзяржаўны Днянро пад кручай, бела-зялёныя каштаны на Крашчаціку, гістарычна ўрачыстае свята трохсотгоддзя уз'яднання Украіны з Расіяй, свята, на якім і мы, латыш і беларус, разам з іншымі пасланцамі братніх рэспублік, адчувалі сябе ў цудоўным «як дома».

Успамінаю чэрвень семдзесят чацвёртага, Алма-Ату на зялёнай раўніне, у яркай працьме кветак, са снегавымі вяршынямі на зманліванедалёкім даляглядзе, святочна шматлюдны Джамбул, спякотныя стэпы, гаманкія рэкі, спрадвеку абжытыя авечкамі горы Сямірэчча, дзе мы спявалі, і смяяліся, і зачаравана слухалі — на злёце чабаноў, на паднебным канцэрце і ў юртавай утульнасці, потым зноў ехалі і, спыніўшыся ў дарозе, моўчкі ўскладалі вянкі да помніка Чакана Валіханава, сустракаліся з майстрамі арашэння палёў і школьнікамі Талды-Кургана...

Успамінаюцца сустрэчы ў нас, у Беларусі. «Мінскае мора», падмінскі лес, Купалава Вязынка, Коласава наднямонне... І тут ужо мне думаецца таксама і пра тое, як жа ён, Юлій, успамінае тыя нашы паездкі, паходы, дзелавыя сустрэчы і сяброўскія гутаркі, гасцяванне ў дамах нашых агульных сяброў і ў маёй сям'і. Быць гаспадаром — гэта ж і прыемна, і неспакойна: ці так яно ўсё было, як хацелася наладзіць, падаць — да патрэбнага надвор'я ўключна.

Паэт, празаік, драматург, перакладчык, заслужаны дзеяч культуры двух народаў, свайго і нашага,— Юлій Ванаг і набліжаючыся да свайго васьмідзесяцігоддзя па-ранейшаму многа працуе, палюе і рыбачыць, разумна, цікава гамоніць і весела, смачна смяецца, нястомна падарожнічае па ўсёй нашай краіне, словам — жыве паўнацэнным жыццём. Сэрца яго — маладое, адкрытае, а дужая, нястомная рука працягнута для мужчынскай, чалавечай дружбы.

І руку гэтую хочацца таксама моцна паціснуць.

*1981*



# Пра чалавечнасць

Пачну з вядомага. Улетку чатырнаццатага года Ўладзімір Ільіч і Надзея Канстанцінаўна жылі ў Пароніне. Калі пачалася вайна, аўстрыйскія ўлады па даносу арыштавалі рускага эмігранта Ульянава. Дзякуючы хадайніцтву групы прагрэсіўных палякаў ён быў вызвалены і неўзабаве пераехаў з жонкай у Швейцарыю.

Актыўнае дачыненне да справы вызвалення Леніна ўпрыгожвае біяграфіі трох польскіх літаратараў — Жаромскага, Каспровіча і Оркана.

Адзін з гэтай высакароднай тройкі, сын беднага, непісьменнага польскага хлопа, таленавіты паэт, драматург, філолаг і перакладчык — Ян Каспровіч на сваім шостым дзесятку выпадкова сустрэў ва Львове дваццацігадовую рускую красуню Марыю Буніну, далёкую сваячку пісьменніка, закахаўся ў яе, яна адказала ўзаемнасцю і ўвайшла ў жыццё Каспровіча верным другам і памочніцай.

Нядаўна мне давялося прачытаць «Дзённік» гэтай, па-свойму выдатнай, жанчыны, якую палякі з пашанай і сімпатыяй называюць «пані Маруся». У «Дзённіку» тым я сустрэўся з фактам, які ў нас, у нашым творчым асяроддзі, здаецца мне пакуль што невядомым.

У гады грамадзянскай вайны маці і сястра «пані Марусі» жылі ў Петраградзе і звесткі пра іх доўга не даходзілі да Каспровічаў у Галіцыю. Пакутуючы ад горкай невядомасці, маладая жанчына хапілася за апошняе: з сардэчнай непасрэднасцю напісала пісьмо таму «пану Улья-

наву», якога памятала па кароткай сустрэчы ў Пароніне,— таму, як здавалася, такому простаму, звычайнаму чалавеку, што стаў славутым Леніным, правадыром Савецкай краіны. Пісьмо было напісана ў лютым дваццатага года, у дні вайны з белапалякамі, і гэта трэба памятаць, каб лепш адчуць значэнне факта. Хтосьці з польскіх ваенных узяўся «перакінуць» тое пісьмо цераз фронт і, пасля трох месяцаў загадкавых блуканняў, яно нейкім цудам трапіла ў рукі чалавека, што быў тады поўнасцю ахоплены адным — сусветна-гістарычнай справай выратавання першай пралетарскай рэвалюцыі, якая трэці год крывава, гераічна адбівалася ад навалы ўсё новых ды новых ворагаў. І вось вясной дваццатага года «пані Маруся» раптам атрымала тэлеграму, якую яна ў сваёй польскай кнізе прыводзіць у арыгінале:

*«Письмо ваше получено мною два дня тому назад. Будут отданы все распоряжения, чтобы облегчить вашим родным выезд из России. Паспорта им уже выданы.*

*Предсовнаркома Л е н и н».*

Такое нельга чытаць без хвалявання. Яно яшчэ раз гаворыць пра веліч яго культуры, пра яго чалавечнасць.

У семдзесят сёмым годзе, прымерваючыся да задумы аповесці «Золак, убачаны здалёк», я на працягу некалькіх месяцаў прачытаў або перачытаў даволі многа адпаведнай літаратуры, каб як найлепш адчуць патрэбны мне час. У ліку прачытаных кніг і артыкулаў у часопісах было многае з напісанага Леніным у чатырнаццатым — дваццатым гадах. Адтуль, з усяго, што я ўспрыняў як удзячны чытач, жыва і ярка помняцца дзве «залацінкі».

У трэцім пісьме ленінскіх «Писем из далека», дзе гаворка ідзе пра будучую пралетарскую міліцыю, што павінна стаяць на абароне правоў працоўнай беднаты, ёсць словы, якія дазволю сабе працытаваць ва ўласным перакладзе:

«Няўжо пралетарыят Расіі праліваў сваю

кроў толькі дзеля таго, каб атрымаць пышныя абяцанні адных толькі палітычных дэмакратычных рэформаў? Няўжо ён не запатрабуе і не дамажацца, каб *кожны* працоўны *адразу ж* убачыў і адчуў пэўнае паляпшанне свайго жыцця? Каб кожная сям'я мела хлеб? Каб кожнае дзіця мела бутэльку добрага малака і каб ніводзін дарослы ў багатай сям'і не смеў узяць лішняга малака, пакуль не забяспечаны дзеці?»

Адзін з маіх добрых сяброў, журналіст Якуб Міско, нешта ў самым пачатку нашай дружбы падараваў мне старое выданне ленінскіх «Писем к родным». За трыццаць з нечым гадоў я ўжо не раз вяртаўся да чалавечай цеплыні гэтай кнігі, адной з першых у маёй сціплай пасляваеннай бібліятэцы.

У адным з замежных пісьмаў да маці Леніна, Марыі Аляксандраўны, Надзея Канстанцінаўна пісала:

«Тут нейкае царства дзяцей. Усе да іх такія ўважлівыя, а дзеткі такія слаўныя, здаровыя. Я бывала ў нашых гарадскіх школах і міжволі параўноўваю, і лічу, што дзецям тут жывецца значна лепш».

У гэтых словах і здаровая, канструктыўная зайздрасць сапраўднай патрыёткі, і заклапочанасць будучага выдатнага педагога, і матчына пяшчотнасць жанчыны ў гутарцы з другой жанчынай.

А ў словах Леніна, працытаваных вышэй, у кантэксце дзелавой, суровай стрыманасці палітыка зусім па-асабліваму красамоўна гучыць тая бутэлька — падкрэслім — *добрага* малака — яшчэ раз падкрэслім — для *кожнага* дзіцяці. Сваёю прастатой, сваёю, калі можна так сказаць, практычнасцю яны, тыя словы яго, гавораць вельмі многа, у прастаце, у звычайнасці ленінскіх слоў, у стрыманасці іх — рэвалюцыйна актыўны, дзейсны гуманізм.

І яшчэ адно, што ярка запомнілася мне, хоць і не ўпершыню прачытана, што свеціць у памяці «залацінкай».

У чацвёртым пісьме «Писем из далека» Ленін гаворыць:

«Няма сумнення, што Горкі — вялізны мастацкі талент, які прынёс і прынясе шмат карысці сусветнаму пралетарскаму руху.

Аднак навошта ж Горкаму брацца за палітыку?»

А трохі вышэй:

«Аўтару гэтых радкоў здаралася, пры сустрэчы на востраве Капры з Горкім, папярэджваць яго і папракаць за яго палітычныя памылкі. Горкі парыраваў гэтыя папрокі сваёй непераймальна-мілай усмешкай і шчырай заявай: «Я ведаю, што я дрэнны марксіст. Да таго ж, усе мы, мастакі, крыху бессвядомыя людзі». Нялёгка спрачацца супраць гэтага».

У гэтых, зноў жа простых, дзелавых і змястоўных словах бачыцца не толькі «непераймальна-мілая» ўсмешка Горкага, але ж і жыццядайная абаяльнасць і творчая глыбіня ленінскага разумення прыроды мастацтва, якасці, што так патрэбны бываюць для тых, хто шчыра шукае і ў пошуках, у разведцы новага можа часамі і памыліцца.

У пэўнай меры ведаю і я, што азначае для нас, для нашай працы кантакт са словам, з думкай Леніна, колькі даюць нам хвіліны роздуму над яго старонкамі, калі мы звяртаемся да іх з унутранай патрэбы, з жаданнем лепш разабрацца ў плюсах і мінусах рэчаіснасці, лепш убачыць тое, што неабходна для будучыні. І я таксама ведаю, як гэта добра — пазнаваць Уладзіміра Ільіча больш ды больш, глыбей ды глыбей, па мностве тых «залацінак», з жывой мазаікі якіх складаецца вобраз Леніна-правадыра, Леніна-мысліцеля, Леніна-чалавека, Леніна-сына, брата і друга, таварыша па справе.

*1980*



# Адзінае наша

Мінулая вайна для мяне пачалася першага верасня трыццаць дзевятага года. У адрозненне ад многіх, з кім я сядзеў у польскіх акопах або хадзіў на нямецкі агонь, я ўжо ведаў антываенныае слова Талстога і Гаршына, Рэмарка і Гашака. Ведаў, але ад гэтага мне лягчэй не было. Хутчэй наадварот. Чыёсьці, даўняе, літаратурнае з усёй суровай непасрэднасцю стала тваім...

Калі Талстой сваімі «Севастопальскімі апавяданнямі», «Вайной і мірам» гаварыў пра тое, што было даўно, калі пакутнік Гаршын сваім геніяльным апавяданнем «Чатыры дні» таксама гаварыў пра даўняе, гістарычнае, дык «На заходнім фронце без змен» і «Прыгоды бравага ваякі Швейка» гаварылі пра тое, што было найбліжэй, як здавалася,— толькі ўчора.

Гэтае «ўчора» было і ў кнігах, і ў расказах жывых сучаснікаў.

Бо і ў маім даваенным вясковым акружэнні жыло нямала ўдзельнікаў і руска-японскай, і «мікалаеўскай», і грамадзянскай войнаў. І шчасліва ўцалелых, і так ці інакш пакалечаных, напоўненых невычэрпным запасам жахаў. Іх расказы мы, юнакі, слухалі — калі мне меркаваць па сабе — з пранозлівай жудасцю. Расказвалі некаторыя так, што іх расказы сваёй, нічым не прыкрытай, грубай народнай праўдзівасцю адпавядалі таму лепшаму, што я чытаў пра вайну, а то і гаварылі яшчэ больш, куды мацней уражалі, наводзілі на нялёгкі роздум...

Здарылася так, што «Агонь» Барбюса, «На імперыялістычнай вайне» Гарэцкага, некаторыя іншыя кнігі пра першую сусветную вайну, значныя сваёй праўдзівасцю, я прачытаў пасля Вялікай Айчыннай. У той час, калі ўжо і пра гэтую вайну пачалі з'яўляцца творы, якім было суджана выжыць, застацца патрэбнымі і сёння. Пасля, з палавіны пяцідзесятых гадоў, твораў такіх, як вядома, прыбыло значна больш, у тым ліку — скажам з законнай гордасцю — і ў нашай беларускай літаратуры. Твораў паэзіі, прозы, мастацкай і дакументальнай. Справа не ў пераліку,— гэтыя назвы, імёны мы паўтараем дастаткова часта.

Разам з мноствам іншых шматмоўных чытачоў аддаючы належную павагу і ўдзячнасць аўтарам найбольш сумленных, праўдзівых твораў пра чалавека на вайне, хачу прызнацца, што амаль пасля кожнага з гэтых твораў і пасля ўсіх іх у цэлым у мяне было і застаецца сумнае, а то і цяжкае адчуванне нейкай — дзе меншай, а дзе і большай — *недагаворанасці ў галоўным*. І ў творах самых адносна смелых, і ў самых адносна праўдзівых ды глыбокіх... Сказана ўжо як быццам вельмі нямала, аднак яшчэ больш — у творах і франтавых, і партызанскіх — недасказана, недапаказана, нераскрыта па-сапраўднаму, так, як расказвае пра вайну сам народ.

Недастатковасць гэтая — з меркаванняў характару перш за ўсё злабадзённа-часовага...

Гэта нялёгка — як след уявіць сабе чытача, які мінулай вайны не ведае, перад якім стаіць толькі кашмарны прывід новай вайны, якую цёмныя сілы імкнуцца нам навязаць. Наколькі ж яму, магчымаму салдату магчымай будучай вайны, дапаможа маральны вопыт папярэднікаў, дапаможа тое, што з непасрэдна перажытага і глыбока, кроўна адчутага іншымі стала сённяшняй літаратурай пра вайну і супраць вайны — найбольшай бяды чалавецтва?.. Няўжо і новаму пакаленню зноў жа толькі па-свойму, толькі самому, кожнаму чалавеку паасобку прыйдзецца вырашаць пытанне ўсіх пытанняў — *што* рабіць, *як* рабіць толькі тое, што трэба, што да-

стойна сапраўднага чалавека? Вось што трывожыць...

На наша шчасце, мы жывем у такой краіне, пры такім дзяржаўным ладзе, дзе ўсё накіравана на барацьбу супраць вайны, за разумнае суіснаванне народаў. Аднак жа як многа, як страшна многа ў свеце таго, што не залежыць ад нас, савецкіх людзей, тым больш ад нас — пісьменнікаў!..

Ёсць французская прыказка, якую любіў Талстой, настолькі любіў, што яна была самым апошнім, чаго — ужо на смяротным ложы — не змагла да канца дапісаць яго магутная, нястомная рука. «Трэба рабіць, што трэба, хай будзе, што будзе»,— так гучыць яна, гэтая прыказка. І ў ёй няма адчаю, слабасці, абыякавасці да будучыні,— ёсць мудрае адчуванне абавязку. Як і ў нашай беларускай народнай мудрасці: «Паміраць збірайся, а жыта сей».

На нас, літаратарах, ляжыць нялёгкі, адказны абавязак — у чалавеку выхоўваць Чалавека, абуджаць у людзях разумную, высакародную чалавечнасць.

І пра гэта нямала ўжо сказана. Дазволю сабе прывесці толькі адно, можна сказаць, хрэстаматыйна-вядомае выказванне.

У славутым вершы «Я памятник себе воздвиг нерукотворный» перадапошняя страфа — у вымушанай рэдакцыі Жукоўскага — да рэвалюцыі гучала так:

И долго буду я народу тем любезен,  
Что чувства добрые я лирой пробуждал,  
Что прелестью живой стихов я был полезен  
И милость к падшим призывал.

Потым замест саладжавай «прелести» прыйшоў і стаў на сваё месца сапраўдны пушкінскі радок:

Что в мой суровый век восславил я свободу...

І тады ўжо радок папярэдні — пра абуджэнне добрых пачуццяў — загучаў на ўсю сілу, напоўніўся зместам на ўсю глыбіню.

«Довлеет дневи злоба его» — кожнаму веку сваё. Аднак жа наш, дваццаты, куды больш

*жестокий* за той, калі так коратка і змястоўна сказана было пра галоўны пісьменніцкі абавязак.

Тым больш мы абавязаны, нашым часам, нашым жыццём заклікаены — перш за ўсё і больш за ўсё — абуджаць у людзях добрыя пачуцці, змагацца за маральную чысціню нораваў, выхоўваць чалавека, свабоднага ад безвыходнай цемры і крывавай затхласці нацыяналізмаў ды шавінізмаў розных масцей і калібраў, чалавека — носьбіта самых перадавых ідэй ленінскага інтэрнацыяналізму, чалавека — змагара за сацыяльную справядлівасць, свабоду і мір для ўсіх.

Можа, гэта не ўсё, аднак — вельмі нямала. Гэта — адзінае наша, чаго ніхто за нас не зробіць. І гэтага нам — у тым, што мы пішам — якраз найбольш не хапае. Такога, каб з усёй смеласцю, з усёй свабодай, на ўсю глыбіню.

Не крытыка гэта, а пажаданне,— і ўсім, і яшчэ больш самому сабе.

*1983*



# Свае старонкі

*Да творчай аўтабіяграфіі*

## 1980

Пяцігадовая Аня пасля аперацыі два дні ні з кім не гаварыла, бо яе ашукалі, што вязуць здымаць на картачку. А потым так балела, яна так крычала, абаранялася!.. Маме дазволілі быць каля яе, і з мамай яна, пацешна «дарослая» ў хустцы «пад бараду», у доўгай квяцістай кашулі з-пад бальнічнага халаціка, ішла «за ручку» па калідоры і на нікога на дарослых ашуканцаў не хацела нават глядзець, нікому не адказвала. А на сёстраў, што робяць уколы, казала «калючкі».

Пазаўчора мы, мужчыны ў вестыбюлі, рабілі ёй з лістоў яе сшытка хто чорціка, хто голуба,— яна ўжо адышла. Учора нават павіталася са мной за руку, зайшла ў нашу палату, атрымала апельсін, а потым, на калідоры, спыталася:

— Вы, дзядзька, пішаце кніжачкі для дзяцей?

Каб жа пісаў!.. [1]

⁂

Многа чытаю. Мініяцюры Хікмета, Эмінавы песні пра Арменію, славацкія апавяданні, пацешна-прыкрыя, прэтэнцыёзныя ўспаміны N. пра Мележа, дзённік Януша Корчака, Кандрацьева — «Борькины пути-дороги» и «На

---

[1] Гэты і два наступныя запісы зроблены ў бальніцы. У раздзеле «Свае старонкі» — заўвагі ад рэдакцыі.

поле Овсянниковском», абедзве рэчы слабейшыя за «Сашку», цікавую італьянскую аповесць Беппо Банольья з партызанскага жыцця і сёе-тое іншае. Без працы над сваім — зашмат.

І зноў, як і раней неаднойчы бывала, думаецца, што нічога ўжо больш не напішу. З такога... ледзь не адчаю, злосці на самога сябе і выйшлі нядаўна ўспаміны пра Шырму.

І сёння прачнуўся ў шэсць. І за акном было нараджэнне новага дня, светлы, урачысты, шчымліва-радасны ранак самотнай канфрантацыі з самім сабою — тым, якім ты павінен быць. Адзін з тых ранкаў, якіх у мяне было ўжо так нямала, усюды, куды мяне заносіла ў жыцці.

І не ясна, што ж яны будуць са мною рабіць, калі не аперацыя, на якую я не згадзіўся і на якой яны не настойваюць. Страшна — такая перспектыва старасці, на што наглядзеўся тут: без ног, без рук «ад сасудаў». Толькі б не гэта. А ногі падвечар ныюць, і правая за кампанію з левай «тужыць»...

Ж

Сярод упасвеных матрон і маладзічак з варыкознымі вузламі на тоўстых і нятоўстых лытках, у адной з палат сядзіць на ложку бабуля. І ляжыць яна, вядома, але больш, здаецца, сядзіць, колькі б я ні праходзіў каля тых адчыненых дзвярэй. Прыслянілася да сцяны і ціха пакутуе, памаленьку згасае. Калі я спытаўся ў сястры, у нашай палаце, што з бабуляй, сястра сказала: «Палец гніе. Як у мужчын. Вялікі, на назе». Назвала гэта адпаведным тэрмінам, на якія ў мяне зусім няма памяці.

А ўчора, зноў праходзячы каля тых адчыненых дзвярэй, успомніў сваю ў сорак восьмым годзе, калі я прыходзіў да яе ў бальніцу і толькі расстройваў, цалуючы худзенькія, бездапаможныя рукі.

...Сёння выйду адгэтуль. З пэўным новым зарадам адчування дачаснасці і абавязку.

*

Здаецца, што няма яе і не было — тое, напісанай пад Новы год (у трыццаць шостым ці трыццаць сёмым) мініяцюры, якая даволі часта і соладка ўспамінаецца мне. Як вельмі далёкі, з самага пачатку юнацтва, напамінак, што такія рэчы я буду пісаць. Кароткія і светлыя.

*

Уранні прачытаў апавяданне Нагібіна «Чужая», сказаў сам сабе: «добры пісьменнік», а перад гэтым успамінаў і раней прачытаныя рэчы гэтага «грунтоўнага» пісьменніка, і яго тэлевыступленне, і маё паўторнае, пасля 1954 года, знаёмства з ім на апошнім усесаюзным з'ездзе. Перазнаёміў нас Нілін. Калі я сказаў Нагібіну, што з прыемнасцю чытаю яго апавяданні, Павел Піліпавіч падтрымаў мяне так: «Воче это последний умный русский писатель». Нібы жарт, а са значным падтэкстам.

Непрыемна было, калі Нагібін, пачынаючы на старонках «Литературной России» дыскусію па жанры апавядання, гаварыў толькі пра рускіх апавядальнікаў. А потым выступілі Ганчар і Абу-Бакар і гаварылі... кожны толькі пра сваіх. Так і таўчэм ваду ў вялікай ступе...

*

Учора і пазаўчора, апроч прэсы, чытаў Пільняка, ажно стаміўся ад яго апавяданняў. Сёння прачнуўся, як заўсёды ў шэсць, адразу ўзяўся (лежачы з-за нагі) за Кента, яго аляскі дзённік «В диком краю».

Амаль адразу, з першых старонак, пайшоў паралельна мілы ўспамін пра наш з Андрэем месяц у Кактэбелі, у ліпені шэсцьдзесят пятага. Цяпер, за сталом, паглядзеў у літаратурную энцыклапедыю, колькі Кенту было тады год. Трыццаць шэсць, а сыну восем. Майму было дзевяць, а мне сорак восем. Мы хадзілі ў горы, на базар, у цір, многа чыталі лежачы, калі ён

грэўся каля мяне. Найлепш помніцца кніга польскага індзейца ці індзейскага паляка, здаецца, Сат-ока (не знайшоў у даведніках),— не так тая кніга, як наша чытанне, дружба.

Прыемна ўспомнілася таксама, як Ч. пазнаёміла мяне з Кентам на Беларускім вакзале, дзе яго праводзіла група масквічоў.

Ужо ў другім абзацы прадмовы адзначыў на полі выказванне, якое ўбачылася не толькі блізкім, але і такім, што можа спатрэбіцца:

«Непосредственная запись событий, каковы бы ни были ее недостатки, во всяком случае несет на себе неопровержимую печать правды».

...«Человеческий ум не способен проникнуть дальше, чем ему дано по милости бога, святого духа. Думать, что искусство может подняться выше лучших образцов, которые уже существуют в мире,— значит не понимать, что такое искусство, что значит быть слепым к дарам духа».

Ён выпісаў гэта ў Блейка, папярэдзіўшы выпіску сказам захаплення: «Как заражает страстная убежденность!..» А я выпісваю з яго самога, як блізкае:

«Здесь, в окружении гор, среди высшей простоты жизни, становятся смешными хлопоты человека вокруг форм искусства, все эти способы новых способов выражения, потому что старые истерлись! Только бедность собственного восприятия, которое не способно прибавить ничего нового, заставляет человека искать спасения в том, что он дурачит сам себя, наряжая по-иному все те же старые банальности или возвышая до уровня искусства пошлые идеи, находившиеся до сих пор в пренебрежении».

...Бог мой! Дзе тая Аляска, а як гэта блізка! І сапраўды: «В конечном счете жизнь есть то, что человек видит; ее он старается удержать в памяти и воспроизвести средствами искусства».

*

Людміла Гурчанка, «Мое взрослое детство».

Дзіўнае адчуванне зайздрасці: ты ўвесь свой век пнешся, стараешся, а тут — на́ табе! — узяла і напісала добра. Актрыса *са сваёю* прафесіяй, не пісьменніца.

Трохі падобнае адчуў я калісьці, упершыню прачытаўшы нешта, не памятаю ўжо што, у Кента, яшчэ не ведаючы тады, што ён і мастак, і пісьменнік.

Не памятаю добра, ці было хоць трохі падобнай зайздрасці да Рэпіна; відаць, не было, бо «Далекое близкое» я чытаў яшчэ не будучы «прафесіяналам».

*

Бывала, калі чытаў прадмовы, пасляслоўі, даследаванні пра творчасць прагрэсіўных класікаў, даволі часта раздражняла больш ці менш адкрытае, лепш ці горш пададзенае сцверджанне:

Усё, што рабілася да нас, усім чалавецтвам на працягу ўсёй гісторыі,— гэта толькі ўступ, падрыхтоўка да таго, што настала цяпер. Мы — на вяршыні піраміды, з якое застаецца толькі крычаць «ура».

Падумалася гэта і сёння, чытаючы прадмову да «Споведзі» Русо.

...А ў яго ж столькі хочацца выпісаць блізкага!

«Я хорошо понимаю, что читателю не очень нужно все это знать, но мне-то очень нужно рассказать ему об этом.

...Хоть и ленивый по натуре, я бывал трудолюбивым, если хотел этого; и моя леность не была леностью бездельника, а человека независимого, любящего работать, только когда он считает нужным.

...Чтобы быть в состоянии, чтобы иметь смелость говорить великие истины, надо быть независимым от успеха».

*

Чытаючы карэктуру «Птушак і гнёздаў», успомніў, як Оттакар Ульрых[1] казаў, што ў маім рамане яму найбольш спадабаўся фольксфэст,— фельдфебель, які ўзлез па стол і акрапляў яго... «Гэта найбольш дакладна нямецкае».

*

Яшчэ адну п'есу перакладаю[2]. «Стары новы год» Рошчына перакладаў па просьбе купалаўцаў, «Святая святых» Друцэ — па просьбе і самога яго, якую мне перадаў Шабан, цяпер «Вішнёвы сад» — з сімпатыі да коласаўцаў. Ці трэба мне займацца гэтым, думаў сёння ўранні. Зноў як быццам кажу сам сабе, што больш не буду, што буду рабіць толькі сваё. Бо колькі я ўжо наперакладаў! Паэты дык хоць у зборах сваіх пераклады друкуюць, а на прозу і драматургію такога звычаю няма. Як быццам з імі заўсёды лягчэй і не бывае цяжка па-сапраўднаму.

*

Стары івянецкі народны ўмелец Пупко — пра настаўніка і, кажуць, добрага хлопца Міколу Пашкевіча, які яму нечым шмат дапамог — кажа з удзячнасцю і болем, але весела:

«Я ўжо дзевяты дзесятак *луплю*, а ён — памёр...»

*

Ці запісаў я пра іспанскага сабачку — бяздомнага, галоднага,— якога мы — дарослыя, сур'ёзныя мужчыны розных савецкіх нацыянальнасцей — пашкадавалі і падкармілі сім-тым, як блазнюкі? Познім вечарам, у Севіллі, на беразе славутага Гвадалквівіра, які

[1] Нямецкі літаратуразнавец, выкладчык універсітэта ў Гале. Стажыраваўся ў БДУ імя У. І. Леніна.

[2] Гэты і дзесяць наступных запісаў зроблены ў пасёлку Крынічнае на Міршчыне.

не па Пушкіну спакойны, шырокі, а не «бежит, шумит»...

Запісваю гэта, пачаўшы чытаць Бернара Клавеня, «Испанец».

*

...Няўжо я адчуваю ўжо мой час глыбока-шырока-чыстага бачання?

Чытаю Клавеня. І як толькі там, у доме французскага селяніна, гаспадыня ўзяла ліхтар, я жыва ўспомніў, убачыў іншы ліхтар,— той, з якім у Адэсе мама хадзіла ў сутарэнне і брала з сабой мяне — памагчы ёй, патрымаць той ліхтар. У ім былі чырвоныя і зялёныя шыбкі. Апроч празрыстай? Відаць. Але ж запомніліся толькі тыя дзве. І ўсё тое мілае, такое цікавае падарожжа,— з кватэры, уніз па лесвіцы, па бруку двара, у сутарэнне.

А потым, у вёсцы, нашы з мамай паходы ў хлеў, даіць карову, што ацялілася. Карова, цялятка і ліхтар — ужо другі, круглы, без каляровых шыбак. Але і гэта вельмі хораша.

Штосьці падобнае было, здаецца, з малым Хаджы-Муратам, у яго — незадоўга да ўцёкаў, да смерці — успамінах.

*

«Белые с черным пятна заменяют кроликам национальный мундир и флаг».

Тут, на гэтай фразе ў сярэдзіне апавядання «Джек — Боевой Конек», я ўжо шчасліва засмяяўся.

Да першай фразы апавядання: «Боевой Конек был знаком со всеми собаками города» ўнізе старонкі дадзены аўтараў малюнак. Там трус ідзе па-чалавечы, на задніх лапах, і важна здымае цыліндр перад сустрэчнымі сабакамі, таксама у цыліндрах. Сабакі — з жонкамі, якіх няёмка называць сукамі ў доўгіх сукнях, а дзяцей — шчанятамі, апранутымі па-дзіцячы.

Тут у мяне быў не смех, а толькі ўсмешка, таксама шчаслівая.

Як адхіленне — успамін пра тое, як я падлеткам плакаў над аповесцю гэтага ж Сетана-Томпсана «Джэк — Кароль Талакскі». Пра мядзведзя-грызлі. Можа, там і смешнае было, калі не для рогату, дык хоць для ўсмешкі, аднак мне назаўсёды запомніўся той блазенскі, ўжо не дзіцячы — святы, сам-насам — плач захаплення і літасці.

*

Мамін пляменнік Алесь, мой дваюрадны брат, на дваццаць сем год старэйшы. Так і вітаўся пры нашых, апошнім часам не частых, сустрэчах, сур'ёзна, амаль урачыста: «Здароў, брат!» І руку пацiскаў. «Беларускі Грышка Мелехаў», як гаварыў пра яго Міша [1]. Поўны георгіеўскі кавалер, пасля мнагадзетны бядняк, з болем тых «мікалаеўскіх» ранаў.

У грамадзянскую ваяваў, ужо выбраны камандзірам, і, можа, генерал які вырас бы з вахмістра, але пацягнула да жонкі, да дзяцей, да родных мясцін.

У семдзесят шостым годзе ён, замяняючы ў жніво сына, яшчэ пасвіў калгасны статак. «Як жа ты бегаеш за каровамі?» — спытаўся я. Ён паказаў на свайго сабаку, трохі падобнага на аўчарку: «Сам не бегаю. Яму даю лінію, ён заварочвае». Сын смяяўся: «Бутэлька віна на дзень, а гарэлкі — ужо на два дні».

Свая мова, свой характар, які я закранаў у «Праведніках і зладзеях» і ў «Золаку», і там, і там захаваўшы імя.

Днямі мне расказалі, што памёр ён спакойна, хораша — ад старасці. Рана ўстаў, заслаў свой ложак, пацеры згаварыў... Ці паснедаў — не сказана было. Проста прылёг адпачыць і памёр. На дзевяностым годзе, перажыўшы малодшых, здавалася, куды здаравейшых братоў.

---

[1] Тут і скрозь далей Міша — брат Я. Брыля Міхаіл (1914—1966) — інжынер-будаўнік і самадзейны мастак.

На пахаванне я не змог паехаць. А ўспомніў цяпер — чытаючы ў Сетана-Томпсана пра каўбояў з сабакамі.

*

Сетан-Томпсан не толькі лічыць скачкі труса ці аленя на футы, але і пішучы пра бойку двух катоў, пра іх маўкліва-фырклівае то наступленне адзін на аднаго, то тактычнае ці баязліва асцярожнае адступленне, не толькі карыстаецца яшчэ і дзюймамі, але ж і іх дробіць на чвэрткі, на васьмушкі, на шаснаццаткі... І гэта не толькі смешна, але і *мастацкі* дакладна.

*

Поўдзень. Пасля сякой-такой працы (закончыў перапісваць пра Гарэцкага, напісаў тры пісьмы) сяджу ў крэсле, ногі на другім, накрытыя пледам, чытаю мудрыя апавяданні Іва Андрыча. За мною два акны, справа — трэцяе, яны за ажурнай паваловай свежых фіранак, за якімі — зноў шуршыць па бульбоўніку ды па яблынях роўненькі, спакойненькі дождж. І была б гэтая музыка вельмі прыемнай, калі б не думаць, што з такой штодзённай макрэчы камусьці трэба вырываць пакуль што сена, а неўзабаве і хлеб...

«Яшчэ ніколі нічога ў полі не заставалася». У такім аптымізме так многа нашай сённяшняй, нібы ўжо ўсеагульнай абыякавасці, ад якое дабра не чакай.

...Няўлоўна невыказная асалода — чытаць добрае. Пайду ў яе далей. Гэта апавяданні Андрыча ў чэрвеньскім нумары «Иностранной литературы». Прыемна думаецца, што Югаславію і я — хоць трохі — ведаю, успамінаю мясціны, пра якія ён піша. І думаю, што любое, з любога месца, на любой мове зробленае па-сапраўднаму, раней ці пазней, але стане вядомым, возьме сваё.

*

Не вытрываў і пайшоў у поле, у лес, на луг. Сонечна, цёпла. Залішне набрынялая вадой зямля зноў ажыла — зелянее, цвіце, патыхае жыццём. Нават маленькі карычневы матылёк махае крыльцамі над роснай травой, шукаючы сонца, сонечнай прагалінкі.

Падышоўшы да паваленай сасны, успомніў, як у гэтым лесе, ужо... чатырнаццаць год таму назад, мы нарыхтоўвалі драўніну. Ад гэтага — да ўчарашняга лесніка, які падвечар запрашаў мяне выпіць з ім і гаспадаром. Адмовіўся нездароўем, а думаў пасля, што, можа, і цікава было б пагаманіць з імі, аднак — бог мой! — да гэтага ж трэба брысці ў гарэлцы, у ачмурэнні... Праз яго тут многія і на прыроду глядзяць,— як тая баба казала,— кожны дзень жывучы п'яным.

Учора ўвечары, на праходцы, хацелася запісаць, што ячмень, трохі пажаўцелы ўжо, надсыр пасля бясконцых дажджоў, пахне соладка з нейкай іржавінкай. Як і жыта калісьці мне пахла, у маладосці, пра што я, здаецца, пісаў. Цяпер ячмень, *цэлае воблака яго,* як сказала б мама, расце там, дзе летась была бульба, а пазалетась жыта. І ў ячмені цяпер сцежка, як і ў бульбе летась, ды мне ўспомнілася тая, што ў буйным жыце была, і падумаў, што так і ішоў бы па той сцежцы бясконца, уздоўж бясконцых слупоў і дратоў, з якіх перада мною ўзляталі б вялікімі чародкамі гаманлівыя «ноты» — ластаўкі...

...У Болдзіне Пушкіна і сумота, відаць, падганяла. Гэта цяпер падумалася, а выходзячы з лесу, убачыўшы канец дарогі — шырокі прасвет у поле і на луг,— успомніў Льва Мікалаевіча з яго славутым «Я возвращался домой полями»... Нехта пісаў пра тое, як ён працаваў над «Войной и миром»: зранку сядзеў у лесе на пяньку і доўга думаў...

Адтуль яно, слова яго — ад зямлі, ад прыроды, ад самога жыцця.

*

Карлавы Вары ўсё ж такі будуць. Ну што ж, у Крынічным я з сябе ў той сумоце таксама не богведама што вымучу. Падганяю справы і, у поўнай гатоўнасці да выезду, вырушу паслязаўтра да бабулі і ўнучкі, яшчэ на два тыдні [1].

Восем. Будзем ўставаць, ехаць па рукапіс, вычытваць пераклад. «Без работы і разумны здурнее»,— як гаварыў сімпатычны Павел Фёдаравіч Сарадоеў, з якім калісьці было цікава.

Як гэта добра сказана: «Жизнь моя, иль ты приснилась мне?» Колькі было ўжо добрага — не палічыць...

Лаўлю сябе часамі і на тым, што пішучы *для сябе* — самому сабе растлумачваю тое, што патрэбна будучаму чытачу гэтых «сваіх старонак». Так і цяпер,— хто ж такі Сарадоеў? Той самы, пра каго я пісаў у «Дажджлівым, сонечным жніўні», старшыня калгаса і, галоўнае, харошы чалавек.

Хочаш не хочаш, а чыстага *для сябе* не выходзіць. Можа, і таму, што я ж і друкую з запісаў, няхай сабе і выбіраючы?

*

Дома, у Мінску, быў з прыемнасцю, нават учора як быццам ехаць сюды [2] не хацелася, а ўжо ў аўтобусе адчуў, што лета, і што я ў красу яго еду.

Сцежка ў ячмені, уздоўж драціны на слупах, росны луг, Нёман, а потым лесам дадому.

Дзве рэчы захацелася не забыць.

Хлопчык, калі і старэйшы за нашу Данусю, што яшчэ спала, дык не на шмат старэйшы,— пастушок з радоўкі, які каля пня ў роснай траве канчаў снедаць і, па добраму звычаю гэтай вёскі, павітаўся са мною. «Есці захацелася?» — «Ага».— «А даўно выгналі?» — «У пяць». Ён не

---

[1] Запісана ў Мінску.
[2] Зноў у Крынічнае.

адзін, з нейкім дзядзькам, якога я паміж дрэвамі над ракою ўбачыў з каровай раней, чым хлопчыка.

І другое.

Тры буслы на нізкім лузе, за дубамі, — хвалюючае спалучэнне белага, чорнага і чырвонага колераў, асабліва тады, калі яны пачалі адзін за адным — на ўсякі выпадак — уздымацца.

Хораша сніў Твардоўскага, які зайшоў да нас і добра такі пасядзеў. А ідучы думаў пра Глебку: што добрага і я мог бы сказаць пра яго? Гэта — пасля яго вершаў у ліпеньскім «Полымі». І пра Броўку ёсць што сказаць, калі без вэрхалу ды сэпляў, як у N., а натуральна, аб'ектыўна. Можа, калі і скажу.

*

Чытаю ў Хайноўскага [1] пра нацыянальную палітыку ў даваеннай Польшчы. Па-новаму прагучала такое:

«Украінцы і беларусы густа засялялі землі на ўсход ад Буга і Сана, і таму акрэсленне «нацыянальная меншасць» больш падыходзіла там да насельніцтва польскага, якога было каля 37,8 працэнта».

*

Вярнуўся з рэчкі.

Адышоўшы далей, стаў пад зялёнай, высокай навіссю алешніку, і цераз Нёман гледзячы на лугі, кусты, аер і неба, успомніў, як Грыша [2] гаварыў, вярнуўшыся адзін з паэтычнай праходкі: «Хораша так, а тут нейкія войны, палітыка...» І ў Талстога яно, і ў іншых — краса прыроды кліча да міру, да любові.

Успамінаў сённяшнюю цётку, якая жыве,

---

[1] A. Chojnowski, «Koncepcje polityki narodowościowej rządów polskich w latach 1921—1939».

[2] Тут і скрозь далей Грыша — паэт Рыгор Семашкевіч (1945—1982), зяць Я. Брыля.

век пражыла ў такой красе і так жа хораша спалучае ў сабе і знешнюю цемру, і высокія чалавечыя якасці. А каб жа гэта яшчэ і без цемры!

*

Палавіна сёмай. Імгла.

Калі выйшаў да Нёмана, успомніў, што з палубы цеплахода, у сонечны дзень, недзе каля Запаляр'я ці ўжо там, старая глядзела, глядзела на ціхі Енісей і, нарэшце, не вытрымала: «Ишь, злодей, притаился!.. А сколько людей-то взял!..» Учора паблізу ад таго месца, дзе я пасу апоўдні ўнучку, пакуль яна плёхаецца са сваімі сяброўвачкамі на быстрым бродзе, утапіўся юнак з мінскай вясёлай кампаніі, а Нёман — такі ж прыгожы і абыякавы, як і быў, і новая вада прыйшла сюды за ноч з-пад Коласавай Альбуці або з яшчэ далейшай летняй красы, а заўтра будзе каля якой-небудзь Луннай. «Красою вечною сиять...»

Яшчэ адзін успамін, яшчэ адзін водгук вялікага. У ціхі, хоць і быстры Нёман упадае ручаіна. Там павінны браць акуні, а вышэй, у далёкай траве, летась я выпудзіў дзікіх качак. Успомнілася Ніягара, дзе я захоплена падумаў і, здаецца, запісаў: «І так жа тут вечна!» І ўспомніўся Лермантаў, ужо зямны, лугавы: «...и вода с водою говорит...»

А потым яшчэ ён, праходзячы пад *цёмнымі* дубамі.

Учора, калі Света, з усёй сур'ёзнасцю дзевяцігадовай гаспадынькі, расказвала, як *той* хлопец утапіўся пазаўчора вечарам, а знайшлі яго толькі ўчора апоўдні (мы і не ведалі нічога), як «два хлопцы і адна дзеўка», што былі ў іх кампаніі і нават адзін з іх штурхануў *таго* хлопца, «селі ў сваю «Волгу» і ўцяклі», а другія, «з другое «Волгі» павязуць таго хлопца да яго маці,— слухаючы гэта і канстатуючы гэты пейчы жах разумова, падумаў, а сёння вось успомніў, што раўнадушная не толькі прырода... Як прывыкаў

і я — так жа хутка! — да трупаў і на фронце, і ў партызанах, як неглыбока я думаю і пра тых, што сёння... Зрэшты, і блізкіх так многа ўжо адышло, і боль не паўтараецца.

Паміж магутным надрэчным алешнікам і саджаным гайком ужо трыццацігадовых дубкоў, у буйнай расе, неабтрэсенай ветрам, якога і звання няма, і не абсушанай сонцам, якое хоць і высакавата ўжо, але ў імгле,— стаіць духмяная копіца сена... «Ах, як прыгожа!» — можна і пaпікнуць сябе пасля тых думак пра абыякавасць. Што ж, і прыгожа, і будзе прыгожа, калі і нас не будзе. Дарэчы, учора, гледзячы на Вялікую Мядзведзіцу, успомніў Мележа, як аднаго з тых, каго ўжо няма, а каля свежай, удала высушанай (пасля доўгіх дажджоў — пагода) і сапраўды духмянай копы — Твардоўскага прыгадаў: «калі арыгінал — расквітнелы луг, дык пераклад — сена». Не зусім дакладна, але блізка.

Калі ўжо бэрсаць далей, дык — у сувязі з неабходнай нашаму брату дакладнасцю,— панюхаўшы копу, успомніў абмеркаванне «Пушчы» Віці Карамазава: як студэнты-леснікі (у тэхналагічным інстытуце) папраўлялі яго,— ласі, аказваецца, сена не ядуць, а ён ім настаўляў (на паперы) стажкоў.

...Дануся соладка спіць, а на дроце, дзе ўчора сох яе купальнічак, павук сплёў, падвесіў цудоўную сетку. А на ганачку, каля збуялага бульбоўніку і адной яркай вяргіні, цярпліва сумуе пярэсты сябар — каток, якому яна выносіць малако.

Гаспадыня здзіўлялася, як пяшчотна Грыша развітваўся з Данусяй. А ўчора, калі мы гулялі ў карты і Света прытулілася да яе, яна — нібы між іншым — пацалавала далоньку малое, што ляжала на загарэлай, ад працы моцнай, поўнай мамінай руцэ.

«...Ён якраз снедаць садзіўся. Наліў чарку гарэлкі, выпіў і пачаў есці».

Пры Польшчы ў нас гаварылі пра старога К., які з гаспадаркі і з працэнтаў за даўгі сабраў «шмат золата»: «Без чаркі есці не сядзе.

А чай п'е з шакаладнымі цукеркамі». Падлетку-ўнуку мужчыны з усёй каравасцю тлумачылі, чаго толькі не хапае для поўнага шчасця ягонаму дзеду-ўдаўцу...

Цяпер той узровень шчасця, пра які пераважная большасць магла толькі марыць, дасягнуты і перасягнуты ўсімі, хто гэтага хоча. Маласельская крама, напрыклад, прадае ў сярэднім чатыры скрынкі гарэлкі і віна за дзень. З праблемы п'янства вырастае другая праблема — дэбілы...

...Чытаю Хайноўскага.

Успомнілася, як я збіраў матэрыял для «Граніцы», шукаючы ў Ленінскай бібліятэцы, у фондзе Урублеўскіх у Вільні, у архівах Гродна, Брэста, у Слонімскім музеі, у Маладзечне... Наколькі лягчэй усё такое праходзіла б сёння. А што я меў бы, каб не шукаў, дзе мог, а чакаў? Не «Граніцу» маючы на ўвазе, а ўсё, што ў мяне звязана з даваенным часам.

...Ляснікоў сын: «Грыбоў у гэтым годзе мала, бо, старыя людзі казалі, зорак на куццю не было». Няхай наіўна, але ж паэзія.

*

Да таго, чым кончыў папярэдні запіс, учора, позна ўвечары хацелася дадаць пачутае ад С.: «Маці мая тыя разы казала: на Барыса — сцеражыся». Снапоў у гэты дзень (сёння) не вазілі, каб не было пажару. Зноў жа тут уражае не «цемра», а народная любоў да слова.

...Дзед з бабай маглі сабе ўчора ныць і ледзь не сварыцца з нуды, у парна-душна-хмарны дзень, а ў Данусі дзень гэты быў такі змястоўны. Пайшла па чабор, а там, на ячменным полі, да лесу яшчэ не дайшоўшы, атрымала цудоўнае запрашэнне: праехацца са Светай у кабіне грузавіка з ячменем ад камбайна ажно ў Любна — пяць кіламетраў полем і лесам. Шафёр, добры і вясёлы чалавек, яшчэ і «морсам з мёду» напаіў іх, сустрэўшы

тую цётку, што везла камбайнерам абед. А такое: адзін дзядзька сядзеў у кузаве, на ячмені, і, калі праязджалі ў вёсцы пад вішнямі, застукаў па кабіне: «Стой, вішаньку сарву!..» І такое: вясёлы дзядзька-брыгадзір пытаўся ў Данусі, як ёй тут з дзедам і бабай жывецца, хто яе тата і мама, і прачытаў ёй Броўкаў верш «Пахне чабор»,— не ўвесь, вядома, а трохі. І сказаў, што гэтага паэта ўжо няма, памёр.

Напішы апавяданне — будзе сентыментальна, асабліва калі па радыё якая-небудзь «цёця» дадасць сюды і свайго яшчэ соладу.

...Паснедаўшы, буду дачытваць Жукроўскага [1], шукаючы цікавага для кнігі маіх любімых апавяданняў, якую ўсё-такі зраблю, колькі ўжо разоў ні заракаўся займацца перакладамі. Зраблю тым больш, што палавіна кнігі ўжо зроблена.

*

Перапіска Леаніда Першамайскага з Мікалаем Чукоўскім нагадала — як сумнае дакрананне гісторыі — 1965 год, ліпень у Кактэбелі, калі я амаль штодня бачыў Чукоўскага-сына, зусім не ведаючы яго як пісьменніка і чалавека, а таксама і 1969 год нагадала, верасень у Ерэване, калі я пазнаёміўся з Першамайскім і мы нават трохі зблізіліся, абмяняўшыся кнігамі — «Дзікі мёд» і «Жменя сонечных промняў»,— а потым і пісьмамі пра кнігі.

*

Учора быў на Ваганькаўскім і пастаяць каля яго магілы даўжэй... проста не змог. Знаёмае па іншых блізкіх адчуванне,— ён, у гэтым выпадку Дзіма [2], не тут.

---

[1] Жукроўскі Войцех (нар. у 1916) — польскі пісьменнік.

[2] Тут і скрозь далей Дзіма — рускі паэт Дзмітрый Кавалёў (1915—1977), сябар Я. Брыля.

*

Калі мы пазаўчора ехалі з Прагі сюды [1], любуючыся культурнымі палямі, падумаў і сказаў: «Вось чаму мне так сумна бывала часамі ў Крынічным, як там ні хораша,— няма руху ў вялікай прасторы, няма новага-новага-новага, да чаго я прывык, многа ездзячы калісьці дома і за мяжой».

*

Тут, блізка ад Баварыі, месца дзеяння другой палавіны майго рамана, добра думаецца пра яго, як пра маё сапраўднае. Што думалася і дома, калі чытаў карэктуру.

*

Пасля чэшскіх апавяданняў бяруся за зусім невядомага Сараяна, і здаецца, што гэта будзе падобна да працы, вучобы... (Пішу і з'едліва думаецца: добра хавацца за зробленае іншымі?)

Арменія маленькая, а колькі людзей за межамі так добра працуе на яе славу. І ў гэтым сіла народа.

А беларусы здаўна ішлі з дому толькі ўзбагачаць іншых.

...М., калі мы абедалі і я сказаў, што чытаю Сараяна, расказала, як ён гасцяваў у Празе. Далі яму zацішны гатэль, каб старога нішто не трывожыла, а потым яна даведалася, што на мосце каля гатэля вакол Сараяна сабраўся натоўп. Стары сам расказаў ёй, што гэта немцы з ФРГ папрасілі яго папазіраваць ім перад кінаапаратам, бо ў яго... «вельмі характэрнае аблічча чэшскага селяніна».

Так бы свабодна пісаць, як ён піша!

«Мир слишком прекрасен для смерти. Слишком благодатен для убийства. Дышать — это радостно, видеть — так чудесно. Люди не должны убивать друг друга. Они должны ждать, пока бог возьмет каждого в положенный срок».

---

[1] Гэты і сем наступных запісаў зроблены ў Карлавых Варах.

Часамі, у апавяданнях, ён бачыцца неглыбокім, толькі добрым, людскім, светлым. Аднак жа, дзе яна, большая глыбіня, чым у апошнім, працытаваным вышэй, абзацы яго рамана? [1]

*

«Niebo w płomieniach» [2], пасляслоўе:

«Што ні скажаш пра генія, пра шырыню інтэлекту або сілу ўяўлення пісьменніка, ён, таксама як і кожны чалавек, асуджаны на пажыццёвае зняволенне ў сваім свеце і ніколі не высунецца за ягоныя межы. У гэтым сэнсе кожны твор, найбольш безасабісты, будзе ўрыўкам аўтабіяграфіі».

І там жа пра шчырасць:

«Пісьменнік, які ўсведамляе ўсю сур'ёзнасць свайго прызвання, не зможа адрачыся ад яе за любую цану. Зрэшты, сапраўдны мастак нават не зможа гэтага зрабіць.

*

Великолепный Тургенев («Стук... Стук... Стук!..», «После смерти», «Вешние воды» і іншае), з такім вось, у «Вешних водах», «прарочым» выказваннем:

«То было одно из многочисленных доморощенных произведений, в которых начитанные *(а ў нас і не начытаныя ў добрым сэнсе слова)*, но бездарные авторы отборным *(і далёка не адборным)*, но мертвенным языком, прилежно, но неуклюже проводили какую-нибудь «глубокую» или «животрепещущую» идею, представляли так называемый трагический конфликт и наводили скуку... азиатскую, как бывает азиатская холера».

Учора, з Парандоўскага, выпісваў-перакладаў

---

[1] Маецца на ўвазе раман У. Сараяна «Прыгоды Веслі Джэксана».

[2] «Неба ў агні» — аповесць польскага пісьменніка Яна Парандоўскага (1895—1978).

«па ўсякі выпадак», «на патрэбу», а сёння гэта — як быццам толькі для задавальнення.

Дождж зноў і зноў шуміць, гамоніць за нашымі балконнымі дзвярмі, і як ні напрыкрыла ўжо такое надвор'е, як ні шкодзіць яно і тут (учора па тэле перадавалі, што 50 % збажыны яшчэ стаіць), залюбаваўся з нашай верхатуры (чацвёрты паверх, а віла на гары), як на зялёную яміну горада, з мноствам высокіх рознакаляровых вілаў-санаторыяў і жылых дамоў, з нізкіх хмараў да зямлі рухома *прашывае* дождж.

Падумаў, што варта запісаць, з якой цеплынёй думаў днямі пра тое, як я люблю сваю справу «і ў такім аспекце»: старонкі кнігі, табой напісанай,— з задумы, з пакут, з чарнавікоў — стройная, чыстая, *жывая*...

Зноў Тургенеў, «Пунін і Бабурын». Як хораша чытаецца.

І ўспамінаецца той Прус, «Grzechy dzieciństwa» [1], які будзе беларускай кнігай.

Ці запісаў дзе-небудзь, што Бэнда, *гроза* дваццатых — трыццатых гадоў, сказаў мне ў сорак сёмым, на калідоры «ЛіМа»: «На каком языке вы пишете? Я до вас доберусь!..» А мог жа і дабрацца, каб я пачаў друкавацца раней. Пасля мы з ім сутыкнуліся на вузкай сцежцы, у пяцьдзесят восьмым, калі ён рэдагаваў мяне ў Ленінградзе. Я саштурхнуў яго з той сцежкі, а ён, сустрэўшыся пасля ў Мінску, да агіды здзівіў мяне сваім: «Чем еще порадуете читателя?» Хоць і гаварыў перад гэтым, у Ленінградзе, што я — «от, начинающий писатель»...

*

Цудоўная паездка з Вацлавам [2] у Хэб і ў Мар'яньске Лазне (зусім на подступах да Вайдэна [3]). Сонечная краса Судэтаў.

---

[1] «Грахі маленства» — выбраныя апавяданні Б. Пруса выйшлі ў перакладзе Я. Брыля ў 1981 г.

[2] Вацлаў Жыдліцкі (нар. у 1931) — чэшскі літаратуразнаўца і перакладчык беларускай літаратуры.

[3] У горадзе Вайдэн Я. Брыль быў у 1940—1941 гг. у нямецкім палоне.

Наведанне яго дваюраднага брата ў саўгасным пасёлку. На кніжнай паліцы (у адным з пяці пакояў — у трактарыста!), побач з Ірасекам, Дзюма, Дастаеўскім — Караткевіч. Таксама па-чэшску, у перакладзе Вацлава.

Едучы адтуль, з пасёлка далей, весела ўспамінаў Бранеўскага, з якім у Валодзі ёсць падобнае ў характарах.

Уладзіслаў, спыніўшыся позним вечарам каля вясковай карчмы, заказаў сабе літр гарэлкі і яечню з трыццаці двух яек, сеў, выпіў адзін кілішак, з'еў адно яйка, расплаціўся за ўсё, з «чаявымі», галантна падзякаваў і паехаў далей.

А наш Валодзя пачаставаў у маскоўскім рэстаране вялікую групу незнаёмых неграў — на ўсе грошы ў першы дзень камандзіроўкі,— «хай ведаюць, што такое Беларусь!..».

*

Пршвін («Кащеева цепь»):

«Знаю очень хорошо, что если бы я вслух сказал среди поэтов и художников о каком-то поведении, то все бы смеялись. Я это знаю и таю про себя мысль о том, что в художественном произведении есть какое-то настоящее творческое поведение».

У пачатку пяцьдзесят першага года я слухаў яго на нарадзе маладых пісьменнікаў, ён гаварыў там пра «поведение» і — ніхто не смяяўся. Не памятаю, ці я тады добра яго разумеў, аднак сутнасць гэтага, чым далей, то ўсё больш і мая таксама.

І далей у яго:

«Грибоедов чудесно сказал: «Пишу, как живу, и живу, как пишу».

...Мне бы хотелось понимать форму свободного труда, как об этом говорит Грибоедов, а творческое поведение я понимаю как усилие в поисках своего места в общем человеческом деле и как долг в этом общем деле оставаться самим собой».

*

Прага.

Старадаўнія яўрэйскія могілкі, на якіх ужо дзвесце год не хаваюць. Камень пры камені, вусцішная бібліятэка з «кніг» на безнадзейна невядомай мове, яшчэ па-новаму memento mori.

Хто тут асмельваецца гаварыць пра вечнасць?..

Толькі б маленькі ўдзел у вечнай справе. У гэтым і сапраўдная сучаснасць.

...Чэшскі стол, мангольская гарэлка і — дзякуючы мілай гаспадыні, вопытнай кітаістцы — дакрананне да Кітая, другой, да сцішнаты бяздоннай вечнасці.

Ці дойдзем мы калі-небудзь да сапраўднай агульналюдскай еднасці? У кожнага свой горб гісторыі, таго, што называецца нацыяналізмам. А яшчэ ж і новы, ды такі вялізны, мех развязаны — Афрыка!..

*

На адным з нашых з'ездаў ці пленумаў К. пачуў, як другі К., маскоўскі, казаў камусьці, што беларуская літаратура — «детский лепет». Расказваў мне наш таварыш пра гэта абурана, а я вось, чытаючы А. Лебедзева пра Грыбаедава, думаю, што ёсць не толькі «Горе от ума», *адзін з твораў* вялікай рускай літаратуры, але ж і многа глыбокіх даследаванняў пра яго. І як гэта, на жаль, пакуль што аб'ектыўна правільна — пра «детский лепет», і нічога тут няма абразлівага.

*

Думаў учора, што трэба будзе перачытаць Караткевіча, якога я чытаў найбольш у першых рукапісных варыянтах. І гэта па-свойму гаворыць мне пра яго значнасць. У нейкай залежнасці ад яго юбілею.

*

Зноў жалобнае развітанне, па тэлевізары[1].

Каля труны Пятра Міронавіча, у галавах, стаяць яго жонка, партызанскі лекар, а сёння прыбітая горам жанчына, і брат яго, прыгорблены, сівы генерал. Калісьці расонскія юнакі, яны, браты Машэравы, далёка не адразу пасля вайны знайшлі, дзе пахавана іх маці, расстраляная за сыноў, партызана і франтавіка, і, як расказвалі іх землякі, убачылі, што косці рук яе звязаны калючым дротам...

Дождж, дождж на могілках, а потым, зусім нечакана, пасля ўсяго, на тэлеэкране — пад яго маладую, прыгожую ўсмешку на жалобным партрэце, над процьмай вянкоў і букетаў — развітальны лёгкі і чоткі праход воінскага ганаровага эскорта,— моладзь пад гукі вясёлага, непераможнага марша.

Як быццам сам ён, Пётр Міронавіч, сваёй усмешкай гаворыць, што ёсць і вышэйшае, трывалейшае за смерць.

*

Сярод тых зборнікаў апавяданняў, што прысланы мне на выбар у польскую анталогію, нейкі зусім незнаёмы К. У апавяданні яго — верасень трыццаць дзевятага. Уланы апынуліся паміж нямецкім наступленнем і нашым вызваленчым паходам. А тут яшчэ супраць уланаў, добра знаёмых мясцоваму насельніцтву па славутых «пацыфікацыях»[2], выступілі і сяляне-ўкраінцы. «Шаржа»-атака на гэтых безабаронных людзей,— штосьці з «Агнём і мечам». І як было там, у Сянкевіча,— «чэрнь», «морда», так і тут: «З каменным, адутлаватым тварам палкоўнік свіснуў шпіцрутэнам па мужыцкай мордзе». А потым яшчэ і шакалам назваў. А вышэй, калі ідзе тая, ледзь не

---

[1] Гаворка пра пахаванне П. М. Машэрава (1918—1980).

[2] Пацыфікацыя — уціхамірванне, карныя экспедыцыі для падаўлення рэвалюцыйных настрояў.

легендарная атака: «Пазбаўленыя ініцыятывы, атуманеныя нацыяналістычнымі лозунгамі мужыкі заўважылі атаку, але было ўжо запозна на абарону і на ўцёкі. Тых, што ўцякалі палямі, уланы секлі шаблямі, даганяючы. Тых, што пахаваліся ў равах, бралі на пікі...»

Такое выдаецца ў сямідзесятым годзе. Трымаецца на смярдзючым «гістарызме». Як і два «дыскусійныя» артыкулы ў «Kulturze» пра Дырлевангера XVII стагоддзя, «гразу казацтва» Ярэму Вішнявецкага,— вялікія, з «вялікай эрудыцыяй» напісаныя артыкулы, у якіх ані крышку сучаснага разумення гісторыі.

Учора з цікавасцю чытаў даклад на пленуме ПАРП, з квінтэсенцыяй у адным сказе: «Трыццаціпяцімільённы народ ніхто не возьме на сваё ўтрыманне». Якая складанасць там у іх, і як моцна акумулюецца гэты народ сваімі спрадвечнымі недахопамі і сам, і пры шчодрай дапамозе «сяброў»...

К., пасля прачытання закінуты на антрэсолі, так муляў гэтымі днямі, што я яго зняў, нарэшце, адтуль, каб запісаць. Як пра штосьці ў значнай меры не прыватнае, а характэрнае для спраў шырэйшых і глыбейшых.

*

Дачытаў лебедзеўскага «Грыбаедава». Прачытаў (каторы ўжо раз!) лермантаўскае «Памяти А. И. Одоевского», з цудоўным заключным радком, што так заўсёды хваляваў мяне:

...А море Черное шумит не умолкая.

І ўспомнілася нядаўняя сустрэча з Кайсынам Куліевым. От сабе, так сабе маё пытанне: «Как там Эльбрус?» І ягоны, таксама так сабе, адказ: «Сияет и ждет тебя!» А ўспамінаецца прыемна.

*

У мінскім аэрапорце — твары, прыкметы, біяграфіі злачынцаў, якіх шукае міліцыя. Сярод маладых крымінальнікаў — зладзеяў, забойцаў,

растратчыкаў і аферыстак — фотаздымак, як з таго свету, таксама чалавека, якому ўжо за семдзесят шэсць гадоў і якога яшчэ ўсё шукаюць на нашай неабсяжнасці. Каб не проста затрымаць, а яшчэ і доўга «расколваць» ды судзіць за нешта страшнае, можа, жахлівае, што ён рабіў у дні фашысцкай акупацыі.

Перад партрэтам гэтай агіднай старасці ўспамінаў (а можа, цяпер, запісваючы, успамінаю), як у Карлавых Варах, зусім побач з ФРГ, думаў, наколькі гэта балюча наша, унутраная справа — усе тыя, што супрацоўнічалі з ворагам...[1]

⁂

Няўжо заўсёды будзе так: «адзін пішу, два запамінаю»? Колькі ўжо яго, такога «запамінаю», пайшло ў нябыт, ідзе туды і будзе ісці!..

⁂

Неяк дзіўна быць з сабою сам-насам, аднаму, як быццам я да гэтага не прывык. Стала рабочага, пісьмовага няма. Нешта курортна-вузкае, каля сцяны, з шуфлядамі, з тэлевізарам збоку і з вялікім люстрам на сцяне. Пішу і няёмка: нібы хтосьці за мной назірае. А гэта я сам, і мне самому, аднаму ў пакоі, смешна і няёмка...

⁂

Толькі прачнуўся (у сне гладзіў аўчарку) — адразу шчодра чарпануў самога сябе найгоршага і — хоць вый... А жыць жа трэба. І ніколі не ўведаеш на ўсю глыбіню, ці і другія, каго ты паважаеш, таксама горкія бываюць кожны сам сабе?..

---

[1] Гэты і васемнаццаць наступных запісаў зроблены ў Сочы.

*

А ўдар, апошні ўдар сямітоннай махіны ў жалезны лоб яшчэ цяжэйшай, узаемны ўдар сучаснай, так «неабходнай» нам вялікай хуткасці — зноў і зноў вяртаецца да мяне...[1]

*

За морам, за горамі, стэпамі і лясамі ёсць дзяўчынка, якой споўнілася дзесяць год, і з усіх падарункаў, якія яна атрымала, найбольш радасці ёй прынесла новая клетка з вясёлымі папугайчыкамі.

Пра гэта мне хораша было думаць учора, калі пазваніў дахаты і даведаўся, што ўсе нашы былі ў Данусі.

А днямі, убачыўшы на тэлеэкране поўненькага, вясёлага немаўлёнка, сказаў: «Падумаеш! І ў нас ёсць недзе такія шчокі». Гэта — пра Міхася, які ўсё больш ды больш ачалавечваецца.

Добра, калі ёсць такія «дробязі».

*

Ніна [2] ўчора па тэлефоне сказала: дурны, што працую. А я яшчэ і грызу сябе трохі, што не сваё раблю, а перакладаю.

Устаўшы ад стала, каб ісці на снеданне, успомніў N., які калісьці, забраўшыся ў вежу нясвіжскага замка, напісаў за месяц адначынку даўжэзную «лезэдраму», тры ці чатыры апавяданні, цыкл вершаў, а потым, каб не выбіцца з рабочага настрою, яшчэ перапісаў (ад рукі, прыгожым дробным почыркам) шэсць нумароў газеты — ад першага і да апошняга слова ці лічбы...

Так рагатаў калісьці Х., і сам ніколі не гультаі.

Нядрэнна і я працаваў у тым самым замку ў

---

[1] Маецца на ўвазе трагічная смерць П. М. Машэрава.

[2] Тут і скрозь далей Ніна — жонка Я. Брыля.

лістападзе шэсцьдзесят шостага. «Ты жывеш», «Шэрань», «Думкі звычайныя», дапрацоўка «Апошняй сустрэчы» і «На Быстранцы», запісы... Больш бы такога! Каб жыццё было поўнае зместу, каб не было тугі і сораму, што злёгку ўсё точаць ды точаць.

*

Падвечар, слухаючы мора, зноў успомніў Машэрава,— як ён тут, летась і пазалетась, кожнай раніцы пралятаў на водных лыжах. І да сумнага «не паляціць», нібы ўжо стомлена, нібы ад чалавечай мудрасці падумалася: колькі пад гэтай сонечнай, гаманлівай вадой трагічна схавалася без пары... Ну, хоць бы каля Малой зямлі, дзе, як нам з Дзімам расказваў інвалід, удзельнік тых баёў, на штурм ішлі камсамольскія часці і крыкі «мама» перакрывалі кулямётна-гарматны агонь...

*

Добра відаць чужыя памылкі. Стары Гаўрук спяшаўся перакладаць балады Шылера, а тое, што за яго ніхто не зробіць — успаміны пра Гарэцкага — усё адкладаў...

*

Раскоша чытання,— гэта ўсё-такі Герман Кант з яго «Остановкой в пути», раманам, які спачатку трохі дакучаў сваёй «нямецкай» грунтоўнасцю, а потым так, нарэшце, узяў, што я адчуў даўно знаёмы, шчаслівы «запой».

*

Чартова [1] — пра бацьку, пра сваё маленства. Хораша, мудра — з дыстанцыі. І тое, як брат-рэаліст пайшоў з белымі,— праўда, з якою ёй больш не трэба хавацца.

---

[1] Н. В. Чартова (нар. у 1903) — руская пісьменніца.

Калісьці, у пачатку пяцідзесятых, я знаёміўся з гэтай жанчынай, нічога ў яе не ведаў, лічыў нават «з маладым размахам», што от сабе старая — каля выдавецтва, то рэцэнзуючы рукапісы, то перакладаючы па славутых падрадкоўніках. А цяпер — з павагай і ўдзячнасцю прачытаў. Ціхае шчасце «общения» з людзьмі і часам, якія і сапраўды не павінны былі пайсці ў нябыт.

Двойчы Талстой: «прожил жизнь — расскажи» і другое: «и у малых писателей бывают вещи значительные» (штосьці так). Не ад старасці, не ад слабасці, не ад няздзейсненых надзей, а ад сапраўднай сталасці думаецца пра тое, што літаратуру робяць не толькі вялікія, што найбольш трывалае шчасце — у сумленным выконванні абавязку.

*

«Адхіленні ў чалавечнасць».

Адно з іх успомнілася,— у выступленні Фадзеева, здаецца, на з'ездзе ў пяцьдзесят чацвёртым годзе. Пра хлопца з яго юнацтва, паповіча, якому жылося нясоладка. Ці правяраў я гэта ў кнізе пра той з'езд? Можа, пачысцілі тое адхіленне ў парадку «карыснага» ў многіх выпадках скарачэння стэнаграмы? А то і сам ён «разумна» зняў, як гэта ў нас часта рабілася і робіцца? «Правільна гэта, добра, але цяпер не трэба». А калі будзе трэба?

*

За балконам майго трэцяга паверха, за кронамі грады высокіх і яшчэ зялёных дрэў — мора і неба. Днямі, з акна нашага «мацэсцінскага» аўтобуса ледзь не радасна ўбачыў многа невялікіх белых ветразяў і ўспомніў маё юнацкае, салдацкае, з Гдыні:

... Ветразі лодак рыбацкіх сям-там,
Быццам капусныя спяць матылі...

А цяпер у сіняй воддалі відаць белыя

дзяжкі глісераў,— меншыя, нерухомыя, і даўжэйшыя, з пенаю за кармой.

Ні я купацца, ні загараць, ні на рыбалку... Сумная мудрасць рэжыму, асцярогі. І работа. Нічога тут не параіш, калі трэба выбіраць, лічыцца з магчымасцямі. Хопіць і таго, што можна.

*

Сустрэлася Блокава: «У поэта нет карьеры — у него есть судьба».

Думаў днямі і зноў вось думаю, колькі я за апошнія дзесяць — пятнаццаць год рабіў на шкоду сам сабе, можа, і не заўсёды вельмі абавязкова, аднак, як здавалася ў той час, такога, а не іншага таму, што інакш я не мог.

*

А. Эйнштэйн:

«...Моя религиозность состоит в смиренном восхищении безмерно величественным духом, который приоткрывается нам в том немногом, что мы, с нашей слабой и скоропреходящей способностью понимания, постигаем в окружающей действительности. Нравственность имеет громадное значение для нас, а не для бога.

...Люди моего склада считают мораль чисто земным делом, хотя и наиболее важным в области человеческих отношений».

*

«З 1300 даваенных ксяндзоў 248 актыўна супрацоўнічалі з фашысцкімі акупантамі, а яшчэ 250 — з буржуазна-нацыяналістычным падполлем і яго ўзброенымі бандамі, сярод верхаводаў якіх, дарэчы, было больш за 50 ксяндзоў».

Гаворка — пра ксяндзоў літоўскіх. А мне ўспомніўся сонечны Гюстраў і пані З., што гаварыла мне там, якую выдатную гістарычную

ролю ў захаванні нацыянальнага духу іграў у гады больш чым векавой няволі і разарванасці Польшчы польскі касцёл...

Мы, беларусы, можам гаварыць пра яго з іншага боку,— пра магутную і жывучую сілу асіміляцыі гэтым касцёлам нашага народа, ад чаго нейкая частка землякоў і яшчэ ўсё ніяк не ачухаецца.

*

Яшчэ раз пра аўтабіяграфічнасць.

І. Ганчароў («Лучше поздно, чем никогда»):

«Что не выросло и не созрело во мне самом, чем я сам не жил, то недоступно моему перу: я писал свою жизнь и то, что к ней пристало».

*

Учора глядзеў тэлефільм па «Нісо» П. Лукніцкага, і ў сцэне, дзе таджыкскі і рускі юнакі селі вячэраць (маці таджыка корміць іх), паўтарылася адчуванне, якое варта перажыць, запомніць і выказаць — для збліжэння людзей, так, як яны тут збліжаюцца, гэтыя чыстыя, гатовыя на ўсё добрае, закліка期 на гэта рэвалюцыяй юнакі.

Што перажывае малады таджык, ад душы частуючы рускага, чым хата багата,— і зарobленай цяжкаю працай, і такой незвычайнай для далёкага госця, і беднай ядой, якой не трэба саромецца, а ўсё ж... Усё ж так хацелася б, каб госцю спадабалася!

Не абышлося тут у мяне і без сына: праз яго прапусціў і гэтага таджыка, і абодвух хлопцаў з іх прыгожай дружбай.

*

Узяўся за Б'ёрнсана, падахвочаны словамі Л. Талстога, працытаванымі ў прадмове: «Он во всем верен себе, искренне любит добро и потому имеет что сказать и говорит сильно. И я все, что

он пишет, читаю и люблю, и его самого тоже». Трэба такія рэкамендацыі, каб лепш арыентавацца. Трэба такая далёкая пераклічка сапраўднага. І Нарвегія прыгадалася, і запісаць пра ўражанне захацелася.

Чытаю (у аповесці «Арне»), як ён — малады, да трыццаці — апісвае прыроду, персаніфікуючы яе, нібы ў казцы, і ўжо не ўпершыню апошнімі месяцамі (ці гадамі?) падумаў:

Няўжо тады, калі ўжо будзе позна на ўсё, я і сапраўды заплáчу, што зрабіў значна менш, чым мог бы?..

...Трэба расказваць *людзям пра свой народ.*

Сапраўдныя, калі яны не думалі так, дык адчувалі такі абавязак падсвядома.

...«В душе каждого человека живет дитя — вечно юное, нежное существо, готовое и играть, и плакать, и вот его-то мы и должны в себе убить, чтобы «подготовиться к жизни», или как это там называется? Нет, говорю я, тысячу раз нет! Именно это существо мы и обязаны сохранить в своей душе, иначе для чего же оно нам дано?»

Проза яго, пры знешнім падабенстве сітуацый (усе ў аповесцях шчасліва жэняцца) і пратэстанцкай сентыментальнасці, цікавая, праўдзівая, высакародная. А драмы чытаюцца нават як быццам яшчэ цікавей. Паэзія (тут, можа, вінаваты пераклад) даходзіць не так, без прозы і п'ес яна не зрабіла б уражання, не дала б мне яшчэ аднаго цудоўнага знаёмства.

⁂

Для бацькі жонка — можа быць і гэтая, магла б і не гэтая быць, а для сына маці — адна. Якая гэта трагедыя — чыстаму юнаку, які хацеў бы і бацьку любіць, шанаваць, прыйшлося кінуцца да яго з адчайным крыкам: «Не смей біць маму!..» Балюча адчуў гэта як сітуацыю. Але не так, відаць, моцна адчуў, каб сесці пісаць,— адразу думка: і такое было ўжо ў літаратуры...

*

Юбілей сатырыка. Напал сатырычнай славы — і ў выступаючых, і ў самога юбіляра — амаль да поўнай страты адчування гумару.

*

Стары настаўнік, светлы чалавек, расказваючы пра нядрэннага, прагрэсіўнага пана ў іхняй аколіцы, зусім сур'ёзна падкрэсліваючы гэта, гаворыць: «Ён выводзіў свой род ажно ад Данілы Галіцкага». І ў адказ яму я спытаўся, зусім па-сучаснаму абыякава: «Ну і што?»

У семдзесят пятым годзе ў Кракаве з гарадской газеты ў гасцініцу прыйшоў да мяне от сабе журналіст, каб узяць інтэрв'ю, і за чвэртку гадзіны разоў з пяток паўтарыў: «Естэм Б.!» «Естэм Б.!» Таксама хацелася сказаць: «Ну і што?»

Нават і ў камуніста Е. Путраманта, які свой шматтомны жыццяпіс пачаў з устанаўлення радавога герба, трэба было б, з яшчэ большым падтэкстам, спытацца: «Ну і што?»

*

На думкі такія трэба белы дзень і штодзённы канвеер, бо ноччу думаць пра ўсё гэта — цяжка...

*

«Гедýнгенэ кадэ́йшым» — гэта ў яўрэяў той, хто адпявае нябожчыка, плача або чытае над ім — наняты.

Старэнькая маці ціхага N. так гаворыць пра некаторых, што выступаюць па тэлевізары.

*

Мележ з усмешкай расказваў мне незадоўга да смерці, як ён здаваў бандэроль і маладая, незнаёмая паштарка зрабіла яму заўвагу:

— Мозырь надо писать с мягким знаком.
— Гэта ў мяне па-беларуску.
— Ну и что же? Все равно с мягким знаком.
І паставіла знак сама.

## *1981*

Чытаючы казку Паўстоўскага «Цёплы хлеб», ад яго абаяльнай прастаты, ці што, успомніў, як я ў пачатку трыццаць трэцяга года апісваў ад'езд нашага Колі [1] ў войска. Яго апошні дзень дома. Як на небе, да сонца, была зара, як снег рыпеў ад марозу. Пакуль дайшоў я да галоўнага, да гора нашай сям'і. Пра зару і пра снег пісаў з хваляваннем, якое цяпер вось паўтарылася ўспамінам. Смак і краса прастаты. І, відаць, прадчуванне творчага шчасця ў будучыні.

⁎

Няўжо ў гэтым ёсць заканамернасць, што я — каторы ўжо раз! — прыдрамнуўшы прыцемкам у крэсле і прачнуўшыся, здзівіўся ад думкі, што я — чалавек, асоба, нейкі згустак, *аднекуль* узяўся і *некуды* пайду, а пакуль што павінен рабіць штосьці з як найбольшым, найглыбейшым сэнсам?..

⁎

Да выступлення на вечары Мележа рыхтаваўся сур'ёзна, аднак не напісаў яго, а гаварыў «па тэзісах».

Горкі: «Много сердца — лучшее средство писать хорошо». «Людзі на балоце» і трымаюцца на аўтаравай сардэчнасці, любові да роднай зямлі, да чалавека, да справядлівасці.

Мележ — сам пра сябе: «Няпроста, няроўна ішла дарога...» Да поспеху з «Людзьмі на балоце» яму, на працягу гадоў, нялёгка было

---

[1] Брат Я. Брыля Мікалай (1910—1970) — калгасны брыгадзір.

шукаць самога сябе, свайго запаветнага. І пасля заслужанага поспеху было не лягчэй. Можа, нават цяжэй, бо, па-першае, узмацнілася адчуванне адказнасці і, па-другое, не было ўжо маладосці з яе ўпэўненасцю, што хопіць часу і сілы на ўсё.

Не трэба сёння ў юбілейным экстазе або звышлагоднасці забывацца, што і ў Мележа былі не толькі ўдачы. Ён і сам гэта ведаў. Інакш не дапрацоўваў бы бясконца свой «Мінскі напрамак», супакоіўся б на тым поспеху, што раман гэты меў. А былі ж яшчэ спробы ў драматургіі...

Адносныя няўдачы былі нават у Талстога («Семейное счастье», «Нигилист») і ў Дастаеўскага (успомнім спачатку захапленне, а потым рэзкую крытыку Бялінскага) — у самых вялікіх і маналітных пісьменнікаў.

...Мы, літаратары, па прыродзе сваёй самотнікі. Мы ўмеем знаходзіць шчасце ў сваёй самотнасці, мы нікуды не можам падзецца ад нашага болю, нашага роздуму, нашых сумненняў. Цяжка? І не паскардзішся, бо нехта можа спакойна сказаць: «Цяжка — пакінь». Дарэчы, так і раіў суровы Талстой. Справа ў тым, што і пакінуць нельга, нельга стаць раптам не самім сабой.

...Колькі сяброў адышло беззваротна! Мележ, Куляшоў, Дзяргай... І мы цяпер думаем горка, што не паспелі чамусьці, а то як быццам і не змаглі сказаць ім тое, чаго яны заслужылі.

Тое, што мы гаворым сёння пра Мележа — гэта ўжо не для яго гаворыцца, ён ужо не суцешыцца цяплом нашай шчырасці. Гэта мы гаворым для саміх сябе і для тых, якія прыйдуць пасля і па-свойму паўтораць тое, што мы гаворым пра значнасць зробленага ім, пра сапраўднасць яго як пісьменніка.

...Ад смеху ў зале пасля непрыдуманага анекдота пра «на втором месте» я не сказаў, як думаў раней, што не пра другое, не пра пяцьсот другое месца «пасля Пушкіна» трэба было думаць і думалася тады, у пачатку нашай дарогі, а пра месца *сваё*, да якога было яшчэ так

далёка. Зрэшты, здаецца, я і гэта неяк сказаў. А не сказаў таго, што трэба было, відаць, сказаць:

Не чапаўце ўжо толькі Купалу і Коласа, бо хто ж вас упаўнаважыў саджаць, рассаджваць каля іх ды паміж імі новых класікаў. Тым больш што і тут выразна бачыцца меркантыльны разлік: Мележ побач з Купалам і Коласам, а я — побач або зусім побач з Мележам... Словам, і маладосці ў нас зашмат, і правінцыялізму.

*

Слухаючы спецыялістаў па хіміі, думаў: «Каб я запомніў усё, што чуў на ўсіх тых вялікіх заводах, дзе быў, дык быў бы вельмі разумны». Галоўнае — ведаць сваё, заўсёды і ўсюды вучыцца бачыць усё. Адчуванне павагі да тых, што *ведаюць* і *працуюць* — гэта было ў мяне заўсёды. На такім фоне бачыш, правяраеш сябе — ці тое, што трэба, ці на ўсю сілу робіш сваё.

...Які агромністы апарат, як многа моладзі ў розных камандзіроўках, як многа ў нас людзей, што не працуюць або «працуюць», не робячы галоўнага, неабходнага. Колькі б адпала правяральшчыкаў, каб людзі працавалі хоць больш-менш сумленна.

...Калі мы выйшлі з грандыёзнага ды мудронага цэха, падумаў, што якраз цяпер — па ўсёй рэспубліцы — ідзе тэлеперадача пра маю работу. Адчуванне законнай гордасці, патрэбнасці? Ці, можа, штосьці ад жадання апраўдацца?..[1]

*

«За ім кабыла Мышатка з танканогім жарабём лянiва члапае па сівым, пытляваным пыле палявой дарогі». Гэта калісьці —

---

[1] Запісана ў Гродне.

*пытляваны пыл* — у «Маім земляку» смакаваў незабыўны Валя Таўлай.

Успомніў — чытаючы карэктуру.

*

Дастаеўскі («Дневник писателя», 1873):

«Выше всего ценя разум, науку и реализм, он (Бялінскі.— *Я. Б.*) в то же время понимал глубже всех, что один разум, наука и реализм могут создать лишь муравейник, а не социальную «гармонию», в которой бы можно было ужиться человеку. Он знал, что основа всему — начала нравственные».

Як гэта сучасна праз сотню з гакам гадоў! Днямі адзін разумны старшыня калгаса, выступаючы па тэлебачанні, гаварыў, што ў нас ва ўсіх ёсць усё, каб быць заможнымі, не хапае толькі самага простага — сумленнай працы.

*

Доктар філалогіі з Адэскага універсітэта, разам са мной у гасцях у кіеўскага доктара філалогіі. Ветліва пытаецца ў мяне:

— Ваше справжне призвішчэ Панченко?

Дружба народаў — дружба літаратур...

*

Улетку сорак пятага года Таўлай расказваў, як на абедзе ў Купаліхі выпадковы госць — Бэнда ўсё даводзіў ёй, што ён ужо не той, зусім не той, які быў перад вайною. А яна, гасцінная і адкрытая цётка Уладзя:

— От еш. Сабака быў, сабака і застаўся, але еш!

*

Даволі часта апошнім часам успамінаю восень трыццаць восьмага года,— Мюнхен, Чэхаславакію, той страх і смутак... Успомнілася, што ў апавяданні «Кулікі», якое загінула, не проста кулікі на водмелі, да якіх я падпоўз, якіх

назіраў,— не толькі гэтая радасць, а іменна як кантраст да мірнай красы прыроды, той страх і смутак перад зусім магчымым пачаткам вайны.

І сёння зноў,— што ж будзе з Польшчай?..

*

Юрыя Трыфанава памянуў чытаннем яго «Другой жизни».

Залыгін: «Очень большой русский писатель». У некралогу — высокая ўзнагарода: «Знак пашаны».

Усё, што я чытаў ягонага, чыталася з адчуваннем сапраўднага, а прачытаўшы — амаль адразу забываешся. Што гэта?

*

Алу Тарасаву я ўпершыню ўбачыў у «Трох сёстрах». Калі яна ўзяла падушку і пайшла за сцэну — колькі мужчын, і я таксама, пайшло б за ёю следам!..

Улетку семдзесят шостага года, калі мы з Л. ішлі па Нямецкіх могілках, я здалёк убачыў у зеляніне вялікі фотапартрэт магутнай рускай красуні, пазнаў Тарасаву і нібы толькі ў той момант усвядоміў, што яна — ужо ў зямлі...

Успомнілася гэта — два яркія кадры,— калі прачытаў у дзённіку Паўла́ Тычыны, як ён у Баньскай Быстрыцы, пад парасонам ад дажджу, заплакаў, слухаючы «Вы жертвою пали» і, нібы апраўдваючыся, запісаў пасля:

«У Алли Костівні Тарасовоі теж сльози...»

*

«Коріння» Грыгіра Цюцюнніка. Кніга, чытаючы якую не працуеш, заўважаючы шмат непатрэбнага ці дрэннага, але адпачываеш душой, падмацоўваешся сапраўдным словам.

І чаго ж ты, хлопча, узяў ды *самахоць* пайшоў з жыцця?..

Той, з кім цябе параўноўваюць, Шукшын, вельмі хацеў пажыць, папрацаваць, а ты...

*

Даўшы запісы ў пятым томе,— якія на думку некаторых павінны публікавацца пасля аўтаравай смерці,— я нібы *апярэдзіў самога сябе*, і вось, як мёртвы, маўчу...

*

Маскоўская спёка. Сяджу, чакаючы таварыша, на дворыку Саюза пісьменнікаў. Побач прыселі дзве паэтэсы, спачатку адна, потым другая. Сімпатычныя маладзічкі з далёкага поўдня, якім выразна не горача. У той, што прысела першая, вялікая сумка сваіх, свежаспечаных зборнікаў, якіх многа, аж сумка не зачыняецца. Другая, міла павітаўшыся ды прысеўшы, адразу і папрасіла даць ёй адзін з аўтографам.

— Я не могу теперь. Они уже распределены. Я вам потом. А посмотреть — пожалуйста.

Слова за словам і пачалася паэтычная гульня:

— Раскройте на... ну, пусть на сорок второй страничке и прочтите третью строчку сверху. Хорошо! А теперь... ну, на семнадцатой, восьмую снизу... А?

І смакаванне, і эрудыцыя.

*

Крытык адчувае сябе паміж Парнасам і пісьменнікам, а месца яго — паміж пісьменнікам і чытачом.

*

Ідзе і сее перад сабой, здаецца, толькі прозвішчы ды назвы.

Што з гэтага крытычнага насення вырасце?

*

У літаратуры ён — адно панылае недаўменне. Толькі пасады значныя займаў. Яшчэ і здаровы, румяны, а ўжо, аказваецца,

падрыхтаваў на выпадак смерці пісьмо кіраўніцтву Саюза пісьменнікаў, каб яго «пахавалі сціпла». І на той свет збіраецца з упэўненасцю ў сваёй не абы-якой літаратурнай значнасці.

*

Пісьменнік малады і здольны памяняў многа прафесій. Хваляць за гэта: веданне, вывучэнне жыцця. А можа, проста лайдак, лятун, нідзе не мог прыжыцца, не хацелася працаваць?

*

Сустрэча з Траяпольскім.

«...Не кампазітар, не дырыжор, не літаратар, а чалавек, вобраз! Месцамі я чытаў са слязьмі на вачах. І не там, вядома, дзе ты цытуеш мае пісьмы... Я вінаваты, што не напісаў табе...»

Гэта — на мае ўспаміны пра нашага Рыгора Раманавіча.

Мы стаялі, абняўшыся, на праходзе, ужо на вачах прэзідыума, які заняў свае месцы, і трэба было разысціся, а гутарка — не закончана...

*

«Дамоклаў меч вайны»... Сам ён — з трыбуны, у друку — гарачы змагар супраць яе, вырашальнік глабальных спраў і, адначасна, як аказалася, дрыжыць і пошла клапоціцца за месца ў прэзідыуме з'езда, у сакратарыяце Саюза, у праўленні... Дзве лініі. Якая ж з іх галоўная?

*

З выступлення Айтматава: «Великая сытость — великое высокомерие». Кіргізская прыказка.

*

Прыехаў сюды [1], як і планавалася, з кінадакументалістамі.

«Niemnie, domowa rzeko moja» і «Гой ты, Нёман, быстры Нёман, колькі дум ты мне нагнаў!..» [2] «Пан Тадэуш» і «Новая зямля»,— пра народнасць нашай эпапеі, народнасць Коласа і трохі пра сустрэчы з ім.

Стаміўся ад сонца і дубляў, ажно плесці пачаў пад канец. Тады ўжо, калі рэжысёр папрасіў нагаварыць ім «у запас» — пра запісы мае, пра гэты жанр наогул. Папрасіў, каб паклікалі на чарнавы прагляд,— не дапушчу да лішніх недарэчнасцей.

*

І хата, і бульба ў агародзе, і Нёман, і лес, і сцежка ў жыце, і буслы на тэлеграфных слупах — многае нагадвае перажытае тут. А ўчора яшчэ і святы нёманскі вечар — на маторцы, свежы позірк на родную красу.

...Разумная згода з тым, што сяму-таму (Айтматаву, Распуціну) дадзена больш таленту, і ён у гэтым не вінават, і дзіка гэта — крыўдзіцца на ягоную славу. Тым больш памятаючы, як многа ён працуе, шукае, знаходзіць, не марнуючы свой дар.

...Дома, чытаючы Шагінян («Новый мир», № 6), светла ўспомніў, як я зімой трыццаць сёмага — трыццаць восьмага года хварэў і, шчасліва маючы многа вольнага часу, чытаў «Давіда Каперфільда».

Успомніў таксама, як увосень трыццаць дзевятага, у вёсцы на арбайтскамандзе, Валодзя Васілеўскі [1], хварэючы, залез у маю торбу ад

---

[1] Гэты і дваццаць два наступных запісы зроблены ў пасёлку Крынічным.

[2] Радкі з санета А. Міцкевіча «Да Нёмана» і верша Я. Коласа «Нёман», дарэчы, добра вядомага ў былой Заходняй Беларусі перш за ўсё як песня.

[1] Зямляк і аднапалчанін Я. Брыля. Памёр у шпіталі для ваеннапалонных вясной 1940 г.

процівагаза і напісаў у маім наіўна-смелым блакноце: «Собрание сочинений, том четвертый. Из цыганской жизни». Штосьці больш яшчэ, але толькі гэта запомнілася. Пра маю будучыню на Савецкай радзіме, куды нас абяцалі адпусціць,— як прароцтва якое. Тады мяне, здаецца, і Цыганом празвалі, калі адрасла чупрына, якое ў казармах, на стрыжаным пад машынку, не бачылі.

...Застаўшыся за дзеда і за бабу, з прыемнасцю накарміў унучку, напаіў яе ліпавым цветам, нагрэў вады, памыць ногі, і палажыў спаць (трохі тэмпературыць), а сам — толькі ў дзесяць — пайшоў прайсціся.

Зноў, як у семдзесят восьмым, сцежка ў добрым жыце, тады кладка на Нёмане, стагі над пакошай, любая свежасць пасля пакутлівай спёкі і вялікая, заслужаная стомленасць сонца над самым лясным даляглядам.

Успомніўся Якуб [1]. Восьмага быў у яго амаль дзве гадзіны. Наш аптымізм і гумар, як маленькая надводная частка панурага айсберга, што страшна больш хавае ў глыбінях адзіноты... (Якая неадпаведнасць «прыгожага» параўнання!) Падумаў цяпер пра мудрасць апошняга развітання з жыццём. За кагосьці падумаў, без болю свайго, нібы і гэтым любуючыся — збоку...

*

Дурнота гэта была ці чысціня — мая наіўнасць, што так нямала пахадзіла па самым краечку смяротных небяспек? Скажам, блакнот-дзённік у войску, у палоне, у акупацыю?..

Днямі думаў, што варта расказаць пра гэта, напісаць — апошні раз, найясней. Ды нешта ўсё-такі як быццам раіць пачакаць, знайсці найбольш дакладныя, аб'ектыўныя словы.

---

[1] Тут і скрозь далей — Якуб Міско (1911—1981) — журналіст, сябар Я. Брыля, у той час цяжка хворы.

*

Пісьменны, начытаны, добры, а ўзяў ды даў мае «Байдуны» пачытаць аднаму з нашай вёскі, — каб выявіць, каго за кім трэба бачыць...

— Навошта ж ты так? Людзі ж будуць злаваць,— кажу яму збянтэжана, а ён, у адказ, прастадушна, з усмешкай:

— Але, браце, будуць...

*

Усюды дзеці — унукі майго пакалення, з якімі трэба быць бліжэй, асвяжаючы душу.

І кнігі, да якіх ад мінусаў сучаснасці цягне, нібы да верных сяброў.

У братавай, перад сном, падмацаваўся першымі раздзеламі «Анны Карениной», зноў смакуючы Яго мудрую прастату. А ў мірскай кнігарні купіў маленькую, хараша выдадзеную аповесць невядомага Цібара Дзеры і тут ужо, даючы нагам адпачынак, з прыемнасцю прачытаў.

Праўда, і купляючы, і чытаючы гэтага венгра, светла помніў, што недзе ў Гданьску перакладаецца, а ў Кракаве будзе выдадзены мой «Золак», таксама ў «мініяцюрнай серыі»...

*

Учора вельмі хораша ўзыходзіў над садам і лесам поўны, цяжкі, барвовы месяц. Памытая бабуляй унучка прычэсвалася перад трумо, і я, увайшоўшы з двара, сказаў ёй зірнуць у акно.

А сёння распасцёрся спорны дождж. За бульбай, што застракацела цветам, маё мілае, каласістае жыта і лес. «Як хараша!» — падумалася, а потым і сказаў Ніне, што паездка па родным наваколлі патрэбна мне была, як адчуваю цяпер, для таго, каб вярнуцца сюды, у Крынічнае, як дахаты, каб супакоіцца тут на даўжэй і, можа, папрацаваць.

Днямі ў бульбе, воддаль ад нашых вокан, зацвіла адна кветка маку. А цяпер ужо іх, як ад першай іскры, успыхнула цэлая кароценькая

градка, і я ўявіў такое ў мультфільме, толькі ў казачнай хуткасці, і радасць дзяцей уявіў, якім так уласціва лічыць казачнае натуральным.

...Падвечар.

Спорны дождж ішоў ад ранку да позняга поўдня, потым аціх і перастаў. Старая ліпа мокрая, аднак, праходзячы каля яе, спыніўся ад ціхага гулу. Пчолы. Здаецца, пад кожным лісточкам, як пад парасонам. Агромністы зялёны вулей.

*

У маленстве і пазней я ведаў *тугу па кнізе.* Пасля ў мяне, а потым і ў маіх дзяцей такога не было. Халодная, туманна-непраглядная туга...

*

У шэсцьдзесят дзевятым годзе, на нарадзе ў Кіеве, Платон Варанько гаварыў, як сорак першы год тых людзей, якія сталі неўзабаве партызанамі, адкінуў ледзь не ў зусім першабытную дзікасць,— ні радыё, ні газет, ні кніг, а навокал — поўнае варожае бяспраўе...

*

Гады ўжо са тры прайшло пасля прачытання «Славы і хвалы» [1], а ўсё яшчэ помніцца, як традыцыйна па-панску аўтар глядзеў на падзеі грамадзянскай вайны на Украіне. Верны «малоец» выручыў, данёс добрым панам, што трэба ўцякаць, дапамог... Штосьці так: не факт, а дух памятаю. Для гэтага і спатрэбіўся прадстаўнік народа, сялянства, перад якім адкрылася свабода. Для сваіх ён, той «малоец»,— здраднік, а панам ён патрэбен — толькі для саміх сябе...

*

Я стаміўся ад запасу сваіх успамінаў, але ж і іншых у мяне няма.

---

[1] Раман Я. Івашкевіча.

*

Падбіраю, мяняю, прыдумваю, каб у выніку атрымалася як найбольш натуральна, праўдзіва, а потым крытыка лічыць такое ледзь не проста ўспамінам.

Гаварыў жа N.— з усмешачкай маладое вышэйшасці, ці што,— чытаючы з трыбуны свой гадавы агляд: «Цяпер пайшла ў нас проза ўспамінальная...» Туды ж і мой «Золак» аднёс.

*

Андрэ [1], «Дитя-зеркало». Чытаў і думаў, што не аднаму мне захацелася напісаць свой «Золак». «Лета к суровой прозе клонят». Да роздуму, які — няхай сабе! — чытаецца нямногімі. Андрыч успамінаецца, яго «пасмяротныя» апавяданні. Такое хочацца пісаць. Такім хочацца бачыць тое, што цяпер раблю.

*

Сосны, бярозы, верас.
Карычнева-жоўта-паласаты і тоўсты, як цукерка-падушачка, чмель. Дзве бусінкі-бруснічыны. І добрая кніга. Харчук [2], пра якога чуў добрае ад сяброў, якога ні разу не бачыў, а які прыслаў мне свой том выбранага з цёплым і, верыцца, шчырым аўтографам. Прыемна гэта, калі пісьменнік піша пісьменніку (пра што калісьці пісаў мне Паустоўскі), і трэба так рабіць.

Блакнот каля самай зямлі, як простая прылада працы. Згадваецца запіс для «Дажджлівага, сонечнага жніўня»: «Добра так пісаць, калі і блакнот і душа ў траве».

Няўжо прывыкну тут, у гэтых, амаль зусім родных мясцінах, і буду жыць ды працаваць,

---

[1] Рабер Андрэ (нар. у 1921) — французскі пісьменнік.

[2] Барыс Харчук (нар. у 1931) — украінскі пісьменнік.

падзяліўшы дом на зямлі на два: Мінск і Крынічнае? Ёсць жа ў Танка Нарач, і ў іншых свае куты, яшчэ далей, чым будзе тут мой.

*

У трыццаць трэцім — трыццаць восьмым гадах, будучы ўжо дарослым, я слухаў расказы нашага суседа пра баі ў Маньчжурыі, і тады мне тое здавалася такім ужо далёкім, проста гістарычным. А было ж яно праз 29—34 гады пасля падзей, у якіх наш сусед, жывы чалавек, удзельнічаў.

А ўчора мы, выпадкова сустрэўшыся з В. Ш. на яго зацішным, цёплым хутары, жыва для нас успаміналі верасень трыццаць дзевятага года, вайну, і хутка вось будзе ўжо... сорак два гады, як тое адбывалася, тое, у чым мы бралі ўдзел.

Як шмат пражыта, перажыта. Аж сцішнавата часам заглянуць у глыбіню мінулага, якое — і тваё...

*

Учарашняе, вячэрняе.

Прайшлі, прагулі камбайны, агалілася і смачна запахла вільготна-травяністае ржышча. І адразу — буслы, бо жыта было каля лугу, адкуль сюды хаваліся жабы.

Два хлопчыкі пад'язджалі ў кузаве грузавіка, які браў ад камбайна жыта. Як толькі яно шухне з трубы ў кузаў, малыя лезуць пад зерневы вадаспад, як пад душ, і крычаць ды смяюцца. А што і пыл, і горача — нічога: блізка Нёман!..

А цяпер вось ранішні туман не знізу падняўся, а спусціўся зверху, з невысокай, лёгкай хмарнасці. Ён захапіў верх лясное «пілы», а пад ім, на цёмным фоне недалёкага лесу, хораша бачыцца і недажатае ўчора жыта, і ржышча з горбамі саломы, і два камбайны, што пазней дакончаць учарашняе, і сад з «сілнымі» яблынямі ў бульбе. Восем градусаў. Росна. Азяблыя вяргіні і драбнейшыя, але вышэйшыя,

для нас і для самой гаспадыні безымянныя кветкі, бледна-ружовыя, у якіх учора, у апошнім сонцы, працавалі пчолы, чым я палюбаваўся на ганку зблізку.

Р. абураецца ў пісьме, перадаючы мне пачутую на аўтобусным прыпынку ў Карэлічах гутарку двух «інтэлігентаў»:

«Кто теперь не ворует? А тот, кто не ворует, тот грабит свою семью».

«Хачу, каб балела, хачу, каб балела...» Так паўтараў я ў душы калісьці, перад якім-небудзь болем. Скажам, у дантыста.

І да смерці так ставіцца? Будзе лягчэй?

Карандашная ці чарнільная рыса на чыстай паперы, на полі кнігі ці часопіса — як гэта хораша, вельмі па-свойму адчуваецца ў прыродзе. Нават калі ты не ў лесе, не на траве, а калі прырода так вось — за сонечным акном.

Пысін усё-такі памёр [1].

Ад гэтай весткі — другой, канчатковай — уражанне такое, як быццам уся наша паэзія патроху памірае. Адзін за адным. А хто ж застаецца?..

Захацелася штосьці рабіць. Каб не спазніцца. Аднак чытаў далей. На выбар — раздзелы з купленых учора ўспамінаў Дастаеўскай. Потым — жнівеньскі нумар «Полымя». Танкавы вершы, дзе роздум, яшчэ сталейшы, і свежасць, яшчэ ўсё ранейшая. Пасля, напрасткі

[1] Гэтая вестка з Магілёва ў Мінск прыходзіла двойчы.

перабрыўшы цераз вялізнае празаічнае поле, раптам — Пысін. Як развітанне!..

У вершы пра Сурначова я спачатку яшчэ раз светла адчуў даўняе, лясное ўражанне ад паэзіі, з якою доўга не сустракаўся: «Ля хаціны тваёй сасновай...» Штосьці сапраўднае, як і ад першага для мяне, таксама ў партызанах, верша Куляшова: «А як след тваіх ботаў пабачу — пацалую яго і, як баба старая, заплачу...»

У канцы таго верша пра Сурначова — так коратка і так многа — пра Мележа, Барадуліна і мяне.

Абняў бы цябе, Алёша, ды ўжо не абніму...

*

Чалавечкі мае цудоўныя. Волечка «танцуе» пад усялякую музыку. Апроч тое, што з праігрывальніка, калі яны сядзяць з бацькам на дыване адно перад адным і трасуцца ў нейкім арыентальным падабенстве танца, яна можа і хоча танцаваць пад шум бабулінай швейнай машыны, нават пад кавамолку і электрабрытву. А Міхась, у гасцях, любіць паесці. Суп спачатку лыжкай, а потым місачкай дапіў і не пасмеў, на жаль, як дома — надзець тую міску на галаву.

Успомнілася, пішучы гэта, як Пысін не застаўся на канцэрце пасля ўрачыстай часткі юбілейнага вечара Зарыцкага, дзе ён выступаў з дакладам (са сшытка чытаў), а на маё недаўменне сказаў:

— Да ўнукаў хочацца.

Яны ў яго не ў Магілёве, а тут. А дзед бываў у Мінску не надта часта.

*

За два дні — успаміны А. Цвятаевай. Спачатку залішне расчуленыя над мінулым, малалецтвам і пачаткам маладосці, залішне захопленыя «бабскай» дробязнасцю і сямейным самалюбаваннем, а потым, чым далей, то ўсё больш сур'ёзна.

Закончыў апоўначы, «бяздумна» парушаючы хатні рэжым такім штодзённым тут чытаннем — лежачы, пры святле [1].

*

З бойкай, амаль мужчынскай суровасцю, нейкім нават пракураным баском яна пра кагосьці сказала: «Он свои мысли выковыривает из зада». Сталічная пісьменніца, у Доме творчасці, «ничтоже сумняшася», што гаворыць такое дзвюм іншым жанчынам, а чуюць не адны яны. Можа, гэта і справядліва было сказана, аднак я — вось ужо больш за дзесяць гадоў,— сустрэўшы ў друку імя гэтай пісьменніцы, успамінаю перш за ўсё той басок і... чытаць яе не хочацца.

А тут яна, у новай газетнай публікацыі, дала яшчэ і партрэт. Зусім пад жаночую кволасць, пяшчотнасць, з вялікімі завушніцамі,
у пераможны профіль колішняй маладосці.
Не бярэ.

*

Наша Зямля ў сусвеце, і канвеер мноста знаёмых і блізкіх, якіх нядаўна, даўно і яшчэ даўней не стала, і тых, што прыйдуць — пры мне, пасля мяне... Самыя блізкія, адзіныя. На нешта ж некаму яно патрэбна?! Калі казаць пра гэта найпрасцей. Пытанні, над якімі біліся вялікія, з якіх найбліжэйшы Леў Мікалаевіч. Пытанні, якія і мяне пачалі хваляваць, як цяпер, здалёк паглядзіш, вельмі рана.

*

Перад маім акном на шостым паверсе, у кронах сосна́ў і шматфарбных клёнаў — цагляная вежа старога, запушчанага касцёла. Спічасты дах і крыж — трохі вышэй за маё

---

[1] Гэты і сем наступных запісаў зроблены ў Юрмале.

акно. А ноччу, пад раніцу, калі яшчэ цёмпа, там, дзе касцёл, бліпчыць толькі зыркі, бяссонны агеньчык, вартуючы нейкі архіў.

*

Удзень па тэлевізары — пісьмы з многіх краін супраць нейтроннага шаленства.

З пісьма французскай маці:

«Загінуць нашы дзеці, а застануцца іхнія цацкі!..»

*

Выйшаў у 8.15, пазней, чым заўсёды, бо нарэшце добра паспаў.

Імгла. Пад дрэвамі здаецца, што дождж пачынаецца або канчаецца, а гэта з лісця на лісце ападаюць цёплыя кроплі дажджу.

Над шырокай і ў абодва бакі бясконцай паласой пустога пляжа і над ціхім морам нізкі туман. У мора, модна кажучы, поўны рэлакс,— толькі размеранае, як подыхі, прыхлёбванне. І зусім нечаканае — медузы на самым краечку вады. Невялікія, ружаватыя, падобныя да сыраежак.

*

Крытык Ігар Дзядкоў у пасляслоўі да аднатомніка Віталія Сёміна цытуе аўтара:

«Он умел думать против себя. Правильным для него было совсем не то, что приятнее и легче».

Грунтоўнасць, глыбіня, сумленнасць — гэта ў Сёміна адчуваецца. Трэба яго прачытаць усяго, з тым томам выдавецкіх рэцэнзій, які, здаецца, павінен выйсці, а мо ўжо і выйшаў.

І як шкада, што наша з ім дружба, якая выпадкова і хораша пачалася ў маі семдзесят шостага, так хутка і нечакана абарвалася.

*

Гартаючы адзін з тамоў «60 лет советской поэзии», мінаю многае, як нецікавае,

прыблізнае, сухое ды глухое чаргаванне таго, што з многіх моў нацменшасцей не даносіць, а толькі рэгіструе так званы пераклад з падрадкоўніка.

Потым — Рыльскі. Пасля Тычыны спыніўся на ім.

Колькі ж было Максіму Тадэевічу ў пяцьдзесят восьмым, калі ён гасцяваў у нас на Свіцязі? Толькі шэсцьдзесят тры! А ў маі пяцьдзесят трэцяга, калі ён сустракаў нашу дэлегацыю ў кіеўскім аэрапорце і ўзяў нас з Вялюгіным у сваю машыну, упершыню паблізіўшыся ўважліва ды прыязна? Яшчэ на пяць год менш. Як дзіўна і як прыемна глядзецца ў такое люстра, прымервацца ўзростам да ўзросту. Чамусьці без суму, з адчуваннем абавязку, думаючы, а ці так ты паводзіш сябе — і наогул, і ў адносінах з маладзейшымі.

...І нікуды не дзенешся ад таго, што — па Талстому — «стихи тогда лишь хороши, когда они очень хороши». Запісваю пасля добрага верша Барыса Алейніка «Память о матери».

...З усіх бакоў аднагодкі дый маладзейшыя нагадваюць, што ты ўжо стары.

Падумаў гэта, чытаючы верш Гафура Гуляма «К нам приезжайте погостить, друзья».
Я пазнаёміўся з Гафурам у канцы сорак сёмага года, вяртаючыся з Таджыкістана. Тады яму было толькі... сорак чатыры. У Ташкенце ён прыйшоў у наш вагон і «в приливе нежных чувств» памяняўся з Ніліным галаўнымі ўборамі: даў госцю сваю цюбецейку, а забраў яго парыжскі капялюш. Павел Піліпавіч доўга стагнаў пасля ад такога абмену, а развітваючыся з Гафурам, запрашаў: «Будешь в Москве — милости прошу. Жена зарежет стакан чая»...

Добра гэта ў Гафура, па-ўсходняму:

> Я растопил в чернильнице звезду,
> чтоб написать лучистые стихи.

...Зульфія.

Госці таджыкскага з'езда пісьменнікаў, тады ж, у снежні сорак сёмага, пасля

заключнага прыёму, у падораных нам халатах і цюбецейках, на досвітку, яшчэ не нагаварыўшыся, мы, некалькі мужчын, гулялі па садзе дачнага пасёлка, дзе жылі, і падышлі да акна таго доміка, дзе ўжо напэўна ж адпачывала яна, Зульфія. Нілін, Лукніцкі, Вялюгін, Кірэенка, я — мы затаіліся пад дрэвам, а Барадзін пачаў, усходнім стылем, прасіцца:

— О Зульфия, о лучезарная звезда великолепного Ташкента! Яви свой светлый лик твоим рабам, открой!..

І далей, і больш. А яна на ўсё гэта спакойна адказвала з ашклёнай цемры:

— Сергей Петрович, идите, пожалуйста, спать.

А ёй было тады трыццаць два, і было гэта праз тры гады пасля трагічнай смерці яе мужа, Хаміда Алімджана, якому яна, аўдавеўшы, пісала гэтыя — сёння чытаю — словы:

Горжусь, что ты писал при мне.
Пусть каждая строка твоя
Давно завещана стране,
Но первой слушала их я.

*

Учора ўвечары, у аўтобусе з Карэліч.

Салідны, відаць, талковы дзядзька з-пад Шчорсаў:

— Ну, няхай ужо мужчыны п'юць. А то ж і жэнскі персанал шатнуўся. Ды яшчэ як! Прыйшоў чалавек дахаты, а баба на печы нежывая. Адна бутэлька ляжыць каля яе пустая, а другая стаіць недапітая. Сем бабаў ужо адправілі ад алкаголю лячыцца. Адной зашылі ампулу.

Бог мой — якая культурнасць: і ў вёсцы ўжо ампулы, у жанчын!..

Вясёлая, дабрадушная Т., загадчыца сельмага, расказвае:

— ...Чувашку з арміі прывёз. Красівая, але неакуратная. І вельмі ж п'е. Іду я з работы, а яна сядзіць на лаўцы і галава ўжо целяпаецца. «Галя, хадзем дадому»,— кажу ёй,

а яна як пачала мяне церабіць... Ой, і мужчына не кожны такое скажа! Бабы ёй: «Галя, ты на каго гэта?» — «На яе». І зноў мяне чысціць! А потым, як працверазілася, дык сустрэцца саромеецца, на чужы двор з вуліцы, калі я іду...

Маладзенькія хлопцы, студэнты. Ужо ў Карэлічах відно было, што п'яныя, а яшчэ і ў Міры, і ў Стоўбцах, і ў Дзяржынску выходзілі на прыпынках і прыносілі, што пападалася. Накрыўку тую зубамі здзярэ, набулькае шклянку, а то і з бутэлькі, вып'юць новую рату і ляжаць на задніх месцах моўчкі.

Успомніўся — каторы ўжо раз? — год сорак сёмы ці сорак восьмы, магазін у драўлянай разваліосе на камароўскай развілцы, якое ўжо даўно няма, гастраном ці, хутчэй, карчма. Праезджыя шафёры (тады гэта не так каралася), спыніўшыся калонай грузавікоў, п'юць гарэлку піўнымі кухлямі. Хлапчук, можа, і не шафёр яшчэ, а стажор, якому так хочацца і так нялёгка тут выглядаць дарослым. Паўкухля яшчэ недапіта, а ногі ўжо не стаяць, а вочы так расчулена, захоплена атарапелыя, толькі ўсміхаецца, слухаючы гром старэйшых.

Учарашнія хлапчукі — ужо з поўнай кваліфікацыяй...

Якое гэта шчасце — у каго цвярозы сын.

*

Калі ён заціхаў побач са мной, соладка пераходзячы на соннае дыханне, я ўпершыню назваў яго Светлячком.

І ўспомніўся Сяржант [1], высакародны Рафаіл Іванавіч — у такім жа становішчы дзеда-нянькі. Жыва ўявілася, як ён сказаў бы, смеючыся, пра сябе: што дзед заснуў раней за ўнука.

Скупое праяўленне радасці ў чалавека, які сумленна прайшоў жыццё, зведаў мноства пакут і нялёгкай працы.

А ён жа і памёр як адбываючы яшчэ адно

[1] Былы заходнебеларускі падпольшчык, герой нарыса Я. Брыля «Партрэт старэйшага таварыша».

выпрабаванне. Адзін у даччыной кватэры, на тої час без унука (ці без унучкі, не памятаю),— стала дрэнна, устаў па лякарства, упаў... Так і знайшлі яго на падлозе, вярнуўшыся з працы — мёртвага.

Што ж, у апошні момант кожны allein [1].

І Мележ успомніўся. Ён папрасіў вады, а пакуль тая нянька ці сястра прынесла — вада ўжо была не патрэбна.

*

Учора ноччу не дапісаў да таго allein і пра Якуба,— яшчэ адно празаічна, страшна рэальнае [2].

Пагаварыць пра яго паперы: што з іх не павінна застацца толькі ў сям'і. І ў выдавецтве прапанаваць сваю дапамогу.

Усе нашы дачы, машыны...

...І самому так мужна падрыхтавацца да адыходу. Пакінуўшы толькі патрэбнае.

*

Учора не дапісаў:

Вечнае недаўменне: няўжо гэта толькі так — пажыў, памёр, і ўсё?..

А сёння хочацца дадаць:

Ідэалізм не змог растлумачыць гэта, і матэрыялізм таксама не растлумачвае. Нібыта ясна, аднак — далёка не ўсё!..

*

Успомніў бедную хаціну на Гомельшчыне, у нашым падарожжы семдзесят першага года [3].

Старэнькая маці і старая, гарбатая дачка. Дачка ўпрыгожыла хату: абклеіла газетамі, а па газетах намалявала квачом мноства вялікіх,

---

[1] Адзін, самотны *(нямец.)*. Намёк на раман Г. Фалады «Jeder stirbt für sich allein» — «Кожны памірае адзінока».

[2] Якуб Міско памёр 23 кастрычніка 1981 года.

[3] Маецца на ўвазе збор матэрыялу для кнігі «Я з вогненнай вёскі...»

зіркатых кветак, як па-дзіцячы «прыдуманых». Не памятаю ўжо, хто ў іх сям'і закатаваны фашыстамі, у якім неверагодным горы яны, маці з дачкой, ратаваліся, як засталіся. Проста мне раптам і жыва ўявілася, як на парозе гэтай хаціны нехта — а можа, і сам я—зарыдаў. Ад крыўды за такое чалавечае жыццё...

*

Пазаўчора здаў Якубаў рукапіс. Толькі ім жыў гэтыя паўтара месяца.

Здам у архіў усё, што ў мяне з яго спадчыны. І буду лічыць, што для яго зрабіў усё магчымае? Не. Аднак не ведаю яшчэ, ці напішу штосьці большае за прадмову, ці толькі буду згадваць яго, як ужо згадваў, пішучы пра іншых,— скажам, пра Адамовіча,— або ў запісах.

...Выйшаў і пяты том. І, дзякуй богу, ёсць адчуванне, што яшчэ не ўсё, што трэба наладжвацца на новае.

## *1982*

Чытаю ўспаміны пра Зошчанку. І яго нібы адкрываючы, і некаторых з тых, што пішуць пра яго, здзіўляючыся, колькі ў нас літаратараў — было і ёсць — малавядомых, а занятых вялікай справай сумленна і талкова.

Упершыню чытаў яго па-польску, школьнікам, апавяданне, якое цяпер пазнаў у двухтомніку,— «Собачий нюх».

Трэба яго пачытаць як найбольш, з ваенным «Октябрем» уключна.

Успомнілася, што Дзіма расказваў у сорак шостым годзе, вярнуўшыся з Курпічыны. Нехта хаміў у вагоне камусьці безабароннаму, другі нехта сказаў, што «такого в газете пропесочить бы», а той, што хаміў: «Пиши, пиши! Один уже

дописался!..» І ўсім было зразумела, што гэта — пра Зошчанку...

*

Учора ўвечары, вяртаючыся з Ленай Шырмянкай з Дома мастацтва, дзе мы невялікім гуртам адзначалі дзевяностагоддзе Рыгора Раманавіча, успаміналі Якуба.

— Я малая была яшчэ, пад сталом сядзела, калі бацька, вярнуўшыся з гімназіі, расказваў маме, як гэта Астроўскі з паліцыяй разганяў гімназістаў. «Як ён так мог! Ён іх, дзяцей! Ён растаптаў Міско!..» А дзён праз два я ўбачыла на вуліцы Якуба, убегла дадому, крычу ад радасці: «Міско жывы! Міско не растаптаны!»

Памаўчалі. А потым яна — зноў пра Якуба:

— Калі чалавеку самому дрэнна, дык ён робіцца такі добры. Так ён апошнімі днямі гаварыў са мною...

*

Уранні сеў вычытваць пасля машынкі «Гномаў» [1]. Прыемна чытаецца тое, што калісьці (так ужо даўно!) з прыемнасцю перакладалася.

«Вершы пераклалі Анатоль Вялюгін і Сяргей Дзяргай». Успомніў мілага, слаўнага Сярожу, і тое, як мы з Бярозкіным ездзілі наведаць яго дома, невылечна хворага. І паўлітра ўзялі вульгарнага, але ж і хораша пасядзелі вечар за чаркай і нейкай там халасцяцкай закуссю.

Няма ўжо іх...

*

Танклявы, вусаценькі, лысаваты. А выйшаў да раяля, сціпла стаў, заспяваў «Прощай, радость, жизнь моя...» — ператварыўся са сваім сакавітым, мяккім, адухоўленым

[1] Аповесць-казка М. Канапніцкай «Пра гномаў і сіротку Марысю». Перадрук — для перавыдання.

барытонам. Пасля яшчэ і раманс Чайкоўскага. Закончыўшы яго, пакланіўся хлопец хораша і, пад ляскат апладысментаў, пайшоў на месца, сеў побач са сваёй, таксама маладой і сціплай, сяброўкай.

І мне прыемна стала, што яны абое, калі я пасля выступаў, засмяяліся весела там, дзе трэба было.

*

Прыкра гэта і небяспечна — інтэрв'ю. Ты гаворыш, а ён ці яна запісвае абы-абы, расшыфроўвае потым не з магнітафона, а з блакнота, затым і сам ці сама, і іншыя, хто над імі, правяць... І ў выніку тое, што табе ўкладвае ў вусны той ён ці яна, месцамі просіцца назад.

*

Ужо не першы раз гляджу-слухаю па тэлевізары маладую спявачку, што ўваходзіць у моду. Млявым галаском самазакаханай пястункі яна выводзіць:

Матушка возьмет ведро,
молча принесет воды...

Не вытрываў: «Сама, жаробка, не прынесла б?»

А гэта ж, як даведаўся ўвечары, словы таленавітага Рубцова. Аднак жа ў песні яно блага: у такім маральным кантэксце.

*

Бучму ва «Украдзеным шчасці» бачыў я ў Мінску, у канцы саракавых ці ў пачатку пяцідзесятых.

Часта ўспамінаецца тая паўза, калі Мікола Задарожны, вярнуўшыся з лесу, пакуль распранацца — вымае з-за раменя сякеру. Цішыня — і на сцэне, і ў зале, а потым стук кінутай на лаву сякеры... Можа, гэта і няправільна па-сялянску, што кінутай, але майстэрства — сапраўднае.

Вось і цяпер [1], знайшоўшы ў купленым учора энцыклапедычным даведніку «Київ» пра Бучму, зноў пачуў тую цішыню і той стук кінутай на дошку сякеры,— знак адчаю ці толькі вялікага гора...

*

Колішняе выступленне на двух Цвіркавых вечарах, увядзенне мяне ў савет па літоўскай літаратуры, цяпер — запрашэнне ў Вільнюс і Анікшчай, на свята Венуоліса,— гэта абавязвае лепш ведаць літаратуру братняга народа.

Калі мы аглядалі з Зуёнкам Віленскі універсітэт пасля рэстаўрацыі, купіў том «Истории литовской литературы». Падумалася цяпер, што вось і буду чытаць яе, можа, з такім жа задавальненнем, як у свой час чытаў Кшыжаноўскага [2].

Анікшчай будзе ўспамінацца. Венуоліс і Білюнас, якога таксама трэба чытаць, а яшчэ ж і Баранаўскас з яго «Борам»... Зайздросна, як людзі шануюць сваё.

...Чытаючы гісторыю якой-небудзь літаратуры (цяпер — літоўскай), як быццам недаўмяваю, нават і з сумам, што літаратура калісьці *пачыналася*, а не *была вечна*...

*

Весела — а чаму весела? — успомніўся той лагойскі калгасны брыгадзір, што ўцякаў ад нас верхам, з пасёлачка ў пасёлачак, а мы, на «газіку», не маглі яго дагнаць: мы акружнымі дарогамі, ён па сцежках. Быў дзень выбараў у мясцовыя саветы, многа п'яных, і ён думаў, відаць, што яго ловіць нейкае начальства.

Таму і няма ў кнізе «Я з вогненнай вёскі...» расказа пра тое, як ён уратаваўся. Малы яшчэ тады. Старэйшы брат, што спаў з ім у каморы,

---

[1] Запісана ў Кіеве.

[2] Юльян Кшыжаноўскі (1892—1976) — польскі гісторык літаратуры.

выкліканы на расстрэл, адкінуў коўдру на малога — і так яго не заўважылі... Расказала пра гэта цвярозая цётка.

*

У «Советской культуре» пра Ю. Марцінкявічуса:

«Самым сильным и неодолимым соблазном для него был (и, к счастью, остался) труд — каждодневный и изнурительный... Трудолюбие и выдержка, основательность и немногословность».

Штосьці падобна было (у «Истории литовской литературы») сказана і пра І. Авіжуса.

Чаго не хапае мне.

*

Кніга, якую я хачу зрабіць, гэта па сутнасці адзін з варыянтаў таго, што я хацеў зрабіць у шасцідзесятых («Я іду»), і таго, што зрабіў (пяты том, «Сцежкі, дарогі, прастор»). Яшчэ адзін варыянт кнігі майго жыцця, майго бачання роднага.

*

Для Карэнінай у сямідзесятых гадах мінулага стагоддзя кінуцца пад цягнік было вельмі «сучасна». Скажам, як цяпер пад які-небудзь... ледзь не касмічны карабель.

А вечнае пры гэтым застаецца вечным — і ўчора, і сёння, і заўтра.

*

На вечары Галубка, любуючыся ігрой цымбалістак і імі самімі, раптам успомніў адну Мішыну карціну. Аднекуль ён капіраваў (ці не Паленава?), сам даючы колеры, як Хрыстос ідзе з вучнямі палявой дарогай, зрываючы і расціраючы каласы. (Дарэчы, і Мішына прывычка.) Карціна гэтая сваё ўжо аджыла, гадоў сорак павісеўшы ў сваяцкай хаце, пад канец свайго існавання выглядаючы

даволі марна. А вось жа выбліснула ў памяці золатам жыта, блакітам неба, нашым юнацтвам... Я тады яму пазіраваў — рукамі, калі прадзьмухваецца расцёрты колас.

*

Добра гэта — народнае, свежае, скрамнаватае слова — і ў жыцці, і ў літаратуры.

Аднак вось ужо некалькі дзён з памяці не выходзіць п'яная, дзікая лаянка мужчын на вуліцы сучаснага сяла, якую ніяк не назавеш інакш, як толькі хамствам, цемрай...

*

Ка мне ў госці з прывітаннем шчырым
І з песнямі калгаснікі прыйшлі...

Далей тут просіцца рыфма «сырам». За даўнасцю гадоў і думалася, што сярод тых пачастункаў, якія госці прынеслі, быў і сыр, на які — у маім успаміне-ўяўленні — і націскаў неяк амаль урачыста Валя Таўлай.

Праверыў па кнізе. Сыру няма. Ён у іншым месцы («Як у госці сын прыехаў»):

Частавала белым сырам,
Хлебам сітным, мёдам пчолім...

Значыцца, з сырам памяць мяне не падвяла — ён быў, і ён нам добра бачыўся ў тыя галодныя пасляваенныя дні.

*

З самага ранку прычапілася мелодыя песні «Пайшоў Ясь наш на лужок» у выкананні аркестра пад кіраўніцтвам Жыновіча.

І яшчэ раз — каторы ўжо раз! — падумалася, якія людзі пайшлі з нашай культуры... І Жыновіч, і Шырма, і купалаўцы, і ад нас, літаратараў, колькі, дый якіх!.. А пакуль яны жылі — здавалася, што так і будзе заўсёды, нават яшчэ лепш...

*

Жах, адчуты на аўтобусным вакзале:

Увесь наш свет некуды ўсё едзе. З самага ранку да позняй ночы.

А хто ж працуе? Што будзе далей?..

*

Перагортваючы чарговую кніжную старонку, на якой будзе таксама надзейна добры, прыгожы і разумны змест, падумалася: як жа гэта прыемна!.. Такіх старонак было ўжо вельмі многа. Думаецца, што і будзе іх шмат.

*

У першай, якая трапіла ў яго рукі, лацінскай хрэстаматыі вялікі Пірагоў быў уражаны такім простым выслоўем: «Вселенная делится на две части — небо и землю».

Чытаю гэта і ўспомнілася, як у вясковай пачатковай школцы пажылы настаўнік тлумачыў нам, што такое вецер,— *рух паветра.*

Паўвека помніцца. Чаму?

*

«Парус» Лермантава. Што значыць адпаведная музыка! Убачыўшы першыя радкі верша, я не чытаю яго, а спяваю ў душы, захоплена ўздымаючы іх цудоўнай, сонечнай мелодыяй.

*

Паўло Тычына:

Товариство, яке мені діло,
Чи я перши поэт чи останні?..

І швейцарац Макс Фрыш:

«Неверно даже то, будто я всегда описываю только самого себя. Самого себя я никогда не описывал. Я себя только предавал».

*

Фрыш пераказвае Гейнэ:

«Он кажется себе двуличным — чувство, которое пристало бы столь многим поэтам. Гейне честен и постольку ценен. Но следующий шаг, пожалуй,— стать еще честнее: не сочинять то, что предки в соответствии со своим сознанием принесли в поэзию, а действительно творить, воссоздавать наш мир».

А далей ён цытуе Брэхта:

«Что же это за времена, когда разговор о деревьях кажется преступлением, ибо в нем заключено молчание о зверствах!»

Фрыш пераказвае, цытуе, а я, чытач, удзячны яму, бо і я багацею.

І яшчэ адно,— калісьці я напісаў пра сваё нахабства: сам друкую свае запісы, не пакідаючы іх на вырашэнне нашчадкаў. Я там пытаўся: няўжо я першы так раблю? Аказваецца — не. І гэта таксама прыемна.

...І яшчэ адзін «дзённікавец» — Э. Калдуэл:

«Я собираюсь издать многочисленные автобиографические заметки в виде дневника, где, наряду с моими личными переживаниями, должны отразиться и настроения людей, живущих рядом со мной».

*

Патрык Д. Сміт:

«Если мои незатейливые романы могут тронуть всего лишь одно человеческое сердце в каком-нибудь отдаленном уголке мира и вызовут в читателе чувство братства, дружбы и понимания, тогда все разочарования, муки, которые испытываешь, работая над дорогой для тебя книгой, в конце концов не напрасны».

Ні ў літаратурнай, ні ў польскай энцыклапедыі гэтага Сміта няма, а думае чалавек як след. І хай бы ж ён ведаў, што слова яго «трогает сердце», як блізкае, і яшчэ аднаму!..

*

Кнігу апавяданняў не пішуць — яе складаюць з апавяданняў напісаных, з думкай пра кожнае з іх паасобку. Бачыць добры том апавяданняў,— як у Альгірдаса Поцюса, як у Зігфрыда Ленца,— гэта прыемна. І мне разоў колькі хацелася сабраць такі том, выдаць адразу вялікую кнігу апавяданняў, але пакуль што не змог.

*

Два месяцы прайшло, і ён сяды-тады вылушчваецца ў памяці жывым, усмешлівым, сур'ёзным хлопцам, паэтам, работнікам,— Грыша [1]. І боль паўтараецца...

*

Чамусьці захацелася перачытаць «Яна і я». І чытаў яе — як не адзін: з прысутнасцю Валі Таўлая і нашага Грышы. Упершыню здалася мне іхняя падобнасць — усмешлівай ціхасцю.

Яшчэ раз (пасля «Жалейкі» ў шэсцьдзесят шостым годзе) ясна стала, як нялёгка было Купалу, з яго талентам, прабівацца ў такой «нявырабленай» (як поле нявырабленае) мове. Адчувалася нават краса, прывабнасць ледзь не дзіцячай словатворчасці.

І прыгадалася даўно пачутае ад кагосьці, што Чорны хацеў перапісаць «Новую зямлю» прозай. Купалу прозай не перапішаш.

*

Л. Талстой («На каждый день», 24 лістапада):

«Радоваться! Радоваться! Назначение жизни — радость. Радуйся на небо, на солнце, на звезды, на траву, деревья, животных, людей. Нарушается эта радость, значит, ты ошибся где-нибудь, ищи эту ошибку и исправляй».

---

[1] Рыгор Семашкевіч трагічна загінуў 11. VI.1982 г.

*

Аднойчы на нейкім вялікім пасяджэнні я выйшаў на трыбуну, пачаў гаварыць пра нашу паэзію, закрануў паэзію Панчанкі, і тады толькі заўважыў яго ў зале. Я сядзеў даволі далёка за ім, не бачыў яго, а праходзячы да трыбуны, не заўважыў. А ўбачыўшы зверху — не вытрываў, сказаў: «Здароў, Пімен!» У зале засмяяліся, ён — стрымана — таксама.

І я цяпер, праз пятнаццаць гадоў, засмяяўся, успомніўшы тое над добрым артыкулам Барадуліна пра Панчанку.

*

Услед за іншымі жанрамі расце і наша крытыка. Паасобныя прадстаўнікі яе ўсё смялей ды смялей дагаворваюцца да таго, што яна — жанр зусім *сам па сабе*. Праўда, яна — не прыдатак нейкі да іншых жанраў, несправядліва і нетактоўна так лічыць, аднак жа, пра што ж яны, крытыкі, самастойна пісалі б, каб не было — уявім — прозы, паэзіі, драматургіі?

Гэта — яшчэ раз пра маладосць нашай літаратуры.

*

Адна калектыўная гутарка пра маладую паэзію, гутарка, што называецца, на высокім узроўні, звялася да скаргаў на тое, што вершы цяпер — які кашмар! — друкуюцца не на асобных старонках, а ў падборку...

*

— Я буду памятаць цябе да канца!
— Як гэта мала...
— А што я магу больш?!

*

На карце загараецца яшчэ адзін агеньчык таленту. І як гэта важна, што ў яго ёсць сваё месца на Зямлі, адкуль ён і сігналіць.

Учора, прачытаўшы аповесці Івана Яўсеенкі, «Крик коростеля» і «Шапку Мономаха», знайшоў на карце яго куток на паўночным усходзе Чарнігаўшчыны, дзе рэчка Сноў і няма вёскі Займішча, і нейкае асаблівае адчуванне літаратурнай абжытасці яшчэ і гэтых мясцін зачапілася ў душы. Хоць ён, Яўсеенка, і жыве цяпер у Варонежы.

Чытаючы, успомніў сустрэчу з Траяпольскім у Маскве, на Кутузаўскім праспекце, светлай красавіцкай раніцай. Як ён па-народнаму проста і самавіта расправіў вусы, каб пацалавацца са мной, як я спытаўся ў яго пра Яўсеенку, ужо знаёмага тады па апавяданнях, і як Гаўрыла Мікалаевіч назваў яго «хорошим парнем» ці, нават зусім па-бацькоўску, «хорошим мальчиком».

Як гэта важна, дарэчы,— добрае слова ў падтрымку, слова чалавека, які не проста старэйшы, а паважаны.

*

«Паэт у прозе» — няўжо гэта больш, чым проста добры пісьменнік?

*

Учора А. прымераў мае акуляры і сказаў: «Пасадзіў ты вочы!»

І праўда, яны ўжо часамі баляць ад чытання. А я ўсё чытаю. А кнігі ўсё новыя ды новыя, якія трэба, хочацца прачытаць і якія ўсе ўсё роўна не прачытаеш. Так сказаў бы і кожа той, хто не любіць чытаць, каму гэта не здаецца патрэбным.

Сёння, устаўшы, падумаў пра сябе: «Што ні падсунуць — ты яго і давай!..»

Пазаўчора пошта падсунула мне кнігу ўспамінаў пра Турсуна-Задэ,— прыслаў таджыкскі настаўнік, які мне зрэдку піша. Паколькі я трэці дзень не выходжу, а пазаўчора наогул ляжаў, узяўся за гэтую кнігу адразу.

Успомніліся дзве сустрэчы з Мірзо ў ягоным Таджыкістане,— у канцы сорак сёмага і вясной семдзесят другога.

Першы раз, калі яму было трыццаць пяць, мне трыццаць, а Толю Вялюгіну яшчэ менш, мы ў адным, добра правераным, «газіку» пераваліли цераз Гісары, дабраліся да Тэрмеза. Іскрай гарыць у памяці агеньчык чайханы на перавале, дзе мы ноччу грэліся шурпой. Бачу буйныя зоркі, якіх да тое ночы і іншых начэй не бачыў так блізка. Чую, здаецца, і сёння чароўныя песні, якія доўга хвалявалі мяне дома.

Палез быў учора ў блакнот з семдзесят другога года, каб праверыць, ці запісаў хоць трохі што пра другое наведанне Душанбэ, калі мы з Мірзо ў адной машыне ездзілі па ак.ліцах і многа гутарылі пра найбліжэйшае, і ён мне бачыўся лепш, чым на розных — моднае слова — форумах у Маскве.

Толькі што, пасля апошніх у кнізе ўспамінаў, знайшоў у шафе маленькі зборнічак з аўтографам, амаль гістарычным, трыццаціпяцігадовай даўнасці,— «Індыйская балада»,— і зноў перачытаў яе. Талент. Нават праз сіта перакладу. Узяў і нядаўні нумар «ЛіМа», прачытаў Мірзо ў перакладзе Барадуліна, рабоце якога хочацца верыць.

Прыгадалася наша з Мірзо і Сяргеем Баруздзіным выступленнем па таджыкскім тэлебачанні, калі мне зусім зразумелым здалося, што паметкі ў сваім блакноце (план выступлення?) гэты, так шчодра праслаўлены пясняр дружбы народаў, рабіў... не сучасным, «рускім» алфавітам, а арабскім. Праверыў у «Литературной энциклопедии»: у 1928 годзе яму, Мірзо, было семнаццаць; пасля было дванаццаць год лацінскага шрыфта, тады ажно

трыццаць два гады «рускага», а ён, як для душы, заставаўся ў арабскім.

Ды справа не ў шрыфце,— ён чалавек Усходу, сын свайго народа.

Час адшалушвае часовае, у чалавеку застаецца асноўнае, перад аблiччам вечнасцi са шкадаваннем думаеш: чаму ж я не бачыў тое раней, што так выразна бачыцца цяпер?..

Аднак жа праўда і другое,— шмат, вельмі шмат было і ёсць таго, што перашкаджае бачыць у некаторых таленавiтых iх сапраўдную, глыбінную сутнасць. Перашкаджае нудна-панылае праседжванне творчага жыцця ў прэзідыумах, перашкаджае і адштурхоўвае перазахвальванне, перакормліванне тых, што хораша пачыналі і значна больш ды лепш зрабілі б, каб не адышліся так далёка ад саміх сябе...

Думалася разам з тым і пра тое, як параўнальна мала я бываў у пісьменніцкіх паездках, у Дамах творчасці, дзякуючы чаму і няшмат у мяне знаёмых і сяброў сярод цікавых людзей літаратуры і мастацтва. Хоць, з другога боку, тады было б, можа, менш сувязі з простым, іржаным, надзейным, на чым трымаемся.

*

Пры выпадковай сустрэчы N., ціха ды ўсмешліва захоплены сваім замежным другам, паведаміў мне, што гэтаму бойкаму другу — да яго юбілею — «іхні ўрад даў ліцэнзію на адстрэл аднаго мядзведзя».

Бедны мядзведзь!..

*

Добра чытаць кнігі, над якімі добра думаецца. Не толькі пра тое, што чытаеш, але і пра сваё.

У Чорнага, у дзённіку, пра гэта сказана так: «Кожная тая кніга добрая, калі яна ўзбівае чалавека на сталыя і важныя думкі».

*

Учора перад сном, у цемры слухаў з прыцішанага транзістара вершы Ісакоўскага і песні на яго словы, і добра было ад такога «общения» з сапраўднай паэзіяй, з тым, каго і я трохі ведаў.

Чакаў «Враги сожгли родную хату». На жаль, не перадалі.

*

Добрая мова ў паэме Зуёнка «Маўчанне травы». Словы, абароты новыя для мяне, нязвычна прыемныя.

Нашымі намаганнямі, з розных куткоў у адно, мы і зрабілі б багатую літаратурную мову.

*

У сваім добрым заключным слове Танк-юбіляр сказаў, што за шмат гадоў літаратурнай працы ён зразумеў найлепш адно: застаецца не тое, што напісана прыгожа, а што праўдзіва.

А каб адно з другім? Як у Чэхава, у Талстога, у іншых такіх? Гаварыў жа ён, Леў Мікалаевіч, адзін з найбольшых праўдалюбаў, што «не даром она — забота о форме»!

*

Шаўчэнкава «Наймичка» вельмі падабалася Льву Талстому. «За распрацоўку вечнай тэмы — самаадданасць мацярынскай любові».

Узяў з «украінскай паліцы» трохтомнік Тараса Рыгоравіча. Не ведаю, як сказаць: упершыню прачытаў ці перачытаў даўно чытанае, як зусім новае прачытаў гэтую паэму. І прыгадалася, чытаючы, не што-небудзь іншае ў Льва Мікалаевіча, а чамусьці «Карней Васільеў». І тут, і там падобна проста і глыбока.

*

Сярод кніг, якія Міша прыдбаў перад вайной, за паўтара савецкага года, быў і Шаўчэнка. Адтуль памятаю чароўнае «Поставлю хату і кімнату, садок-райочок насажу» і дзёрзкае «з багриниць онучі драти»... Яшчэ раней, пры Польшчы, мяне захапіла гэта:

Рабочим головам, рукам
На сій окраденій землі.
Свою ты силу пиcпoвiли.
Мені ж, мій боже, на землі
Подай любов, сердечний рай
І більш нічого не давай!

Успрымалася гэта як найвышэйшае крэда, бо ў паняцце «любоў» укладвалася найглыбейшае — чалавечнасць.

Пра «Садок вишневий коло хати» Навічэнка піша: «С малолетства знает его на Украине каждая читающая душа, но не все помнят, что эту трогательную идиллию... написал Шевченко в тюрьме...» І я не ведаў. Няўжо не ведаў? А так жа прыемна ўведаць, так па-новаму — ад новай падсветкі — свеціцца гэты верш...

А што да «читающей души» (добра, нязвычна сказана) — ёсць засцярога. У нашых вёсках гэтую песню спявалі і «нечитающие души», непісьменныя, прычым захоплена, так дакранаючыся шчырым сэрцам да вялікай паэзіі.

*

«Чеховская *обезоруживающая* простота».

Гэта ўчора як быццам само выскачыла, калі мы гаварылі з N. пра веліч любімых — Талстога, Дастаеўскага і, цераз «великолепного» Буніна, дайшлі да непараўнанага Чэхава. «Обезоруживающая» — таму, што прастата гэтая так шчасліва нас панявольвае.

*

Трэба ўмець радавацца чужому поспеху. Думаючы пра поспех роднай літаратуры. Трэба не ўмець, а ўвесь час вучыцца гэтай радасці, змагаючыся з зайздрасцю старэйшага. І тады толькі возьмеш хоць тое, што можаш узяць з самога сябе, і аддасі яго другім.

*

Прачнуўшыся пасля шасці, успомніў пазаўчарашні Коласаў вечар у Маскве (па тэлевізары), выступленні Марцінкявічуса і Быкава, асабліва добрае ў Юсцінаса, і цяжка стала на душы, што і гэтыя хлопцы ўжо таксама на схіле...

А ўчора быў позні вечар са сцішнавата прыгожай поўняй, з белапенным гоманам хваль, з думкамі ўсё пра тое ж,— што ўсё гэта, можа, напярэдадні найгоршага, ужо не толькі для блізкіх, для паасобных, а для нас усіх...[1]

*

Гэта ўсё-такі надзейнае, гэта застаецца,— словы, абзацы, старонкі. Добра зробленыя, умацаваныя разумным сэрцам, якое іх само перажыло, адчула. Каб адчувалі, перажывалі і іншыя.

*

Радзішчаў («Путешествие...», раздзел «Пешки»):

«Первый раз обратил свое сердце к тому, что доселе на нем скользило».

*

У Карамзіна, якога чытаю пасля Радзішчава, згадваецца Штаргард.

---

[1] Гэты і васемнаццаць наступных запісаў зроблены ў Юрмале.

У памяці ажыў той дажджлівы, халодны і галодны ранак 21 верасня трыццаць дзевятага года, калі нас у тым Штаргардзе выпусцілі з таварнякоў і пагналі праз увесь горад у лагер. Змрочна-суровыя гмахі ў ранішняй імглістасці, наша ацэпласць, хто без шынелі, як я, мокрая блакітна-шэрая форма канвою і нешматслоўная, рэзкая строгасць — орднунг!..[1]

Гэтай раніцы, сустрэчы з нямецкім тылам, я ў раманс не паказаў.

...Амаль ужо дзвесце год таму назад дваццацідвухгадовы Карамзін пісаў пра сваю гутарку з недзе там сустрэтым прускім афіцэрам:

«Ему крайне хотелось, чтобы королю мир наскучил.

— Пора снова драться,— говорил он,— солдаты наши пролежали бока, нам нужна экзерциция!

Миролюбивое сердце мое оскорбилось. Я вооружился против войны всем своим красноречием... Немилостивый мой капитан смеялся и кричал:

— Нам нужна экзерциция, экзерциция!»

Чым не сучаснасць?..

*

Зноў Карамзин:

«Солнце закатилось. Я пожал руку бедной старушки и возвратился в Париж».

Гэтая фраза помніцца мне з маленства. Найлепшы доказ, што і «Письма русского путешественника», няхай сабе й фрагменты, я чытаў. Запомнілася гэтае месца сваёй сентыментальнасцю. Шмат чаго я тады не разумеў, вядома, і ў яго, але здаровае адчуванне смешнага было.

Чытаючы пра «строгую честность» яго *слугі*, успомніў, як тыдні ўжо са два таму назад малады таксіст з рэдкім прозвішчам Варава даў мне доказ *свабоднай* сумленнасці.

---

[1] Парадак *(нямецк.)*.

Завёз мяне з жонкай і дачкой на пахаванне В. Р., на далёкую ўскраіну, а мінут праз дзесяць ці нават і больш, пасля таго, як мы расплаціліся і ўвайшлі ў жалобную кватэру, ён зайшоў туды і, ветліва знайшоўшы мяне сярод людзей, шапнуў: «Прабачце, вы забыліся ў машыне парасон».

Як незвычайна сёння гэта звычайнае!..

*

Тры таміны па пяцьдзесят аркушаў — «Русские очерки», якія высока і, здаецца, някрапута стаялі сабе ў бібліятэчнай шафе. Што перачытваю, а што чытаю ўпершыню. Учора быў Радзішчаў, потым Карамзін, а перад сном адзін з братоў Бястужавых — Марлінскі, з яго цікавымі, грунтоўнымі нарысамі пра Сібір. Цяпер чытаю зусім дагэтуль незнаёмага М. А. Воранава, спачатку вучня, потым сакратара Чарнышэўскага.

Думаў і думаю над гэтымі тамамі пра веліч рускай літаратуры яшчэ і з такога боку,— гледзячы на яе праз геніяў, не праз тых «сярэдніх», што ў іншых літаратурах лічыліся б вялікімі, а праз тых, што так і засталіся ў сваім часе, прыпаяныя да яго, прапусціўшы наперад, у вечнасць, вялікіх.

Ці варта было ім, «прыпаяным», думаць пра як найлепшую апрацаванасць, добротнасць свайго слова? (Была, відаць, узнікала ў каго-небудзь і такая недарэчная думка?) І падумалася пра тых, чыя работа ў іншых галінах чалавечай дзейнасці таксама была добротнай, і не магла не быць такой, нават калі яна не разлічвалася на вечнасць, а на пэўную даўгавечнасць, патрэбная была, перш за ўсё, у сваім часе. Былі ў іх, тых «прыпаяных», таксама і зародкавыя адчуванні, і абдумванне, і чарнавікі, і цэнзура, і хваляванні, і промахі, і ўдачы. І гэта зноў жа павінна вучыць нас, новых «прыпаяных», да свайго часу, сціпласці, адчуванню абавязку.

*

Кінафільм пра Леаніда Быкава, акцёра, рэжысёра, таварыша, якога ўжо няма.

Таленагіты чалавек, лепш — чалавечны талент коміка. Урыўкі з фільмаў, у якіх ён быў абаяльны ў сваёй разнавіднасці.

Там, дзе ён у ролі франтавога лейтэнанта дырыжырус самадзейным афіцэрска-салдацкім хорам-аркестрам, я ледзь не падскочыў у крэсле, адчуўшы, нарэшце, што і мне пра свайго П. у новай рэчы трэба пісаць з усёй любоўю да яго, не саромеючыся яе, не абмяжоўваючы. Так яно пойдзе!..

*

В. Канецкі, «Третий лишний»:

«Введение самого себя в книгу дело щекотливое и лишних хлопот получаешь полон рот, но если, черт возьми, чувствуешь, что так надо?!»

Знаёма гэта і мне.

*

Даўно забітая ці здохлая чайка,— а мо і варона, бо не пазнаць,— выкачана хвалямі на бераг. Два хлопцы і дзяўчына спыніліся каля яе. Хлопцы збоку гавораць пра нешта сваё, а хлопцападобная па вопратцы паненачка стаіць, нахіліўшыся над слізкай, агіднай «кансервай» і патэтычна пясціцца:

— Встань! Да встань же!..

Младая поэтесса?

*

Успаміналі Ніліпа. Я — між іншым і тое, як ён аднойчы казаў: «Калі мне з Саюза звоняць, што трэба прыйсці на пахаванне, я так і ведаю, што памёр хтосьці нязначны»...

«Злосны ён трохі быў».

«А ці *проста злосны*?..»

*

Калісьці, яшчэ ў юнацтве, бывала сумна і прыкра ад мастацкай бездапаможнасці некаторых рэвалюцыйных песняў — самадзейных, складзеных на мясцовым матэрыяле, спяваных на мелодыі... нават модных у той час вальсаў. Выводзілася гэта часамі «хто ў лес, хто па дровы», а за гэтай шчырасцю стаялі і катаванні, і турма. Я гэта ведаў, аднак «эстэтычны скрыгат» у душы заставаўся. І помніцца.

Зусім іншая справа — светлая, звонкая радасць першай сустрэчы — у выкананні той самай моладзі — з песняй, якая і сёння хвалюе: «Там вдали за рекой...», і з іншымі песнямі, пачутымі па савецкім радыё ці таямніча прынесенымі з-за мяжы, прафесійнымі («Мы рождены, чтоб сказку сделать былью...») і народнымі.

Гэтая музыка маладосці спалучана ў памяці з вобразамі людзей, сярод якіх было добра.

*

Мора сёння ў 7.30 раніцы прыхлёбвала лёгкай хваляй неяк нібы абыякава, з няроўнымі паўзамі, толькі для ліку, што яно не спіць. Падумалася ў паўзмроку, што гэта пены намыла на стыку хвалі з берагам, а праверыў — белая, крышталічная намаразь.

Над соснамі на абрывістай градзе — яшчэ далекаваты сонечны ўсход, зара. А высока на паўднёвым захадзе, у лёгкай марознай замурзанасці неба — асколак нядаўняй поўні.

Мама сказала б: «Схода месяца».

*

Шагінян пра Шаўчэнку. Грунтоўна аўтарытэтнае сцверджанне велічы Кабзара.

Прыемна прачытаць такое:

«Он никогда не выдумывал *материала* своей прозы. Фабулу он, конечно, сочинял, очень

нехитрую и несложную, но его описания достоверны, как документ; в них нет и тени вымысла (кроме разве переноса положений)».

...«Брюллов приучил Шевченко к одному из прекраснейших занятий и лучшему способу выработки личной и бытовой культуры — *к чтению вслух*».

Гэтым і я займаўся нямала.

І свае новыя рэчы блізкім чытаў. Яшчэ і ў шэсцьдзесят шостым годзе, прыехаўшы з Каралішчавіч, чытаў Ніне, Калесніку і Янкоўскаму свежанькія «Апоўначы» і «Глядзіце на траву». Сам хваляваўся і рад быў бачыць крадком хваляванне слухачоў.

Чаму цяпер не чытаю сябрам свежанапісанае, што адбіла ад гэтага?

...Дома трэба будзе, нарэшце, прачытаць усю прозу Шаўчэнкі. Толькі дзённік яго чытаў і перачытваў (пасля падарожжа па Волзе), а іншае і мне здавалася не на ўсю сілу ягоным.

*

Апошнім часам часта думаю (па-руску сказаў бы: с нежностью думаю) пра Якубаву кнігу. Як помнік яму, у нейкай меры ўзняты і ўгрунтаваны і маімі рукамі. Чакаю, узважваю на далоні, гартаю — пакуль што ў думках...[1]

*

Бессістэмнае чытанне? Што ж, і жыццё наша ў пераважнай большасці «бессістэмнае»,— штосьці прыходзіць, з нечым незапланаваным мы сустракаемся штодня, штогадзіны, і строга планаваць сваё і жыццё, і чытанне проста немагчыма.

---

[1] «Маё маўклівае сэрца», кніга літаратурнай спадчыны Якуба Міско, выйшла на пачатку 1983 года.

*

Сустрэў у часопісе прозвішча Рахманінава і ўспомнілася, як у пачатку пяцідзесятых выпадкова купіў пласцінку з яго песняй на словы Пушкіна — «Не пой, красавица, при мне...». Ноччу ўставаў да праігрывальніка, каб ціхенька паслухаць яшчэ раз.

*

Васьмідзесяцігадовая сястра Цвятаевай — перад абліччам вечнасці — піша пра Марыну Іванаўну, што «основной тон ее жизни была — *тоска*».

Ведаю гэта і я — прыступы жудасна-горкай тугі... Даўнавата яе не было, ды вось зноў прыйшла. Прачнуўся ў тры гадзіны, каля гадзіны ляжаў без агню...

Успомніўся Якуб,— як ён (Таня казала) паміраў у страшэнных пакутах, клічучы маці. Мужны, стрыманы, з маўклівым сэрцам усё сваё нялёгкае жыццё.

Успомніўся запіс Льва Мікалаевіча,— старэнькага, стомленага і замучанага, адным любімага, другім ненавіснага, праслаўленага на ўвесь свет тытана думкі, тытана душы,— як ён па-дзіцячы маліўся сваёй «маменьке», якое ніколі не бачыў...

*«Не тое, не тое, не тое»,*— як часта, як балюча я адчуваў гэта ў сваім юнацтве і пазней, як адчуваю цяпер, калі ўспаміны і сапраўды *самі* развіваюць перад табой «свой свиток»...

Як светлае, як паратунак нейкі, успомніў перадсмяротнае пісьмо Жалезняковіча [1], якое ўжо ён сам не мог мне напісаць, а дыктаваў прыяцельцы іхняй сям'і, пажылой супрацоўніцы райкома, якая прыслала мне тое пісьмо, калі Паўла Арсеньевіча ўжо не было.

Ведаю, ведаю я, што трымацца можна

[1] П. Жалезняковіч (1906—1971) — адзін з актыўных удзельнікаў заходнебеларускага камуністычнага падполля, герой нарыса Я. Брыля «Сэрца камуніста».

толькі за адно — за жаданне быць лепшым, за жаданне ісці наперад.

«Благочестивого старца» з мяне не атрымаецца. У якіх пакутах я буду адыходзіць — не вядома. І не запішаш іх, не будзеш, як акадэмік Паўлаў, *працаваць да самага канца*. І прыкладу камусьці іншаму не дасі, бо так жа многа ў кожнага ў нас *толькі свайго* — і гадкага, і светлага.

«І не запішаш...» Вось толькі ўключыў святло і стаў пісаць,—і многае, што адчувалася на ўсю жудасную глыбіню, да поўнай балючай аголенасці, цяпер, нібы нават адразу, адышло, а ты — як выплыў, вынырнуў адтуль. Ужо з палёгкай, ужо як быццам з веданнем, што табе рабіць, ужо і з пэўным самалюбаваннем...

Выдаўшы пяты том, *так* выйшаўшы з *самім сабой* на людзі, мне цяжка далей быць «актыўным, пладавітым», мне трэба знайсці ў сабе штосьці новае, і гэта так нялёгка. І наогул, і ў нашай складанасці, якая, здаецца, яшчэ больш ускладніцца...

Былі дзеці малыя, цяпер прыйшлі ўнукі, адны ва ўсёй несмяротнай красе дзяцінства, другія — ва ўсёй складанасці сталага веку. А мы ўжо ў старасці, як ты там не брыкайся.

Аднак не хочацца дажываць, хочацца жыць. І жывецца пакуль што...

Простая мудрасць: «трэба жыць, як набяжыць» — таксама не гульня словамі, а мудрасць, народжаная ў пакутах.

*

«Если бы я не уважал вас за талант, то вы бы давно полетели у меня в окошко» [1].

У тым, што талент як быццам аддзяляюць ад цябе, паважаюць *за яго*, а не *за ўсё ў табе* — сяды-тады мяне раздражняла, крыўдзіла.

---

[1] А. Чэхаў. «Скрыпка Ротшыльда».

*

Пра аднаго з праслаўленых і вельмі заклапочаных сваёй славай іхні крытык сказаў мне — для большай аб'ектыўнасці, што «шапку Манамаха ён насіць умее».

Можа, і так, але ж пісаць, не здымаючы гэтай шапкі,— не варта. А праз яго радкі яна даволі часта бачыцца.

*

Маё любімае ў Коласа — «Маці» («Непрыветна цераз вокны ночка пазірае»), аказваецца,— як быццам я ніколі не ведаў гэтага,— напісана ў турме, што прыдае і так цудоўнаму вершу яшчэ большую абаяльнасць і сілу.

У тым жа, турэмным раздзеле «Песняў жальбы» — верш «С турмы» (так у кнізе), тое «Пісьмо з астрога» («Напішы мне, калі ласка, пісямко дахаты»), што так жыва і так змястоўна нагадала мне школьнае маленства. Сябрукі, сяброўкі бачацца праз паўвека, як жывыя, да іх прымяркоўваюцца радкі, а ў вымаўленні кожнага ці кожнай, за радкамі ажываюць вобразы,— не ведаю, ці тады, ці сёння больш блізкія мне.

А слова *працаўнік*, не вельмі каб прыемнае, і Колас ужываў: «вясковым працоўніцам». Знойдзена яно ці «прыдумана», ці проста перакладзена з рускага *труженик*? А колькі «прыдуманых» слоў у іншых, сталейшых літаратурах?

...У польскім выданні Коласа спыніўся на самакалыханцы, знайшоў яе ў арыгінале («Песня на сон у бяссонне») і прачытаў па-новаму, як штосьці больш значнае паэтычна, чым думалася, успрымалася раней.

Па-над рэчкай дрэмле дуб,
Задрамі і ты, Якуб!

Вобраз! І коласаўскі вельмі. А ў перакладзе ён, дарэчы, размыты:

Już dębinę sen omroczył,
Zmruż i ty, Jakubie, oczy.

Дуб, што *дрэмле* над рэчкай,— тут і краса, і сіла, якую не вельмі «omroczysz» [1].

У ціхім, любым коласаўскім настроі ўзяў з паліцы на стол увесь чатырнаццацітомнік, пераглядзеў фотаздымкі, трохі дзённік, што ў ім калісьці адзначаў на палях, сёе-тое з апошніх вершаў.

Коласаўскі настрой пачаўся не ўчора. Пераглядаючы прэсу, што сабралася за месяц [2], прыемна спыніўся на артыкуле Генадзя КахаНоўскага ў «Голасе Радзімы».

Сябар Коласа па турме, асілак ды весялун Мацей Цярэшка з-пад Маладзечна, які «мог на плячах утрымаць васемнаццаць пудоў», а цару жадаў «добрай асіны і пятлі», выйшаў на волю раней за крамольнага настаўніка, а потым ужо настаўнік наведаў яго ў вёсцы якраз на «дзяды».

Гэта здалося мне тэмай апавядання. Ажно Караткевічу пазваніў.

✲

Хто мог падумаць,— ці сам ён, ці яго блізкія,— што гэта звычайнае ў іхнім пасёлку прозвішча — Багрым — так падхопіць ветрам нашага адраджэння, так панясе гісторыя народа, што стварыў сваю літаратуру?

✲

«Сталічная вышка», чым так стараюцца гіпнатызаваць нас некаторыя рэдактары і крытыкі.

А на вышцы ў тых некаторых і калені дрыжаць і галава кружыцца,— больш, чым у тых, што не на вышцы, а бліжэй да зямлі.

[1] Omroczyć — азмрочыць, адурманіць, увесці ў забыццё.
[2] Запісана ў Мінску, пасля вяртання з санаторыя.

*

Дунін-Марцінкевіч. Трэба яшчэ лепш ведаць яго. А першае, што памятаю з юнацтва:

Паночку Яночку! дай табе божа
За год даждаці святога спаса;
Каб, як лес, расло ўсякае збожжа,—
Дык будуць пірогі і густая каша...

Больш мне ў тым вершы як быццам і не трэба было, каб адчуць смак чагосьці блізкага,— і да роднага слова, і да роднай зямлі, і да родных людзей, і да працы з яе глыбокім сэнсам, і да сумленнай стомы з салодкім чаканнем заслужанага адпачынку.

*

Узяў толькі мой твар, а іншае ўсё прыдумаў. І нейкае пейзажна-філасофскае акно, і нейчы стол з машынкай, і нейкую белую куртачку мне, як у кухара. Славутае, моднае: *ён так мяне бачыць*? Добра, што хоць не ўніз галавою! Такі вялізны партрэт, у такой агромністай, светлай зале... І хочацца сказаць: «Таварышы, дальбог жа я тут ні пры чым!»

Як ні пры чым,— а хто пазіраваў?

А верыць жа ў маладыя таленты трэба?

*

Музыка слова. Для мяне ў маленстве гэта было так хвалююча, так прыгожа: «Гогенцалерны! Бялуджыстан! Перекати-поле!..» А баец-акружэнец, цыбаты хлопец з Валагодчыны, у сорак першым годзе, прывыкаючы ў вёсцы да беларускай мовы, са смакам паўтараў: «Панцак! Лапцуг! Абцэнгі!»

*

Рыльскі (з паэмы «Сашко»):

...І всі знайшли, а я шукаю,—
І як ім знати, скільки мук
Таїть у радості й одчаї
Із серця вихоплений звук!

*

«Працай» над кнігай, над часопісам, над газетай у яго лічыцца багатае падкрэсліванне радкоў то чырвоным (станоўчае), то сінім (адмоўнае) алоўкам, а звыш таго яшчэ і надпісы ды знакі на палях — клічнікі, пытальнікі, плюсы, мінусы. Проста так, «для душы». Або каб напісаць, «куды належыцца», з адабрэннем ці, часцей, з пратэстам.

*

На канцэрце Імы Сумак я заснуў. Дэманстрацыя пераходаў ад сапрана да баса, усе тыя славутыя сем ці восем рэгістраў,— не мастацтва, не адухоўленасць, а проста фізіялогія.

А назаўтра таварыства дружбы запрасіла і мяне, у ліку работнікаў культуры, на сустрэчу з гэтай перуанскай ды сусветнай выдатнасцю. Раз пазванілі ў гасцініцу,— будзе. Другі раз пазванілі,— магчыма, будзе. Трэці раз — яна прымае ванну. Апошні званок — не, не зможа прыйсці.

І пайшлі мы дахаты. Шырма, Цікоцкі, Цітовіч, паэты, мастакі. Сярод белага дня...

*

На выстаўцы карціна «Памяць». Тры былыя партызаны, мужчыны пажылыя ўжо і з выгляду зусім невыяўнічыя, стаяць з поўнымі шклянкамі і глядзяць кудысьці — са шматзначнай тупасцю п'яных...

І тут адзнака часу.

*

Нешта адразу пасля вайны адзін мешчанін сялянскага паходжання, які не пры масавым заплыве, а далёка загадзя ўцёк з вёскі ў горад, гаварыў знаёмаму, прыехаўшы да яго ў вёску:

— Зарэж карову. Зачэм цябе даве?

Так яно пачыналася — забіванне любові да гаспадарання на зямлі.

Помніцца недаўменне таго чалавека, гаспадара: як гэта так — узяць ды зарэзаць карову?! А потым яно, недаўменне такое, патроху прайшло.

*

Устаў рана, неахвотна, неяк туга, як у юнацтве ўставалася далёка да дня — малаціць цапамі. Зрабіў некалькі лічаных старонак, адчуў, што далей належным чынам не пойдзе, і ўздыхнуў, закрываючы папку:

«Дзякаваць і за гэта!»

*

Ніколі столькі не шнураваў каля свае вёскі, як сёлета. Ці раз, ці два ўспамінаў, праязджаючы, а сёння вось зноў успомніў адну з даўніх раніц, познеасенніх ці зімовых, ад'езд пасля кароткага гасцявання.

Ранняе снеданне. Гарачая бульба, з парай, лепш прыкметнай у халаднаватай пасля ночы кухні, апаноўка яечні з прысмажанымі скваркамі, хлеб тоўстымі лустамі, свой, з вялікага бохана. Братняе: «Можа, па чарцы?» І мой неакрэслены поціск плячыма. Мы выпівалі і сапраўды па адной, бо мне ў дарогу, а яму на працу, да людзей.

Як гэта проста ўсё, як хораша здалёк і як ужо непаўторна!..

Сябру для новай рэчы спатрэбіліся Індыя, Амерыка, а мне ўсё думаецца і далей, што я змагу яшчэ нешта вартае зрабіць толькі вярнуўшыся туды, адкуль выйшаў, толькі стаўшы бліжэй да роднага кута.

У жаданні спяшацца пісаць, якое ўзнікае пры смерці яшчэ аднаго блізкага чалавека,— колькі тут мітуслівасці, а колькі належнага memento mori?.. Мітусіцца не трэба, трэба аберагаць свой час, заўсёды, штодня нацэльвацца на галоўнае, зноў і зноў вучыцца.

*

Яшчэ адна радасць чытання,— ведаць, што старонкі, якімі ты захапляешся, радавалі і тых, што чыталі гэта да цябе, што над імі плакаў ад смеху Пушкін, задумваўся Талстой...

*

Пачаў чытаць Сяргея Абразцова [1], толькі ўвайшоў у яго разумнае, смачнае слова — захацелася запісаць:

Добра гэта — прыгожая старасць: у Абразцова, у юбіляра Гейчанкі [2], у Андронікава, у нашых — Шырмы і Стапюты, пра якую толькі цяпер належна загаварылі. Старасць прыгожая — не з надзеямі пачатку, а з заслугамі мінулага і працай сёння.

Як многа высакароднага яму, Абразцову, дала яго шматгадовая дружба з дзецьмі.

Чатыры абзацы пра дзяўчынку, што пашкадавала на вуліцы кацяня, да хваста якога нейкі нягоднік прывязаў вяроўку з гайкай, вартыя добрага апавядання. Апошні абзац:

«В эти минуты он (Мурзік на каленях дзяўчынкі, што робіць урокі) не менее продуктивен, чем решение задачи, в которой вода в один бассейн вливается, а из другого почему-то выливается. Котенок делает девочку доброй. Нужнейшая продукция!»

---

[1] «Наука и жизнь», № 1, 1983 г.

[2] Гейчанка Сямён Сцяпанавіч (нар. у 1903) — рускі пісьменнік.

*

На вечары Гарэцкага, слухаючы, як N. захапляўся трапнасцю юбілярavых характарыстык, там, дзе нейчая жонка «панурая, худая дылда з чорнымі вусамі, як у мышы», успомніў бедную «дылду» Г. Н., што на трыццатым годзе жахліва закончыла самагубствам — з-за свае непрыгажосці... Прыгадалася таксама, што па законах сатырычнага жанру, чаму мяне калісьці вучыў і той самы N., «прозвішчы, імёны і фізічныя недахопы асмяянню не падлягаюць».

*

Вялікае мноства маладзенькіх дзяўчат у белых халацiках і крыху фанабэрыстых белых шапачках «калупаюцца» ды «слепяцца» каля дарагіх станкоў, з мікраскопамі. «Пасля тэхнічнага вучылішча, забяспечваюцца прапіскай і інтэрнатам». Падумалася: а каб гэта іх зноў рассеяць па родных мясцінах,— колькі б яны нараджалі дзяцей на свежым паветры, у нармальных умовах сям'і!..

Учора, выступаючы на адкрытым партыйным сходзе, старшыня калгаса А. гаварыў:

«Мы дамагліся зліцця вёскі з горадам, з той розніцай, што наша вёска, звыш усіх гарадскіх выгод, захавала свае перавагі. У нас чыстае паветра. Мы не дрыжым над шклянкай малака. У нас цудоўныя, правераныя нявесты... Я не для смеху, таварышы! Яны ў нас не такія, як у горадзе, што праз месяц разводзяцца. Кожную з іх усе ведаюць змалку...»

Тут я ўспомніў тоўстую папку з заявамі тых гарадскіх, «неправераных», што ўжо ў радзільным доме, адразу ж адмаўляліся ад дзяцей... Яўрэйская прыказка: «Калі жэніцца ўдавец з удавою — спаць лажацца ўчацвярых». А такая жоначка — успомніць сваё першае дзіця, нарадзіўшы другое, для

мужа яе першае? Гэта — калі за добрага хлопца выйдзе.

*

Прыгадаеш, калі што было напісана, і ажно злосць бярэ: што — ужо таксама пятнаццаць, дваццаць гадоў?!

*

Няўжо і такое павінна праходзіць бясследна?

Таварыш Д., пажылы газетны фотакарэспандэнт, калісьці зняў мяне па нейкім рэдакцыйным заданні і даў адзін здымак мне. Я адкрыў ім свой чатырохтомнік і першы том паслаў гэтаму сціпламу, добраму чалавеку. Ён падзякаваў кароценькім пісьмом і разам з ім прыслаў фотаэцюд, у свой час зроблены, думаецца, для душы. Рэдкія бярозы ў сонцы, з іх ценямі і позне-летняй травой. Таварыш Д. ужо даўнавата памёр. А сонечныя бярозы стаяць за шклом адной з маіх кніжных шафаў. І добра бывае зірнуць на іх, паглядзець...

Як і цяпер, ад раскошных старонак «Ціхай плыні» Гарэцкага.

*

Муж — у вайну сапёр, пасля вайны спартсмен, цяпер у рэанімацыі. Яна ледзь ідзе ад яго, па дарозе расказвае мне пра гэта новае «ўскладненне» ў іх бяздзетнай сям'і: расказвае нібы спакойна, бо як жа інакш?.. І не дахаты яшчэ ідзе, суседка па дому, а да ракі цераз бульвар. Там у гэтую, аж лішне лёгкую, зіму на незамёрзлай ніжэй плаціны рацэ асела, прыжылося каля сотні дзікіх качак. Калісьці бачыў я такое ў Осла, здзіўлены быў, амаль расчулены такім спалучэннем красы прыроды і чалавечай культуры. А тут, у нас, адны ўжо спрабавалі да гэтых качак падсунуцца з

дзікасцю браканьерства, а іншыя «сентыментальна» падкормліваюць іх. Вось і яна, мая даўняя знаёмая, усмешліва прыемная, культурная жанчына, не спяшаецца ў самотную ўтульнасць яшчэ ўсё па-зімоваму доўгага вечара, а можа, і ночы бяссонна-даўжэзнай, яна ідзе да сваіх «вутачак». Жыццё павінна мець разумны сэнс.

І муж яе, і яна старэйшыя за мяне толькі на чатыры гады... Прачнуўся вельмі рана, да шасці, адразу чамусьці з думкай, што не за гарамі і мае семдзесят, што трэба спяшацца нешта значнае рабіць. Ды супакоіўся на тым, што ў нашай справе сілаю многа не возьмеш.

*

Што там ні гавораць пра «вечныя тэмы», як ні страшаць такім «адрывам ад сучаснасці», а такое ўсё-такі застаецца. Я — пра сваіх вожыкаў, казлоў, клёнікаў, галубоў, якія зноў вось прыемна бачыць у новым перавыданні, якія чытаюцца, выклікаючы «чувства добрые», нараджэнне гэтых апавяданняў успамінаецца светла і цёпла. Няўжо такое не патрэбна для галоўнага?

*

Нам трэба літаратурная мова. Як у рускіх — «великий, могучий, правдивый и свободный русский язык!» Пішам. Хто адкуль сюды, у цэнтр нашай зямлі, прыйшоў, прынёс сваю мову, мову родных мясцін. Куды і цяпер ён часта вяртаецца, да мовы *сваёй*, у прозе — па добрым прыкладзе Івана Мележа. Узбагачайма яе, нашу літаратурную мову, голлем, лісцем, кветкамі, пладамі, насеннем мясцовых гаворак, але ж памятайма, дбайма і пра ствол, і пра карэнне вялікага дрэва нашай роднай літаратурнай мовы.

*

З двух братоў Бычкоўскіх Купала зрабіў свайго шляхцюка Быкоўскага. А Бычкоўскія, бацькі гэтых братоў, у канцы мінулага стагоддзя перасхалі па Лагойшчыну з нашага Воўчага Балота, дзе іх прозвішча было проста Бычко, якіх у нас у Міры і навокал нямала.

Смачна даведвацца пра такое, пра такую сувязь літаратуры з жыццём, зусім да цябе блізкім.

*

Над рукапісамі Гарэцкага.

Першы сшытак «Камароўскай хронікі». У касую лінейку.

Людзей шмат, іх яшчэ не запамінаеш, а жыццё іх ужо бачыш, усяму ўжо верыш.

Як голле на дрэве, дзе кожная галіна ды галінка ідзе ў свой бок, так і ў яго лёсы разыходзяцца, кожны па-свойму, не паўтараючыся, не падобныя адзін да аднаго.

Мова — народным голасам расказвае.

...У гісторыю, хроніку ўжо ўплятаюцца залацінкі, мастацкія дэталі, унесеныя туды чулым сэрцам пісьменніка. Стары аддзяліў сына з нявесткай, а назаўтра, сустрэўшы іх на двары, паміж сваёю, старою хатай і іхняй, новай, сам першы павітаўся: «Добры дзень, дзеткі!» і заплакаў. У другім месцы — пра тое, як ездзілі на агледзіны ў сям'ю жаніха, вельмі ж набожную, і бацька нявесты сказаў: «Не аддам, бо замоляць»...

Упэўненасць, з якою ён гаворыць пра дні, тыдні, месяцы такая, што верыш, як дакументальнаму.

*

З кнігі Пшыбася [1]:

«Часцей трэба карыстацца зброяй найбольш

[1] Пшыбась Юльян (1901—1970) — польскі паэт і эсэіст. Вытрымкі перакладзены з яго кнігі лірычных запісаў «Zapiski bez daty».

дзейснай і смяяцца з самога сябе, калі бывае так, што праціўнікі маюць хоць крышку рацыі, а на зачэпкі і адкрытую хлусню трэба адказваць пагардлівым маўчаннем.

...Каб не адчуваць агіды да самога сябе, трэба любіць хоць аднаго бліжняга.

...Уфф! Не магу! Не магу чытаць раманаў, нават класічных, шэдэўраў. Колькі ж я задаваў сабе прыкрай работы, пакутуючы над бягучай польскай белетрыстыкай, рэцэнзуючы яе. Хопіць! Цяпер буду разбіраць эсэ, нарысы, вершы, а вытворчасць фікцыі абмінаць!

...Трэба хоць раз у жыцці папрацаваць сумленна, як рабочы і селянін, каб пазбыцца сораму, што пяро лягчэйшае за молат і серп.

...Трэба слова спачатку суцішыць, вызваліць ад шуму штодзённай гаварыльні, каб пачуць яго чыстае і поўнае гучанне; трэба яго акружыць цішынёй і абагаціць маўчаннем».

Кніга гэтая, здадзеная ў выдавецтва самім аўтарам, выйшла месяцы праз два пасля яго смерці. Добра думалася пра старэйшага таварыша, сяброўства з якім было пачалося.

*

Караленка:

«Я старался только не закрывать *своими* чувствами того внутреннего ужаса, который заключен в этом явлении и отразился в непосредственных записях».

Гэта — пра «Бытавое явление», у пісьме Льву Мікалаевічу ад 7.IV.1910 г.

Запісваю, бо падумаў, што так і мы стараліся, робячы сваю «Я з вогненнай вёскі...».

*

Зноў паўтараецца *«не тое», «не тое»*... Як быццам, каб зноў пачаў жыццё спачатку, было б толькі тое, што трэба. Трэба жыць, давай, што можаш даць, бяры, што засталося па твой узрост, і дзякуй добраму лёсу.

*

Першая чырванагрудая ластаўка на драціне, толькі што праведзенай ад вугла нашага доміка да слупа. Як прывітанне даўняга, вясковага, як знак абжытасці гэтага кутка [1].

*

Як прывітанне з вёскі, ад N., зайшлі дзве яго маладыя сваячкі. Правадніца экспрэса Мінск — Масква, чарнявая красуня, і работніца намярнога завода, таксама ў сталіцы. На аднолькава новых веласіпедах, купленых у сельмагу (нікель і светла-зялёнае). Прывезлі некалькі каліваў сунічнай расады. Пасадзілі мы іх у місе, пакуль мая гаспадыня вернецца з Мінска. Чарнявая замужам за хлопцам з Гомельскай вобласці — так мы з ёю ішлі далей, удакладняючы,— Петрыкаўскага раёна, са станцыі Капцэвічы, побач з якой, у вёсцы Слабада (яна, маладзічка, дапамагла мне ўспомніць) мы калісьці запісвалі мудрую бабку Булаву [2]. Свет і сапраўды цесны ці, лепш сказаць, людзі так дзіўна распаўзаюцца ды збіраюцца — па ўсёй краіне і зноў па родных кутках.

Пасадзілі паненкі расаду, развіталіся міла і паехалі цераз лес, па пясчанай і не пясчанай дарозе ў зноў амалоджаных маем дрэвах.

*

Неўзабаве пайду па полі даўно знаёмаю сцежкаю, мінаючы ціха-гудлівыя слупы, яшчэ без ластавак на дратах. І калі нават хмарна будзе і далей, буду бачыць нізка над лугамі і лесам за ракою сонца, вялікае сонца яшчэ адной ранняй раніцы. Буду бачыць — успамінаючы

[1] Гэты і далейшыя запісы — у пасёлку Крынічнае на Міншчыне.

[2] «Я з вогненнай вёскі...», раздзел «Дзіця бяжыць разораю».

мой першы сёлета праход па толькі што натупанай сцежцы, першае сонца ў гэтых родных мясцінах, першую рунь не зводдаль, не з дарогі, а пад сабой і навокал сябе, ідучы пасярэдзіне маладзенька-зялёнай ячнай прасторы. Успамінаючы радасць жыцця, свабоды, здольнасці на патрэбнае людзям. Дарма, што ў свеце столькі сумнага, жахлівага, балючага — што ўжо было, што ёсць, што можа быць...

*

Днямі зноў думалася пра крыніцу — родную мову, якой служу і буду служыць як першааснове выхаду ў агульналюдскае. І не таму, што без гэтага мяне не будзе, а таму, што толькі так, толькі кожны ад свайго, ад сыноўняй любасці, ад мудрай пашаны да свае крыніцы, да свайго карэння па-сапраўднаму выходзяць да ўсіх людзей.

*

Ціхае шчасце сціпласці патрэбна нам для разумнай свабоды паводзін, для найбольш плённаганазірання жыцця — з самай сярэдзіны. А тут уваходжу ў тралейбус, а N., што можа сёе-тое зляпаць, збоцькаць, згарадзіць у так званай літаратуры, убачыў мяне і крычыць з другога канца поўнага вагона: «Прывітанне!.. (З падкрэсленай выразнасцю — імя і па бацьку.) Над чым працуеце? Я канчаю раман...» Прыйшлося без пары, на наступным прыпынку выйсці.

*

Перакладаючы нядаўна «Дым» Канапніцкай,— зноў жа, як з Прусам было, з удзячнасцю за перажытае над гэтымі старонкамі ў маленстве,— яшчэ раз ясна бачыў, што галоўнае ў творы — укладзенае ў яго

пачуццё. У гэтым выпадку — пачуццё шчырай любові да простага, працоўнага, беднага чалавека, жаночае разуменне, адчуванне матчынай радасці, матчынага гора.

*

Торнтан Уайдлер, «Мост караля Людовіка святога» і «Дзень восьмы».

Многа агульнага, у сэнсе інтэрнацыянальнага ў бачанні галоўнага, што не павінна бянтэжыць і стрымліваць. Гавары сваё і па-свойму, гавары перажытае, і галоўнае — у гэтым.

*

На перадплеччы маладога, вусаценькага шабашніка татуіроўка: «Тот не знает цены свободы, кто не был ее лишен». Рука праз краты выпускае голуба, а над кратамі і пад імі па палавіне гэтай фразы, калісьці вельмі змястоўнай для маладога чалавека. Убачыўшы гэта, я ўспомніў адразу свае гады палону, Пестраковы адзінаццаць год турмы... А сёння зноў вось успомніў тую татуіроўку, прачытаўшы пра Дастаеўскага,— як ён мог, умеў, хацеў у кожным бачыць чалавека.

*

Маміна «грашней таму, у каго прапала»,— колькі ў ім мудрых варыянтаў!..

*

«Прыйдзе пара́ і вырасце трава». Згадалася, прычапілася прыказка, якую пачуў і запісаў падлеткам. Такая простая, а вось не выходзіць з памяці некалькі дзён. Нават як быццам і смак рыфмы адчуваецца па-народнаму.

*

Ноччу быў такі лівень, што здавалася: ну, усё ўжо, па ўсім, і не выбрацца будзе нашым адгэтуль, і мне не дайсці ў вёску па малако. А выйшаў у 6.30 на двор — як хораша, як шчодра напоена і адмыта ўсё навокал! Ажно ўспомніўся пушкінскі радок: «Чай теперь твоя душенька довольна?» І цёпла так. Усё не толькі вушы падняло, але ж расце, расло ўсю ноч.

Учора нашы ездзілі ў далёкія суніцы, а я тры гадзіны быў з госцікам. Карміў яго, заношваў і, калі ён спаў на маёй тахце, любаваўся ўнучкам, успамінаючы бацьку яго ў такіх... месяцах. Учора якраз яму было іх дзесяць. Потым катаў яго ў калясцы каля дарогі, і было вельмі хораша на душы. Ажно вось зноў вярнулася... Мо і напішацца нешта пра гэта, калі не асобна мініяцюрай, дык у нечым большым. «Пра гэта» — пра несмяротнасць жыцця ў яго паўтарэннях.

*

Успамінаў неяк старога К. у бальніцы. Як ён збіраўся «паразумнець» — не працаваць так многа і цяжка. Расказ быў пра тую сваю незвычайную працавітасць, і дома, і ў полі. «Усё жыццё ўсё спяшаўся, спяшаўся. Каб як найбольш зрабіць. Іду ў поле, спяшаюся, а потым азірнуся, ці бачыць хто мяне. Няма нікога. І падбягу тады, каб хутчэй!..»

Усмешка — у канцы дзевятага дзесятка. Яшчэ ўсё з жаданнем нарэшце пачаць усё інакш... Як аказалася, за тыдзень да канца.

*

Дзве лічбы — 6.45 раніцы і 4 вышэй нуля. Церпка і сонечна. Вельмі звычайнае, будзённае — сцяна ельніку, дарога, ячменнае поле, за ім дубы і алешыны над Нёманам, а над ракой і зарэчнымі лугамі густы туман. Калі

крыху дакладней, дык яліны, што стаяць узбоч дарогі густа і высока, асветлены сонцам неяк нібы незвычайна, па-святочнаму; дарога пасля нядаўняга ліўня яшчэ не пыліць, а стракаціць пратэктарнымі ўзорамі, ісці па ёй лёгка і спорна; ячмень, яшчэ зялёны і нашчацінены калоссем угару, мігціць безліччу халодных, сонечных расінак на вусіках; туман, з якога вытыркаюцца за Нёманам кроны дубоў, нібы спецыяльна выдзеліў для агляду ячменнае поле, дарогу і ельнік. І гэтага, выдзеленага, так нямала, што я, ледзь не сонна яшчэ шлэбаючы па дарозе са сваім чырвоным бідончыкам, спыніўся і нават сказаў: «Як хораша!»

Нагадалася,— Фёдар Абрамаў, які *ўжо не любуецца* [1] халаднаватай красой роднай Поўначы, і словы Льва Мікалаевіча пра тое, што назначэнне жыцця — радавацца.

Радавацца і працаваць.

*

«Потом из будущего я возвратился в настоящее и опять с тоской думал, что ты мудрее меня, что ты знаешь нечто такое, что и я знал когда-то, а теперь забыл, забыл... *Что и все-то на свете сотворено затем только, чтобы на него взглянули глаза ребенка!* Что царствие божие принадлежит тебе! Не теперь сказаны эти слова, но, значит, и тысячи лет назад ощущалось загадочное превосходство детей? Что же возвышало их над нами? Невинность или некое высшее знание, пропадающее с возрастом?»

Ва ўспаміне-звароце да паўтарагадовага сына («Во сне ты горько плакал») гэта было напісана праз тры гады пасля таго, як мы з ім, так хораша, мудра таленавітым Юрыем Казаковым (у цытаце падкрэсленне маё), у адной пісьменніцкай руска-латышска-казахска-беларускай брыгадзе

---

[1] Ф. А. Абрамаў памёр у маі 1983 года.

ездзілі па спякотным і экзатычна прыгожым Сямірэччы. Я не мог з ім пагаварыць, бліжэй пазнаёміцца, бо на працягу ўсіх тых сутак ён быў прыкра... *хворы* — так трэба сказаць. Адно за адным чытаючы дабротныя апавяданні ў яго вялікім і яшчэ так свежа, горка пасмяротным томе [1], я час ад часу вяртаўся да партрэта. Ён, Юрый Паўлавіч, быў такім і тады, у нашай паездцы,— зношаным, стомленым страшнай хваробай, якую трэба ўжо ставіць у пераліку «хваробаў веку» ледзь не на першае месца... Балюча гэта пісаць. Дый у прычыны трэба было б глыбей заглянуць. Якія супярэчнасці раздзіралі яго, ад чаго ён уцякаў у ачмурэнне? Сумна!..

*

Учора апоўдні С. прыехаў на матацыкле падаіць карову, трошкі пазней падышоў і П. Прысеўшы на ганку, у сонцы, пагаварылі. Пра надзённае — сенаванне. «Паслязаўтра Яна, а да жніва яшчэ далекавата». «А памятаеце, хлопцы,— сказаў я,— што калісьці гэтай парою ўжо вішні былі. Сена вязеш ды спынішся пад вішняй...»

Запісваю з-за гэтага звароту: «хлопцы», бо атрымалася так зусім натуральна. Хай сабе адзін з нас паплаўнічы, другі столяр, трэці пісьменнік, аднак жа мы аднагодкі амаль і — перш за ўсё — *свае людзі*. У гэтым прыемнасць мая, і так бы сябе адчуваць.

Ад такога ж, дарэчы, ідзе хараша-натуральная народнасць Бялова, Абрамава, чаго ёсць трохі і ў мяне, чаго мне трэба больш.

*

Неяк нядаўна прыгадаўся раздзел з «Надпісу на зрубе», дзе стары плыве з унучкай у лодцы. Я ж мог і «выдумваць»! А сёння,

[1] Ю. П. Казакоў памёр у снежні 1982 года.

перачытваючы ў сваім «тэмніку» намёткі да «Рэха», што не стала апавяданнем, а толькі чатырнаццаццю радкамі падраздзельчыка ў «Дажджлівым, сонечным жніўні», падумаў: а ці не абкрадаю я сам сябе, залішне многа заганяючы толькі ў нататкі?..

*

Сёння сёе-тое зрабіў, «ачалавечыў» са старых намёкаў. Пры «нарысавасці», «дзённікавасці» такой работы мне трэба больш варушыцца, больш бачыць і чуць, каб было што расказваць — не толькі пра сябе самога.

*

Зноў Юрый Паўлавіч:

«Так редко это видишь — этот рассветный час в лесу, на реке».

Успамінаецца даўно, у раннім юнацтве чытанае ў Талстога — пагардлівае ад здаровага і целам, і душой — пра тых, што ні разу ў жыцці не бачылі, як узыходзіць сонца!..

Кніжнасць гэта ў мяне — такія ўспаміны, асацыяцыі? А куды ж падзецца ад гэтага, калі ў жыцці столькі кніг, як абысціся без «общения человеческих душ», што таксама, здаецца, сказана так Талстым?..

У Казакова грунтоўна ўсё і сумленна. Бачыцца не толькі вострая памяць, але і памочнік яе, блакнот. Можна таксама меркаваць і пра папярэднюю падрыхтоўку, і пра далейшыя самаправеркі. Штосьці сапраўднае, добротнае, у трывалых чэхаўска-купрынска-бунінскіх традыцыях і, разам з тым, як быццам *іхнім* або *пад іхні* голас пра наш час, але — па-свойму.

*

Іду па сцежцы. Гарачы пах амаль спелага ячменю. З гэтага хлебнага паху, з працы — і я, маё маленства і маладосць.

*

Пазаўчора купіў рускі зборнік Пысіна, хораша выдадзены, з цудоўным партрэтам на белай вокладцы, з глыбока-светлай назвай «Есть на свете мой олень». Чытаў учора ў электрычцы, чытаю цяпер, перад вялікім сонечным акном. Які паэт! Слова яго жыве. Няхай бы ж і ён яшчэ жыў! Можа, тады мы сказалі б яму больш таго, чаго ён заслугоўваў і чаго мала чуў...

*

І так яшчэ прыгожая, яшчэ прыгажэйшай здалася з сярпом на жытняй постаці. З унучкам на адной руцэ, з бідончыкам у другой, я глядзеў на яе з-за высокай, густой крапівы і з-над плота, а яна ўсміхалася, гаварыла. Неяк святочна гэта па-народнаму — зажынкі, хоць і па-сучаснаму — на сотках у агародзе. «Яна і я» прыгадалася. З хваляваннем.

*

Дажджлівым вечарам пачаў раман Давыдкава [1] «Рифы далеких звезд». Пагасла святло, лёг трохі раней і прачнуўся ў чатыры з мінутамі. Праверыў — ёсць святло. Дачытаў.

Гэта ўжо трэцяя для мяне яго рэч у прозе. Першую чытаў у «Всесвіті», «Кусень хліба для подорожного», другую па-беларуску, «Белы конь ля акна». Не памятаю фабулы, герояў, надоўга не запомню гэтага, відаць, і ў трэцяй рэчы. Запомніцца і помніцца галоўнае — мужны лірызм, натуральная паэтычнасць, культура пісьма і шчырая чалавечнасць.

Хацелася б сказаць гэта і самому Івану.

---

[1] Давыдкаў Іван (нар. у 1926) — балгарскі паэт і празаік.

*

Пасля Давыдкава ўзяўся за аднатомнік Андэрсона [1], адразу, яшчэ па прадмове, адчуўшы, што гэта — маё. Зноў адкрыццё? Сорамна? А чаго? Калі і ў анатацыі значыцца, што, за выключэннем некалькіх апавяданняў, творы яго выдаюцца ў нас упершыню.

...Андэрсон, перад ім Давыдкаў і Казакоў часта пішуць ад першай асобы. Лірычны талент гэтага патрабуе? І мяне таксама цягне першая асоба, баюся, што да аднастайнасці.

*

Думаў апошнім часам, і ўжо неаднойчы, што да маёй «журналістыкі» трэба аднесці не толькі замалёўкі з цыкла «Дзеля сапраўднай радасці», але і «У Забалоцці днее».

*

У Андэрсона, у нарысе «Трудные «детки» ■ лесу», параўнанне: «Лес был, что твой собор». А ў Вялюгіна: «З усіх сабораў ёсць сабор, дзе я гатоў маліцца». А не чыталі ж яны такога адзін у аднаго — гэта напэўна. Яшчэ раз «міжнароднасць» параўнанняў.

Над гэтымі старонкамі ўспамінаўся спачатку Лондан, «Лунная даліна», а потым некалькі разоў старонкі Бічэр-Стоў,— як яны хвалявалі ў маленстве.

...Кончыў Андэрсона, сказаў яму «дзякую» і зноў падумаў: а што ж ад такіх дзякуяў аўтару,— ці прадчуваў ён, ці прадбачыў удзячнасць многіх?

...Два дні прайшло, і зноў успомнілася першае чытанне «Хаціны дядзькі Тома» (па-польску). З вялікай сілай праўды, з успрыманнем усяго як сапраўднага. Цётка Клатыльда і ўсе — як жывыя...

---

[1] Андэрсон Шэрвуд (1876—1941) — амерыканскі пісьменнік.

*

У польскай кнізе. Шарль Гуно — маладзейшаму кампазітару:

«Чым больш мы паглыбляемся ў наша мастацтва, з тым большай пашанай думаем пра творы мінулага. Калі я быў у вашых гадах, дык гаварыў: «Я»; калі мне было дваццаць пяць, гаварыў: «Я і Моцарт»; у сорак гадоў: «Моцарт і я»; а сёння гавару зусім ціха: «Моцарт».

*

Чытаю, чытаю, смешнае, смешнае і — не смяюся. А потым і, здаецца, не найлепшае мяне ўзрывае смехам, які, аказваецца, *назбіраўся.*

*

Тое далёкае, з самага нізу захапленне словам вялікіх!.. І праз гады, ужо такія многія, і праз вопыт, таксама немалы, яно, захапленне, часамі вяртаецца. Добра!

*

Над старонкамі Андрыча пра сараеўскае падполле («Заяц») успомнілася старэнькая маці майго польскага друга,— як яна расказвала пра пахаванне дачкі. У гады акупацыі дачка, варшаўская падпольшчыца, была асуджана на смерць, але не расстраляна, а — носячы гэты прысуд над галавой — працавала турэмным лекарам. Пасля вызвалення ўзнагародзілі, але здароўе вярнуць было нельга. На пахаванні ксёндз сказаў, што ён не ведае, як тут трэба маліцца: за яе ці ёй?.. Старэнькая, хворая, інтэлігентная маці, расказваючы мне гэта, ледзь-ледзь трымалася. І я таксама, бо думаў, ды вось і сёння думаю: як гэта горда і горка быць маткай такое дачкі!..

Успомнілася і адна выпадковая, ад чаго яшчэ больш прыемная, сустрэча на вясковым аўтобусным прыпынку. З даўно, з маленства

злаёмай зямлячкай, спачатку дачкой, потым маткай, а сёння ўжо і бабуляй. Цяжка, не хочацца думаць пра тое, як на допыце ў пастарунку ёй, маладзенькай падпольшчыцы, беларускай навагрудскай гімназістцы, паліцэйскія... скажам: плявалі на твар, калі яна амаль зусім непрытомна стагнала на цымантовай падлозе сутарэння, на сваёй і чужой крыві. Не хочацца думаць, бо ўсё гэта даўно адпала, з агідна нялюдскага стала для яе вобліка тым, што асвечвае старасць людскою пашанай. Настаўніца, якая ўсе пасляваенныя гады працавала ў роднай вёсцы. Цяпер і дзеці, і ўнучак, звонкі светлячок, і ў самое так многа шчырай прыязнасці да людзей...

*

Можа, гэта і правільна: пасля жыцця таго ці іншага сапраўднага пісьменніка — аднатомнік найлепшага, што ён зрабіў. Як тыя тры аднатомнікі, у якіх заключана жыццё, душа Юрыя Казакова, Шэрвуда Андэрсона і Іва Андрыча, рускага, амерыканца і серба, сыноў розных народаў, з розных куткоў Зямлі, сыноў адной чалавечай сям'і, якая павінна ж хоць неяк, хоць прыблізна дайсці да прыстойнага ладу...

Добра так пераходзіць — са свету ў свет, добра так перагортваць няспешна прачытаныя, культурна выдадзеныя старонкі, удзячна ўзяўшы з іх тое, што яны даюць. Добра паставіць такую кнігу на сваёй паліцы, каб потым вярнуцца да яе з прыемным успамінам і з абноўленай патрэбай кантакту, добра яе і пазычыць, а то і падараваць каму-небудзь вартаму.

*

Чытаючы Гарэцкую [1], успомніў кароценькае пісьмо, якім канчалася падборка франтавых

[1] Маецца на ўвазе жонка Максіма Гарэцкага, пісьменніца Леаніла Чарняўская (1893—1976), і яе кніга «Апавяданні», выдадзеная ў 1983 г.

пісьмаў яе адзінага сына: «Галя, загінуў наш Лёня. Адна ты засталася ў мяне, дачушка...» І гэта — пасля ўсіх пакут, перад яшчэ трыццаццю нялёгкімі гадамі. А яшчэ ж і пісаць ёй трэба было. І нядрэнна пісала. Асабліва тое, што для душы, з веданнем сялянскага, жаночага, дзіцячага. «Бяздзетуха», «Варка», «Юльчыны ўспаміны»...

Шкада, што няма ўжо не толькі Маўра, Лынькова, але і Якімовіча, Пальчэўскага,— не спытаешся пра гэтую гаротную ды мужную жанчыну, якую яны, як кажуць яе родныя, у бядзе не пакінулі.

*

Думаў нядаўна пра тое, што варта, можа, неяк спалучаць некаторыя запісы з іх своеасаблівым, значным працягам. Скажам, да запісу пра знаёмства з Нэндзай-Кубінцам [1] і чытанне яго вершаў у Закапаным дадаць пісьмо яго дачкі або расказ пра тое пісьмо і пра цяжкі канец самога Нэндзы... Ёсць і другое падобнае, што варта было б такім ці іншым чынам прадоўжыць.

*

Не магло ж яно так быць, каб чалавек пражыў так доўга і ў яго не было ўспамінаў. За што ні зачэпішся — да ўсяго падыходзіць нейкі ўспамін.

Чытаў кніжыцу пра лясныя травы, а ў ёй пра «затяжную январскую оттепель» 1925 года, калі і на поўначы ад Пскова зацвілі былі пралескі, што зацвітаюць пры шасці-сямі градусах плюс. І ўспомніў, як наш сусед, мой ніжнебайдунскі Захара Качко, на калядную куццю, значыцца, 6 студзеня спецыяльна запрог у плуг кабылу і прайшоў на загуменні

[1] Нэндза-Кубінец Станіслаў (1897—1976) — польскі паэт, селянін, з якім Я. Брыль пазнаёміўся ў жніўні 1975 года.

дзве баразны, туды і назад. «Каб помніць, перакувырку яго!» І не думаў, вясёлы бывалец, што гэта будзе помніцца так доўга...

*

Сказаць пра страшнае?

У сорак першым жанчына выратавала палоннага чырвонаармейца, выбраўшы ў лагеры самага нядошлага, спакутаванага. Адратавала яго, як маці або сястра старэйшая, што называецца з *апошняга*, адрываючы дзецям ад рота. І ён пасля стаў... самым крывавым, самым агідным паліцаем. Заслужаным, старшым над імі.

Пра гэта пачуў я на Віцебшчыне, улетку семдзесят другога года. Ды вось успомнілася з новай сілай. І напісаць бы пра гэта, каб не так яны ўжо агідлі — здраднікі, свае...

*

У жнівеньскім «Полымі» прачытаў добрыя, з добрым веданнем справы, артыкулы — Зуёнка пра Барадуліна і Казько пра Жука. І ўспомніў прачытаныя днямі ў «Литературной России» словы Тургенева, якія хочацца запісаць.

«Для начинающего писателя сочувствие молодого поколения, его сверстников, конечно, драгоценно: оно служит ему сильным поощрением; но для писателя стареющего, уже готовящегося покинуть свое поприще, это сочувствие *так* выраженное, есть, скажу прямо, величайшая, единственная награда, после которой уже ничего не остается желать. Оно доказывает ему, что жизнь его не прошла даром, труды не пропали, брошенное им семя дало плод».

Хочацца слова праўды пра зробленае табой, а яго не заўсёды пачуеш, як быццам яно ўжо табе, немаладому, і не патрэбна. Імкнешся да тое славы, тое вядомасці, а тады будзеш жадзён хоць якому праўдзіваму слову... Чакай,

хвалюйся, ный, бо сорамна ж пытацца: «Ці прачыталі вы (ці ты) маю апошнюю рэч?..»

*

Па дарозе ў вёску, думаючы пра сваё новае, то задаволенасць, то сумненні вакол яго нязначнасці, успомніў (з часопіснай каляровай вокладкі) «Дзяўчынку з персікамі» Сярова. Ну, і што там за значнасць, за змест? Дзяўчынка і на стале перад ёю тры персікі. Аднак...
Абы было *аднак!*

*

Часта цытую тое, што ўразіла на чужых старонках. Часамі, можа, і зашчодра выпісваю. Гэта — калі, запісанае перш за ўсё для сябе, друкаваць. Навошта? Каб падзяліцца тым, што мне блізка, патрэбна, каб ён спатрэбіўся і іншаму камусьці, мой «чытацкі дзённік».

*

Сабраныя ў кніжку, яны прагучалі для мяне інакш — вершы таленавітага ва ўсім Стральцова [1].
Толькі што прыйшоў з вёскі. Які харошы верасень, вечар, пачатак ночы,— ажно не ведаеш, што яшчэ, як яшчэ пра яго сказаць. Вецер дзьме ўздоўж ракі, і вада ў ёй як быццам яшчэ больш спяшаецца, быстры Нёман стаў яшчэ быстрэйшым, ажно я збочыў і пастаяў.
Кніжка Стральцова настроіла на светлы, працавіты лад. І гэта не «кніжнасць», а жыццё ад жыцця ў нас абодвух. Думалася ў дарозе, што не трэба чакаць яшчэ лепшага часу, яшчэ лепшых умоў для працы, бо яны ў мяне цяпер найлепшыя.
А ў свеце што робіцца!.. «Ці маўчаць, ці мычаць, ці рогі крутыя ў кроў мачаць?..» [2] Ці

---

[1] Міхась Стральцоў. «Яшчэ і заўтра».
[2] Радкі з ваеннага верша Пімена Панчанкі «Зубры».

проста спакойна рабіць сваю справу без панікі і адчаю?..

*

«Міжнародныя правілы руху».

Чытаючы балгарына Хаітава («Дерево без корня»), успомніў паляка Ружэвіча («На дыпламатычным пасту») і многа іншых падобных апавяданняў, таксама менш і больш таленавітых, якія ў маёй памяці страцілі свае размежаванне назвамі ды аўтарамі, зліліся ў нейкую аднатэмную ці тэмападобную масу. «Дрэва, перасаджанае ў старасці» — бацька ці маці, прывезеныя дзецьмі з вёскі ў горад, дзе яны аніяк не могуць прыжыцца.

І гэта, як славутае апусценне вёсак, стала нашай, можна сказаць, міжнароднай тэмай, і адкрываць тут штосьці не прыходзіцца.

І сапраўды — патрэбны міжнародныя правілы руху ў літаратуры: начытанасць, ці што, каб не быць меншым ці большым міжнародным правінцыялам.

*

Зноў да таго, што замнога цытую.

Я раблю гэта з думкай пра нашу чалавечую агульнасць, пра тое, што мы як быццам саромеемся называць братэрствам людзей і народаў, да якога яшчэ так далёка, а ўсё ж дзеля чаго толькі і варта жыць.

Тут, можна зноў жа прывесці цытату, адно з выказванняў Чэхава, словы далікатнага, душэўнага Антона Паўлавіча, што, сустрэтыя ў газеце, уразілі сваёй мудрай, здаровай суровасцю:

«Кто искренне думает, что высшие и единственные цели человеку нужны так же мало, как корове, что в этих целях «вся наша беда», тому остается кушать, пить, спать, или, когда это надоест, разбежаться и хватить лбом об угол сундука».

...А цытую, выпісваю я — перш за ўсё — таму, што гэта ўразіла мяне, што гэта мне блізка, патрэбна.

*

Сябрую з чалавекам, можна сказаць, даўно. Хоць і жывем далёка адзін ад аднаго, і сустракаемся рэдка, перш за ўсё ў Маскве, і перапісваемся вельмі мала. А чытаў я ў яго, здаецца, толькі адну дзіцячую аповесць. Ненармальна. Вось прачытаў у прысланай ім кнізе два раманы ў новым перавыданні. Якраз і напісаць бы таварышу пра добрае ўражанне ад іх, але... Але сорамна прызнацца, што дагэтуль іх не чытаў. Лепш ужо пры выпадку даць яму знаць нейкім чынам, што я ведаю гэтыя рэчы, цаню іх.

Такое — не з гэтым адным...

*

Зімой саракавога — сорак першага года ў верхнепфальцкіх лясістых гарах было многа снегу. Мы, палонныя, капалі ў ім глыбокія дарогі. Нейкі цывільны немец, пажылы і рабочага выгляду, што стаяў над намі разам з вахманам, але без карабіна, выбраў момант, калі мы з ім засталіся воддаль ад усіх іншых, і спытаўся, ці праўда гэта, што я — «комуністышэ шрыфтштэлер»? Я ведаў слова «дыхтэр», паэт, а незнаёмае «шрыфтштэлер», пісьменнік, здалося нечым накшталт наборшчыка ці друкара, чалавека, які *стаўляе шрыфт*. Немцу я, вядома, сказаў, што «нiксфарштэйн», а ён, здалося, не паверыў. Сёння хочацца думаць, што нават пакрыўдзіўся. Сёння трэба таксама сказаць, што гэта хтосьці з легкадумнейшых сяброў не вытрываў — сказаў, што я пісаў, друкаваўся дома, і гэта са шталага прыпаўзло за мною ў далёкую арбайтскаманду.

*

Тры мінус. Сонца толькі што ўзышло. Верасень развітваецца холадна, але светла. Жытняя рунь па нядаўнім ячнішчы, нягледзячы ні па што, ідзе дружна, роўна. Новую сцежку мы пратанталі добра. Спыніўся на ёй, насярод зялёненькай прасторы, і азірнуўся навокал. Лес, лугі са стагамі, рака ў дрэвах, наш лясны бераг — спакойна вечнае.

Учора ўвечары і сёння, пакуль выйсці, чытаў якуцкія апавяданні Івана Ласкова. Учарашні ясна-халодны вечар і такая ж раніца цяпер — нібы дарэчы «якуцкія». Здаецца, хлопец сур'ёзны. Пасля маіх юнацкіх Серашэўскага і Караленкі — наш пра Якуцію. І добра. Напішу яму: і таму, што варта, і што яго «Чароўны камень» дайшоў сюды праз та-ку-ю краінішчу.

*

Малады вясковы дурыла ад першага сутыкнення з медыцынай, як студэнт-першакурснік, гаварыў калісьці, нешта хутка пасля вайны: «А што там ваш N.? Падумаеш — паэт! Усё роўна да нас, у анатамічку, прывязуць!..» З той самай мудрасцю ён, перарастак, ужо не юнак, а мужчына, пазычыў у мяне даволі ладную суму «на тыдзень, па-зямляцку», каб ніколі, як аказалася, не паказацца, ні з грашыма, ні так сабе.

А N., паэт, таксама даўно ўжо прайшоўшы *апошні раз* медыцыну, шчырым словам сваім жыве і далей. Як той араты — з акна аўтобуса на маляўнічай Люблiншчыне,— што ціха, спакойна, вечна ідзе за плугам, пакуль у свеце такія жахі...[1].

---

[1] Гэты і наступны запісы зроблены ў Познані.

*

На шчэцінскіх ваенных могілках — вялікі помнік для ўсіх, што тут пахаваны, вялікія дрэвы, большасць якіх памятае абедзве сусветныя вайны, вялізная прастора нізкіх, шэра-бетонных пірамідак з зоркамі і крыжоў, на сцішным мностве якіх выбіта слова Nieznany. Навокал, скрозь — тыя самыя аднатонныя бяссмертнікі, палосы цёмна-зялёнай туі, падстрыжанай з геаметрычна-сумнай акуратнасцю... І ў маленькім зацішку, *перад адным толькі* словам *Nieznany* схаваўся маленькі стэарынавы каганчык, *znicz*. Нейчы вялікі і адначасна маленькі ў вялізным свеце смутак, агеньчык нейчага сэрца, які мы не маем права не бачыць.

*

Раніца ранняя, карэктура прыемная, з успамінам пра першае, такое ўжо далёкае спатканне з гэтымі «красналюдкамі» [1] ў самым школьным пачатку, з успамінамі пра тыя летнія дні ў нарачанскай хаце, калі я гэта перакладаў, як было нялёгка, як прыемна, як сумна ад думак пра бедную лёсам мову.

...«Вельмі мне брыдка, што не магу нічога добрага сказаць пра гэтага Падпанка, але абы я пра яго падумала,— бачу Падпанка такім, які ён ёсць — ганарлівым і надзьмутым, як пухір».

Казка. Ідзецца пра жабу. А чарадзейка-казачніца, пані Мар'я гаворыць нібы зусім сур'ёзна. І ў гэтым столькі па-матчынаму, па-бабулінаму жаночага!..

...Зверху бяздольных пацяшалі раем — гэта адно: міф, легенда, выдумка, опіум. А што самі яны часамі верылі ў гэты раі — гэта другое:

---

[1] Красналюдкі — па-польску гномы. Маецца на ўвазе карэктура перавыдання аповесці-казкі Марыі Канапніцкай «Пра гномаў і сіротку Марысю», упершыню па-беларуску выдадзенай у 1957 годзе.

хоць у гэтым, хоць якая палёгка, надзея на справядлівасць.

Гэта — таксама над старонкамі Канашніцкай [1].

Хацеў дапамагчы яму, сказаць прыхільнае слова з карыснымі заўвагамі, але дзе там — і гэтая рэч ужо на канвееры, і тут, і ў Маскве. Хлопец, які так пільна і плённа працаваў над словам раней, выходзіць на прасторы гладкапісу, дзе ўжо яму, як і некаторым іншым, парады сяброў будуць лішнімі.

*

Над старонкамі Маруа [2], думаючы пра французскую літаратуру:

«Я ведаю толькі тое, што я нічога не ведаю».

Але ж гэта ніяк не апраўдвае невуцтва. У нас, літаратараў.

*

«Або добра, або нічога».

Вядома, правільна, што не для таго я многіх перажыў, каб іх абрэхваць.

Аднак лепш ужо *нічога,* чым такое *добра,* дзе пішацца з тым самым слёзным ці слінявым пафасам пра Авеля і Каіна, пра мастака і графамана.

Чужы, прыязны крытык піша пра нашага добрага пісьменніка, што ён «паравоз беларускай прозы» ці нават усёй літаратуры.

---

[1] Запіс зроблены ў Мінску, дванаццаць наступных у Юрмале.

[2] Маруа Андрэ (1885—1967) — французскі пісьменнік. Тут — пра кнігу яго публіцыстыкі «Надежды и воспоминания».

Калі гэта нават і праўда, што ён для яго «а грэйсэ паравоз», дык нельга ж усё-такі лічыць усіх іншых, па-свойму добрых і розных, толькі вагонамі, што валакуцца ўслед па трафарэтных рэйках.

*

Днямі:

Асветленая сцежка ў ціхіх соснах, а за гарбатым берагам ракоча мора.

Потым:

З акна дзесятага паверха глядзеў на сасновы гушчар, і дзіўна было, як незвычайна хараша калышуцца вечназялёныя верхавіны — незвычайна ніжэй за нас.

Сёння:

Мора хоць і шуміць, але ж нейкае мякка, лагодна шэрае,— нібыта цёплае і прасторнае, як ніколі дагэтуль.

...У «Даўгаве» (№ IX за гэты год), сярод іншых запісаў Райніса, такое, з 1915 года, здалося і нашым:

«Латыши, как пшеничные зерна, разбросаны по всему свету. Птицы их клюют, и звери их топчут. Но отчего смеетесь вы, чужие народы? А если зазеленеет пшеница и на чужой земле? Если не умерла наша Мать счастья? Если наша истинная мать не покинет своих детей? детей солнца и счастья? Давайте же взглянем, можем ли мы исчезнуть, как счастье и солнце? Не станут ли мир и человечество без нас беднее, не станет ли без нас меньше счастья и солнца?»

*

Шаноўны N. крычыць на тэлебачанні пушкінскага «Прарока». Дастаеўскага пераймае ці што? Калі ж не перайманне гэта, не мода нейкая зноў, а ўнутраная патрэба, дык хоць бы ўжо выступаў па радыё, не ставячы паміж паэзіяй, вялікай і любімай многімі,— сябе, сваю даўно старэчую, далёка не імпазантную

немач, з надрыўна-хрыпатым галёканнем і размахваннем бездапаможна-доўгімі касцямі рук...

*

Кнігалюбы ды следапыты так разбяруць тваю кнігу, так раскладуць па фактах ды прататыпах, па часе ды месцы дзеяння, што табе і не разабрацца, што лепш — мастацкі твор ці яго першааснова...

Такое — у людзей, добразычліва кажучы, прастадушных, як у дзяцей,— жаданне разабраць цацку, паглядзець, а што ў ёй у сярэдзіне, з чаго яна складаецца? І чым цікавейшая цацка, тым большая ахвота разабраць яе. Аднаму, самому толькі, а то і настаўніку з вучнямі розных узростаў...

*

Зноў успомніў мілую Яню Шабуню, якая пры апошняй нашай сустрэчы ў яе дома сказала, што вось выходзіць хутка на пенсію і тады ўжо «буду вам усё друкаваць і вальней і хутчэй». З прыемнасцю думаю, як я, пасля ўсяго «вылушчвання» новай кнігі з чарнавікоў, напісу рабочы рукапіс ёй, нашай Янечцы, як кажуць пра яе ў рэдакцыі. Тады буду чакаць надрукаванага, а потым вычытваць яго і радавацца яе акуратнасці. Да почырку майго яна прывыкла, як ніхто іншы з машыністак, хоць іншых у мяне было вельмі няшмат.

Такому чалавеку, як яна, адзінокая і працавітая, як пчолка, заўсёды ветліва-прыязная, варта было б ведаць, што пра яе думаюць — не адзін я. Штосьці такое мы ёй і напісалі, падарыўшы «Я з вогненнай вёскі...».

... Пасля паўзы, калі чытаў, запісваю: а чаму, уласна кажучы, не даць мне гэта ў «Свае старонкі»? Толькі, можа, каб не яна гэтае месца друкавала?..[1]

---

[1] Так і зроблена.

*

Як бы я ні ўзброіўся жыццёвым вопытам, якім бы ні стаў падрыхтаваным чытачом, усё роўна са светлай журбой успамінаю сваё маладое чытанне. Скажам, «Братоў Карамазавых». Вясной трыццаць сёмага года, калі я араў, баранаваў і ад ясната рання не мог дачакацца вечара, дакладней кажучы — ночы, каб чытаць далей...

Толькі са шчасцем, пакутліва чыстым шчасцем першай закаханасці чытанне тое і параўнаеш. Нават больш там было, бо іншая закаханасць, бывае, праходзіць, а гэтая — не. Іменна — з першага позірку і назаўсёды.

*

Кожную кнігу трэба пісаць як апошнюю.

А потым яшчэ ўсё жывеш, і тое, што даў намёкам, баючыся, каб не прапала, цяпер хочацца, трэба развіць, даць больш грунтоўна. І вось дылема — або бяры тое, што апублікавана, здымай адтуль, дзе яно стаіць, часамі і доўга такі пастаяла, або паўтарайся і, адштурхнуўшыся ад яго, гавары пра тое самае шырэй, глыбей. Па такому адзінаму праву.

# Змест

**Брыль Я.**

Б 89 Сёння і памяць: Апавяданні, мініяцюры, эсэ.— Мн.: Маст. літ., 1985.— 317 с., іл.

У пер.: 1 р. 10 к.

Новая кніга народнага пісьменніка Беларусі, у якую ўвайшлі апавяданні, мініяцюры, эсэ — гэта філасофскі роздум пра з'явы нашай сучаснасці, пра чалавечыя лёсы і характары.

Б $\frac{4702120200-082}{М302(05)-85}$ 4—85

ББК 84Бел7
Бел2



*Иван Антонович*
*БРЫЛЬ*

СЕГОДНЯ И ПАМЯТЬ

*Рассказы,*
*миниатюры, эссе*

Минск, издательство
«Мастацкая літаратура»
На белорусском языке

**Рэдактар**
***М. Н. Герчык***

**Мастацкі рэдактар**
***М. Я. Янчук***

**Тэхнічны рэдактар**
***Т. М. Сокал***

**Карэктар**
***Л. П. Бялова***



ІБ № 2263

Здадзена ў набор 03.07.84.
Падп. да друку 03.04.85.
АТ 12178. Фармат 84×90¹/₃₂. Папера друк. № 1.
Гарнітура звычайная новая. Высокі друк.
Ум. друк. арк. 14,00. Ум. фарб.-адб. 24,50.
Ул.-выд. арк. 14,11. Тыраж 10 000 экз.
Зак. 538. Цана 1 р. 10 к.

Выдавецтва «Мастацкая літаратура»
Дзяржаўнага камітэта БССР па справах
выдавецтваў, паліграфіі і кніжнага гандлю.
220600, Мінск, праспект Машэрава, 11.

Мінскі ордэна Працоўнага Чырвонага Сцяга
паліграфкамбінат МВПА імя Я. Коласа.
220005, Мінск, Чырвоная, 23.